

Аркадзь КУЛЯШОУ

## КОМУНІСТЫ

Комуністы — гэта слова, як са сталі.
Комуністы — гэта слова, як з агню.
Маркс і Энгельс нам імя такое далі
Сто гадоў таму назад упершыню.

Сто гадоў таму назад было нас мала,
Сто гадоў назад мы вышлі на вайну,
Сто гадоў мы рыем дол для капітала,
Для хаўтур яго скалочваем труну.

Мы не верым ані ў бога, ні ў малітвы,
І няма для нас другіх свяцейшых слоў,
Апроч лозунгаў і заклікаў да бітвы,
Апроч песень, ад якіх бунтуе кроў.

Нас не раз яны ўздымалі, як загады,
Комунізма даль — наш вырай дарагі,
Гнёзды нашыя — з каменняў барыкады,
Крылы нашыя — чырвоныя сцягі.

Комуністы — гэта Леніна салдаты,
Воляй Сталіна з'еднаныя рады.
Упісаны перамог сусветных даты
Іх крывёю ў каляндар на ўсе гады.

Незабыўных не забудзем мы ахвяраў,
Да канца за нашу справу пастаім,
Сцяг чырвоны векапомных комунараў
Нашай змене для палёту аддадзім.

Так і я аддам, як спадчыну, да звання,
Барацьбы агонь, што ў сэрцы берагу.
Комуністы!.. Гэты заклік да змагання
Вымаўляць без хвалявання не магу.

Гэтым словам, гэтым імем самым чыстым
Самых блізкіх мне я клічу не адзін,
Я хачу, каб называўся комуністам
Родны сын мой, а таксама сынаў сын.

Сто гадоў прайшло, і блізка наша мэта,
Да якое з барацьбою мы ішлі,
Хутка будуць называцца — знаю гэта —
Комуністамі ўсе людзі на зямлі.

Максім ТАНК

## ПАРТЫЯ

З нашых мараў, імкненняў, крыві і металу
Гэта слова радзілася ў нас і паўстала.
Ёсць у ім да жыцця незнішчальная прага,
Да высокіх палётаў шырокія крылы,
І нячутныя ў свеце любоў і адвага,
І нябачаная пераможная сіла.

Ёсць у ім вышыня неабсяжная гораў,
Ёсць у ім глыбіня цёмнасіняга мора,
Ёсць у ім цвёрдасць сталі гартоўнай, адменнай,
Ёсць у ім голас медзі набатнай жывой,
Ёсць у ім жыватворчага сонца праменні,
Непарыўная сувязь з вясной і зямлёй.

І таму яно так незаходзячы свеціць
І жыве ў нашых думах, у песнях, у сэрцах.

На першай старонцы вокладкі: **Малодшы сяржант Генадзі Барысаў, узнагароджаны Ганаровай граматай ЦК ВЛКСМ за выдатныя паказчыкі ў баявой і палітычнай падрыхтоўцы.**
На чацвёртай старонцы вокладкі: **Зімовы пейзаж.**
Фота А. Дзітлава.



У ліку першых беларускіх комсамольцаў, якія паехалі ў Казахстан на асваенне цалінных і абложных зямель, быў Уладзімір Вараб'ёў, майстар Магілёўскага лакамабільнага завода. Прайшло некалькі год, і вось Ул. Вараб'ёў зноў у Беларусі. Ён прыехаў сюды, каб прыняць удзел у рабоце XIX з'езду ЛКСМБ. Нямала цікавага даведаўся ён ад сваіх старых сяброў і многім мог падзяліцца сам.

На здымку: Група дэлегатаў ад комсамольскай арганізацыі горада Магілёва гутарыць з дарагім госцем з Казахстана. Злева направа: Б. Сіпайла, А. Шырачэнка, Ул. Вараб'ёў, Е. Землякова і А. Зацэпіна.

Фото А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

№ 2 (35).

Люты.

1956.



Комсамольцы перадавой брыгады № 3 калгаса імя Будзённага. Першы рад злева направа: Анна Авер'янава і Зоя Авер'янава. Другі рад: Зіна Авер'янава, Віктар Рудаў і Леанід Тупкоў.



Комуністы завода імя Кірава, якія аказалі дзейсную дапамогу калгасу імя Будзённага. Справа налева: электразваршчык Д. Е. Крацянок, кантрольны майстар П. Д. Жукаў і слесар А. І. Селязнёў.

# ПАСЛАНЕЦ КІРАЎЦАЎ

Раман **САБАЛЕНКА**

Працуючы на Гомельскім заводзе імя Кірава, Міхаіл Нікіфаравіч Галалобаў прывык мець справу з рабочымі. Ён разумеў тую бясспрэчную ісціну, што кожны, ці ён малы, ці вялікі кіраўнік, павінен быць перш за ўсё чалавеказнаўцам, ведаць у дасканаласці тых людзей, з якімі яму даводзілася працаваць. Але адна справа заводскі калектыў і зусім іншая справа — калгас, дзе ўмовы працы вельмі складаныя. Вось чаму, калі два гады таму назад сакратар партыйнага бюро завода на развітанне гаварыў Галалобаву:

— Партыйная арганізацыя спадзяецца, што вы і ў калгасе, як і на заводзе, будзеце высока несці званне комуніста, — ён хоць і адказаў па-салдацку:

— Ёсць. Спадзяюся, што апраўдаю надзеі партыйнай арганізацыі і ўсяго калектыву завода, — усё-ж недзе ў глыбіні душы ў яго была нейкая няяснасць, а можа нават і няпэўнасць. Аднак ён гэтага нікому не сказаў, бо сказаць, гэта значыла прызнаць сваё маладушша, а комуністу гэта не да твару.

— А калі што не так, дык у нас заўсёды дзверы для вас адчынены, — сказаў дырэктар завода тав. Фёдараў, — дапаможам парадай і ўсім, чым можам.

На першым сходзе, на якім выступіў Міхаіл Галалобаў, ён нічога такога не абяцаў, не зычыў залатых гор, ён адно толькі гаварыў, што калі калгаснікі ўсе, як адзін, будуць добрасумленна працаваць, дык будуць мець і хлеб і сёе-тое да хлеба. Гэта спадабалася людзям, бо ўсе тыя старшыні, якіх яны выбіралі дагэтуль, вельмі ўжо распіналіся ў сваіх абяцанках. Узяць хоць-бы ранейшага старшыню Еўланава. Ён-жа абяцаў і грамадскія будынкі паставіць, і на працадні хлеб і грошы выдаваць, а цяпер вунь сам ледзь на нагах трымаецца, нават на сход не мог прыйсці не выпіўшы. Галалобаў глядзеў на Еўланава і шкада яму рабілася чалавека за яго душэўную слабасць. Ён думаў: «Не, я гэтак не зраблю, калі што не так, дык чэсна скажу: гэта воз не па маёй сіле, няхай другі, хто дужэйшы, запрагаецца ды вязе яго».

Цяпер усё гэта выразна ўспамінаецца Міхаілу Нікіфаравічу, як далёкае, цяжкае, хвалюючае, бо, можа, каб не было гэтага мінулага, дык і цяпер-бы не быў ён гэтакім гартоўным. Нішто-ж так чалавека не акрыляе, як перамога, якая ўзята з цяжкага бою. А бой быў за тое, каб калгас імя Будзённага, самы адсталы ў раёне, ды не толькі ў раёне, а бадай ва ўсёй вобласці, выйшаў у людзі. Міхаіл Нікіфаравіч памятае, як ён у першы месяц вырашыў абхадзіць усе хаты, паглядзець, як калгаснікі жывуць, пагаварыць, што думаюць, як маркуюць жыць, працаваць. Зайшоў ён тады ў хату да Матроны Казловай. Старая жанчына з-пад ілба бліснула на чалавека, і Галалобаву здалося, што вось яна так і скажа: «Чаго ты сюды прывалокся, што табе тут трэба?»

Матроніны дочкі Ганна, Анюта, Ірына былі таксама ў хаце. Яны сарамліва паадварочваліся, каб нават і не глядзець на старшыню, бо баяліся, што ён пачне прабіраць за гультайства. Аднак Галалобаў пачаў сваю гаворку з іншага.

— Дык як яно пажываецца, цётка Матрона?

— Як? — перапытала яна. — Хіба-ж жывеш так, як хочацца? Жывеш, як яно само набяжыць.

— Значыцца, не важна жывецца. А мы от цяпер вырашылі, каб лепш і вам і ўсім нам жылося, — сказаў старшыня.

«Вам-то што адыходзіць, вам грошы плацяць», — хацела сказаць Матрона, але не адважылася і замест гэтага кінула звыклае ўжо, абыякавае:

— Пажывем, пабачым...

— Пабачыць гэтага мала. Нельга нікому ў калгасе быць за сведку, трэба дамагацца таго, каб было лепш. Такіх сведак у калгасе, якія не выпрацавалі мінімума працадзён, каля трохсот чалавек. А каб яны ўсе папрацавалі, кожны як мае быць, дык, вы ведаеце, як зашумеў-бы наш калгас!

Старшыня выйшаў ад Казловых не зусім задаволены сваёй размовай, хоць ён і бачыў, што дзяўчаты пад канец гутаркі неяк інакш пазіралі на яго. Ён гаварыў, як яму здавалася, не тое, што трэба было. Можа варта было павысіць тон размовы, каб яны адчулі сілу і ўладу старшыні. Аднак праз які тыдзень у праўленне прышла большая матроніна дачка Ганна, якая дагэтуль працавала на райпрамкамбінатаўскай цагельні. Яна ў нерашучасці стала перад старшынёй і як-бы не ведала, з чаго пачынаць гаворку.

— Дык я надумалася, таварыш старшыня, пайсці свінаркай. Мне даўно гэта рупіла зрабіць, але там парадку не было. А цяпер, бачу, будзе парадак.

Старшыні хацелася крыкнуць: «Малайчына, Ганна», але ён стрымаў сваё захапленне і амаль абыякава сказаў:

— Добра, улічым ваша жаданне.

Аднак за гэтай вонкавай абыякавасцю адчувалася радасць першай перамогі.

У трэцяй паляводчай брыгадзе не ладзіліся справы. Старшыня адтуль не вылазіў, як кажуць, і дзень і ноч. Ён бачыў, што людзі ў брыгадзе працавітыя, адно вось брыгадзір Дзянісаў Клім стаў, ды можа ён і быў такім, занадта ўжо абыякавым. Не адчувалася ў ім ні гаспадара, ні дарадчыка, ні старэйшага таварыша калгаснікаў. Ён калі што і рабіў, дык як-бы па прымусу. А больш за ўсё ўлетку туляўся па халадках, а зімою па хатах. Зацішнасць яму гэтак была люба, што ён страціў усялякую адказнасць і за сябе, і за людзей. Аднаго разу Галалобаў вырашыў пагутарыць з брыгадзірам. Што ён ні гаварыў Кліму, той з усім згаджаўся, а назаўтра забываў пра тую гаворку і рабіў так, як і раней. Адным словам, брыгада была самай адстаючай, яе раз'ядалі розныя нелады. У людзей рукі апусціліся. Старшыня ўбачыў, што нічога з Дзянісава не выйдзе. Ён пачаў прыглядацца да членаў брыгады, маркуючы, каго-б тут паставіць за брыгадзіра. І вось кінуўся ў вочы старшыні сваёй паваротлівасцю, гаспадарскай кемлівасцю малады хлопец Лёня Тупкоў. Старшыня бачыў, што калі той што рабіў, дык у карых борздых вачах яго аж свяціўся агеньчык маладосці. Ён у людзей распытаў усё пра Леаніда і даведаўся, што той нядаўна вярнуўся з арміі, у свой час працаваў трактарыстам. Увечары старшыня пайшоў да сакратара партыйнай арганізацыі Цімафея Сцепаненкі. Па дарозе сустрэўся член праўлення Яўхім Янкоў. Старшыня ў яго спытаў:

— Як ты думаеш, калі мы ў трэцяй брыгадзе паставім за брыгадзіра Леаніда Тупкова?

Той падумаў крыху, як-бы ўзважваючы, чаго варта старшынёва прапанова, аднак сказаў неяк няпэўна:

— Ды яно так — уцёк не ўцёк, а пабегчы можна.

Сакратар партарганізацыі адказаў больш выразна і пэўна:

— Згодзен з тваёй прапановай: трэба-ж нам маладых вырошчваць. Комсамолец ён добры і гаспадар, відаць, будзе не благі.

Леаніда выклікалі на праўленне. Калі старшыня сказаў, што партыйная арганізацыя, параіўшыся, вырашыла вылучыць Леаніда Тупкова брыгадзірам трэцяй брыгады, твар хлопца заліла няпрошаная чырвань, і ён толькі і вымавіў адно:

— Дык як-жа гэта — дзядзька Клім не справіўся, а хіба-ж я спраўлюся?

— Справішся, — як-бы ў адзін голас адказалі члены праўлення. — Ты-ж комсамолец.

І цяпер, калі старшыня бывае ў трэцяй брыгадзе, калгаснікі наперабой выказваюць сваё захапленне маладым брыгадзірам. Радасна было за чалавека, у якім ён не памыліўся, радасна за сябе, бо ў тым, як паставіў-



Брыгадзір па радыёсувязі Д. Е. Трыбілустаў за ўстаноўкай дынамікаў на тэрыторыі калгаса імя Будзённага.

ся новы брыгадзір да калгаснікаў, быў і яго прынцып, паводле якога клопаты пра людзей—аснова асноў поспеху ў агульнай справе.

Праз які тыдзень пасля таго, як Галалобава выбралі старшынёй калгаса, ён паехаў на свой родны завод. Калі ён зайшоў у памяшканне партбюро, там былі сакратар партбюро Эпштэйн, дырэктар завода Фёдараў, электразваршчык Кузмянкоў, кантрольны майстар Жукаў, слесар Селязнёў. Яны ўсе хораша заўсміхаліся Міхаілу Нікіфаравічу.

— Вітаем нашага пасланца, — сказаў дырэктар.

— Вітаць — гэта мала, таварыш Фёдараў. Трэба падумаць, чым дапамагчы...

— Гэта правільна, што трэба падумаць, — сказала сакратар партбюро і зірнула на прысутных. — От няхай у выхадны дзень таварыш Жукаў, Кузмянкоў і Селязнёў пад'едуць ды паглядзяць, што там вам трэба. Як вы думаеце, таварышы?

— Мы з дарагой душой, — адказалі амаль хорам комуністы.

— А чым завод вам можа дапамагчы? — спытаў дырэктар.

— Нам шмат чаго трэба. Вы, канешне, усяго не зробіце... Некаторыя машыны трэба адрамантаваць. Ды падвесную дарогу на фермах думаем зрабіць. Наогул добра было-б, каб часцей комуністы заводскія наведваліся.

— Гэта праўда, — уставіла сваё сакратар партбюро. — Цяпер гэты калгас як-бы нашым цэхам павінен стаць.

Галалобаў пакідаў завод акрылёным: ён дамовіўся, што заводскія комуністы ў свой нерабочы час зробяць для калгаса гантарэзку, дапамогуць абсталяваць падвесную дарогу і, галоўнае, што яны будуць у калгасе частымі гасцямі, дапамогуць яму, партыйнай арганізацыі калгаса, якая пакуль што складаецца ўсяго з трох чалавек, працаваць з людзьмі, выхоўваць іх. А гэта лічыў ён асноўным у сваёй рабоце.

...Старшыня сядзіць за вялікім канцылярскім сталом, а за спіной у яго праз усю сцяну развешаны вялізны аркуш ватманскай паперы, на якім намаляваны дыяграмы, лічбы. Слупкі дыяграм, адзін пры адным, падымаюцца ўгару. Гэта — перспектыўны план развіцця калгаса на пяць год. Гэта таксама распрацавана і зроблена з дапамогай шэфаў. Многае з таго, што там запісана, ужо здзейснена. Вунь з акна кабінета старшыні відаць будынiны. Даўжэзная мураваная абора — гэта новы свінарнік, а крыху воддаль кароўнікі, стайні. Два гады назад іх не было ў натуры, яны толькі былі на паперы. Чуваць, як тахкае рухавічок. Гэта падаецца ў вадаправодную сетку вада, мякка слізгаюць па рэйцы ваганеткі падвеснай дарогі. Некаторыя калгаснікі тады нават веры не давалі, што ўсё гэта будзе. І толькі як з завода прыехала брыгада комуністаў у складзе электразваршчыка Круцянкова, кантрольнага майстра Жукава, слесара Селязнёва ўстанаўліваць механізмы на ферме, нават самыя зацятыя скептыкі ўбачылі, што робіцца ўсё гэта не на жарт, а сур'ёзна, надоўга і для карысці калгаса.

Тады, як комсамольцы малявалі перспектыўны план на пяцігоддзе, у праўленне зайшоў конюх Гарасім Ткачоў. Вёрткі не па гадах чалавек, ён прывык не браць нічога на веру, і таму, зірнуўшы на дыяграмы, сам сабе ўсміхнуўся ў кароткія рыжаватыя вусы і ціхенька сказаў:

— Цацачкі малююць.

Яму і не ў галаве, што кожная лічба, запісаная ў план, прадумана і абмеркавана, што за кожнай з іх бяссонныя ночы старшыні, калгасных комуністаў, членаў праўлення. Гарасіма больш за ўсё цікавілі коні, але яны пакуль што былі знясіленыя, занядбаныя. Старшыня тады сказаў:

— Ты, Гарасім, не бойся, хутка ў нас будуць такія коні, што ты і не ўтрымаеш іх.

— Хм, будуць, — усміхнуўся ў вусы Гарасім. — Адкуль-жа яны возьмуцца?

— Купім.

І вось цяпер Гарасім пад'ехаў на ардэнскім стаенніку да праўлення калгаса.

— Як ён табе падабаецца, гэты канёк? — спытаў старшыня.

— Калі праўду сказаць, дык ён лепшы за тую вашу «Пабеду». На ёй па снезе не паедзеш, а на маім «Ваську» — куды хочаш. Толькі от яшчэ маладаваты, дурнаваты трохі, але я яго аб'езджу. Ён у мяне будзе, як шаўковы.

А слупкі дыяграм усё лезлі і лезлі ўгару. І кожны з калгаснікаў, хто заходзіў у праўленне, ведаў, што гэта не толькі намалявана на паперы, а што гэта тое, што ёсць, што павінна быць у жыцці. Яны бачаць гэта па тым, што ў 1953 годзе грашовы даход калгаса складаў 160 тысяч рублёў, а цяпер ён падбіраецца пад паўтара мільёна рублёў. Яны бачаць гэта ў тым, што сям'я калгасніцы Матроны Казловай, якая тры гады таму назад амаль нічога не атрымлівала на працадні, сёлета атрымала 240 пудоў хлеба, каля 6 тысяч рублёў грошай, многа бульбы, кармоў для жывёлы. Яны бачаць гэта ў тым, што ў калгасе абсталёўваецца свой радыёвузел больш як на дзве тысячы кропак, будуецца прасторны мураваны клуб. Многа прыяў новага, дарагога нарадзілася за гэтыя два гады, як калгасам пачаў кіраваць сапраўдны комуніст, прадстаўнік нашага слаўнага рабочага класа.

На абласной партыйнай канферэнцыі Галалобаў сустрэўся з комуністамі-кіраўцамі. Дырэктар першым заўважыў яго, і радасная ўсмешка асвятліла твар гэтага сур'ёзнага чалавека.

— Таварыш Галалобаў, віншуем вас, — сказаў ён.

— З чым? — перапытаў старшыня.

— Кіраўцы ганарацца вамі, — падтрымала дырэктара сакратар партбюро завода. — Вы-ж едзеце на партыйны з'езд КПБ не толькі дэлегатам сельскіх комуністаў, а і нашым. А хіба гэта не гонар для нас?

— Дзякую, — адказаў Галалобаў. — У тым, чаго дасягнуў наш калгас, немалая доля ёсць і заводскай партыйнай арганізацыі.

І сапраўды гэта так, бо перамогу калгасу заваявалі не толькі калектыў калгаснікаў, за яе змагаліся і комуністы завода, якія паслалі кіраваць калгасам свайго лепшага прадстаўніка і якія не забываюць пра свой важнейшы абавязак дапамагаць калгасу ў яго імклівым росце, у яго станаўленні.

**Буда-Кашалёўскі раён.**



Насос для падачы вады, устаноўлены з дапамогай шэфаў на кормакухні калгаса імя Будзённага.

Фота С. Чырэшкіна.

# ПАЭТ—ГЕРОЙ

У лютым гэтага года споўнілася пяцьдзесят год з дня нараджэння вядомага татарскага паэта Мусы Джаліля.

Трынаццацігадовым хлапчуком М. Джаліль уступіў у комсамол і ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў справе народа.

Аўтар шматлікіх зборнікаў вершаў і паэм, ён прайшоў вялікі жыццёвы шлях — ад актыўнага комсамольскага работніка, арганізатара піонерскіх дружын да члена бюро татара-башкірскай секцыі ЦК ВЛКСМ. М. Джаліль кіраваў саюзам пісьменнікаў Татарыі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, ён са зброяй у руках пайшоў на фронт абараняць Радзіму. У вольныя ад баёў хвіліны паэт пісаў палымяныя вершы, якія засталіся лепшымі ўзорамі ваеннай лірыкі.

Улетку 1942 года М. Джаліль прапаў без вестак. Доўгі час невядомы быў лёс паэта.

Толькі пасля вайны бельгійскі партызан Андрэ Цімерманф перадаў совецкаму консульству ў Бруселі запісную кніжку з вершамі М. Джаліля. У саюз пісьменнікаў Татарыі дайшла другая запісная кніжка паэта. Гэтыя дзве маленькія самаробныя запісныя кніжкі, сведкі барацьбы і пакут іх уладальніка, расказалі аб далейшым жыцці М. Джаліля.

У часе жорсткіх баёў на Волхаўскім фронце, цяжка паранены, паэт трапіў у фашысцкі палон. Апынуўшыся ў канцлагеры, М. Джаліль пачынае праводзіць агітацыю, распаўсюджвае антыфашысцкія вершы, арганізоўвае ўцёкі ваеннапалонных. Патрыятычная праца паэта была раскрыта — здраднік выдаў М. Джаліля. Фашысцкія каты кінулі яго ў берлінскую турму Маабіт і прыгаварылі да пакарання смерцю. Каля года прасядзеў ён у змрочнай камеры, не скарыўшыся перад ворагам.

У турме М. Джаліль зрабіў дзве запісныя кніжкі, у якія і запісваў вершы, што з'яўляюцца адлюстраваннем крыштальна чыстай і бязмежна стойкай душы паэта.

Гэтымі высокамастацкімі вершамі, многія з якіх цяпер перакладзены на рускую мову і выдадзены асобнымі зборнікамі, будуць захапляцца пакаленні.

У студзені 1944 года фашысцкія каты забілі паэта-комуніста, але яны не здолелі пахаваць яго мужных твораў, прасякнутых нянавісцю да ворагаў. Палымяныя вершы М. Джаліля, пераходзячы з рук у рукі, з краіны ў краіну, дайшлі да Радзімы.

У сэрцах совецкіх людзей заўсёды будуць жыць светлы вобраз паэта-героя і яго неўміручыя песні.

Муса **ДЖАЛІЛЬ**

## Мае песні

Песні, ў душы я ўзрасціў вашы ўсходы,
Каб у цяпле на радзіме цвілі.
Колькі вам даў я агню і свабоды,
Столькі вам суджана жыць на зямлі!

Вы мае думкі, натхнення хвіліны,
Палкасць пачуццяў і слёз чысціня.
Вы памраце — я, забыты, загіну,
Будзеце жыць — не памру з вамі я.

Песняй агонь распаліў я і здзейсніў
Сэрца загад і народа наказ.
Сябра любімага песціла песня,
Ворага перамагала не раз.

Я адмаўляю нікчэмнае шчасце,
Горда нясу перад ім галаву.
Песня прасякнута праўдай і страсцю —
Тым, для чаго я на свеце жыву.

Сэрца не здасца, яно, малайчына,
Выканаць здолее клятву сваю:
Песні заўжды прысвячаў я Айчыне,
Зараз Айчыне жыццё аддаю.

Песні спяваў я шчасліваму маю,
Песні спяваў, калі крочыў у бой.
Вось і апошнюю песню спяваю,
Бачачы катаў тапор над сабой.

Песня на волі мне жыць загадала,
Песня вучыла байцом паміраць.
Песняй свабоды жыццё прагучала,
Смерць будзе песняй змагання гучаць.

Пераклаў **Мікола АУРАМЧЫК.**



Пасля заняткаў у Сувораўскім вучылішчы.

# СУВОРАЎЦЫ

**Н. ВІНАГОРАЎ**

Неўзабаве пасля вайны мне прыйшлося ехаць у поездзе і, як гэта заўсёды бывае, знаёміцца з пасажырамі. Адзін з пасажыраў, старшы афіцэр, аказаўся выхавацелем сувораўскага вучылішча. Справа гэтая была па тым часе новая, і я міжволі ёю зацікавіўся. Афіцэр аказаўся цікавым субяседнікам.

— Выхаванне мужнасці трэба пачынаць з самага дзяцінства, — гаварыў ён. — Сувораўскія вучылішчы могуць найлепш выканаць гэтую задачу. Сувораўцы — гэта надзейная змена совецкім афіцэрам.

Мне запомніўся расказ пра аднаго з сувораўцаў.

У Валодзі Аніканава на фронце цяжка параніла бацьку, а маці хварэла. Вучыцца Валодзя далей не мог, а жаданне было вялікае. У гэты час набіралі ў сувораўскія вучылішчы. Валодзя вырашыў паступіць туды. Ён паехаў у раённы цэнтр. Але там набор закончылі. Валодзя паехаў у вобласць. І зноў дарэмна: патрэбную колькасць хлопчыкаў ужо набралі. Юнак не хацеў адступаць і падаўся проста ў сувораўскае вучылішча. Настойлівасць хлопчыка спадабалася начальніку вучылішча, і ён прыняў яго.

Падрыхтоўка ў Валодзі была прыкметна слабейшая, чым у многіх яго сяброў, якія займаліся разам з ім у групе. Першыя дзве чвэрці хлопец адставаў. Але ён не здаваўся, і аддаваў кнігам увесь свой вольны час. Забываў нават пра адпачынак, і яму прыходзілася часта аб гэтым напамінаць. Затое ўжо ў трэцяй чвэрці Валодзя разлічыўся з тройкамі, а ў канцы года выйшаў у рады лепшых вучняў.

Вясковы хлопчык неўзабаве стаў комсамольцам, а яшчэ крыху пазней — важаком моладзі. Яго любілі, ім ганарыліся...

Размова пра цікавага вясковага хлапца адбылася даўно. А зусім нядаўна мне давялося пабываць у Мінскім сувораўскім вучылішчы, і там я сустрэў самога Валодзю Аніканава. Здарылася гэта так. Я распытваў у аднаго сувораўца пра яго вучобу, поспехі.

— Вучуся, як і ўсе, — сціпла гаварыў хлопец. — Вы лепш напішыце пра нашага выхавацеля. Мы ўсе вельмі паважаем яго.

— За што?

— За ўсё. За чуласць асабліва. Старшы лейтэнант сам сувораўцам быў, а потым камандзірам. Людзей навылет бачыць і разумее кожнага.

Уладзіміра Аніканава, ветэрана ў вачах маладой змены сувораўцаў, сапраўды любяць і паважаюць. І ёсць за што. Закончыўшы сувораўскае вучылішча на выдатна, ён паступіў у афіцэрскае вучылішча, якое таксама закончыў па першаму разраду. Некалькі год служыў страявым афіцэрам у часці. І вось зараз — сам выхавацель.

Лёс вясковага хлопчыка Валодзі найлепш гаворыць пра ўмовы жыцця і вучобы сувораўцаў. Мінскае вучылішча існуе ўсяго тры гады. Сёлета мае адбыцца толькі першы выпуск навучэнцаў. Але ёсць ужо тут і свае традыцыі, і свае героі.

Самым «старым» сувораўцам сёння не больш 17—18 год. Самым маладым — 12—13. Усе яны жывуць дружнай сям'ёй, па адзінаму распарадку дня. Кожны з вучняў рыхтуе сябе да адной мэты — стаць афіцэрам Совецкай Арміі, культурным, свядомым грамадзянінам сваёй Радзімы.

Падпалкоўнік Арлоў расказвае:

— Сувораўцы займаюцца па праграме сярэдняй школы ў аб'ёме дзесяцігодкі. Па матэматыцы яны атрымліваюць веды нават большыя, чым у звычайнай дзесяцігодцы. Акрамя гэтага, сувораўцы вывучаюць ваенную справу — знаёмяцца з асновамі тактыкі, са стралковай зброяй, вучацца страляць. Многа ўвагі аддаецца фі-



## ЛЕНІНГРАДСКАЕ МЕТРО

**Гэта здавалася неверагодным. Хіба можна будаваць падземную чыгунку ў горадзе, які стаіць на адвечных балотах? Уяўлялася, што недзе там, пад Неўскім праспектам, яшчэ і зараз захавалася дрыгва.**

**Але вось за справу ўзяліся геолагі. З сотняў буравых скважын былі ўзяты і даследаваны ў лабараторыях пробы грунту. І ўсе яны давалі адзін адказ: у Ленінградзе можна будаваць метро. Складаліся праекты, каштарысы; канструяваўся новы ўнікальны механізаваны горнапраходны шчыт. З Масквы, з Метрабуда, у горад Леніна прыехалі вопытныя метрабудаўцы. Сотні комсамольцаў, моладзі авалодвалі захапляючай прафесіяй землепраходчыкаў. Над будоўляй узяў шэфства ленінградскі комсамол.**

**Некалькі год ішла ўпартая, напружаная праца. І вось Ленінградскі метрапалітэн гатовы. Гэта — адзінаццацікіламетровая траса Аўтава — Плошча Паўстання. Яна звязвае восем станцый. Кожная станцыя — сапраўдны палац. Станцыі ўпрыгожаны гарэльефамі, аркамі, дугамі, скульптурамі. Кожная станцыя светлая, прасторная, велічная. Усюды адчуваюцца клопаты аб чалавеку.**

**Раней, каб праехаць на трамваі па трасе метрапалітэна, рабочаму патрабавалася сорак пяць хвілін, цяпер гэты шлях ён пераадольвае за пятнаццаць хвілін, седзячы ў мяккім крэсле камфартабельнага вагона электравоза.**

**Пабудова першай чаргі была вялікай перамогай не толькі метрабудаўцаў, але і ўсіх працоўных Ленінграда. Трыста прадпрыемстваў горада Леніна будавалі свой метрапалітэн. І вось імчаць ужо хуткія паязды, бесперапынна ўверх-уніз паўзуць эскалатары. Метро пачало дзейнічаць.**

**Совецкі ўрад высока ацаніў гераізм метрабудаўцаў. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР Ленінградскаму метрапалітэну было прысвоена імя вялікага Леніна, а Метрабуд узнагароджаны вышэйшай урадавай узнагародай — ордэнам Леніна. Медалі Совецкага Саюза атрымалі звыш тысячы будаўнікоў, работнікаў прамысловасці, партыйных, комсамольскіх і совецкіх арганізацый.**

**Па першаму ўчастку першай чаргі ідуць паязды. А побач ужо вядуцца работы на другім участку першай чаргі — ад Маскоўскага вакзала на Выбаргскую старану.**

На здымку: станцыя Плошча Паўстання.

зічнаму выхаванню. Сярод суворацаў многа здольных спартсменаў. У роце працуюць секцыі бокса, фехтавання, баскетбола, гімнастыкі, плавання, класічнага пяцібор'я. Асаблівыя поспехі ў баскетбалістаў. У спаборніцтвах з другой юнацкай камандай г. Мінска яны неаднаразова дабіваліся перамогі.

Мы праходзім па вучэбных класах, сустракаемся з суворацамі, знаёмімся з іх жыццём, бытам. Падлеткі і юнакі, будучыя афіцэры, жывуць поўнакроўным, цікавым жыццём. Яны наладжваюць вялікія вечары і канцэрты мастацкай самадзейнасці, арганізоўваюць культпаходы ў тэатры, кіно, наведваюць музеі, прадпрыемствы, сустракаюцца са знатнымі людзьмі рэспублікі. А самае галоўнае — добра вучацца. Мы пазнаёміліся з многімі суворацамі. Вось адзін з іх — Яўгені Дудароў.

Нарадзіўся ён за два гады да пачатку Айчыннай вайны. Малодшы брат Валодзя нарадзіўся ў першы дзень вайны. Бацька пайшоў на фронт і не вярнуўся. Маці пасля весткі аб смерці бацькі занемагла і хутка памерла. Пяцігадовы Яўгені застаўся адзін. Але Радзіма не пакінула Яўгенія і яго трохгадовага брата сіротамі. Абодва яны трапілі ў дзіцячы дом. Закончыўшы сямігодку, Яўгені паступіў у Мінскае суворацкае вучылішча.

Цяжкім быў першы год. Хлопчык слаба ведаў рускую мову. Ён рабіў безліч памылак і нават страціў ужо веру, што калі-небудзь навучыцца граматна пісаць. «Памяць у мяне, як рэшата», — скардзіўся хлопец і траціў роўнавагу. На дапамогу прышоў афіцэр Уладзімір Аніканаў. Ён-жа сам некалі перажыў нешта падобнае. Першае, што зрабіў Аніканаў, гэта заняўся пошукамі малодшага брата Яўгенія — Валодзі. Праз нейкі час гэта яму ўдалося. Хвалюючай была сустрэча братоў, якія доўга не бачыліся. Як і спадзяваўся Аніканаў, гэтая сустрэча была пераломным момантам для Яўгенія. Ён адчуў сябе старэйшым, адказным за лёс малодшага брата. Цяпер ён проста не мог дрэнна вучыцца.

Чацвёркі па рускай мове прышлі, зразумела, не адразу. Дапамаглі і таварышы, і выкладчыкі.

Інакш склаўся лёс у суворацца Ігара Зашчарынскага. Жыццерадасны, удачлівы Ігар не ведаў цяжкасцей і нягод у жыцці. Веды даваліся яму лёгка. Гэта і ўскружыла юнаку галаву. Ён стаў супроцьстаўляць сябе калектыву, пагарджаць таварышамі. Здарылася так, што па ўсіх прадметах у Ігара былі пяцёркі і толькі па фізкультуры тройка. Таварышы прапанавалі яму дапамагчы. Але самазакаханы Ігар адхіліў іх прапанову. Было зразумела, што хлопчык стаў на небяспечны шлях.

На дапамогу, як і заўсёды, прышоў афіцэр Аніканаў. Ён часта размаўляў з Ігарам, цікавіўся яго жыццём, яго поспехамі.

Барацьба за Ігара была доўгай і нялёгкай. Пераможцам у гэтай барацьбе вышаў калектыў, выхавацель Аніканаў.

Ад суворацаў старэйшага, дзесятага, класа мы накіраваліся да самых малодшых, якіх выхоўвае падпалкоўнік Цімохін. Міхаіл Іванавіч, усміхнуўшыся, папярэдзіў:

— Не здзіўляйцеся, калі ў пакоі палітыка-асветнай работы ўбачыце цацкі, самыя звычайныя дзіцячыя цацкі. У нас-жа таксама дзеці, і трэба, каб яны і адчувалі сябе, як дзеці.

Сапраўды, тут ёсць усё для вясёлага адпачынку дзяцей. На сцяне карціны па сюжэтах рускіх казак. Цацкі. Кветкі. Вясёлая гамонка дзетвары. За сталом заўзята змагаюцца ў шашкі Коля Андрыянаў і Барыс Марчанка.

У бібліятэцы за падрыхтоўкай да заняткаў.



Разгаварыліся з Колем. Бацька яго загінуў пад Сталінградам. Коля ўжо два гады круглы выдатнік. Ён захапляецца спортам, удзельнічае ў самадзейнасці, іграе на піяніна, пяе, дэкламуе, дапамагае адстаючым.

У процівагу бойкаму, гаваркому Колю, Барыс Марчанка расказваў пра сябе спакойна, узважваючы кожнае слова. Ён з Клімавіч. У яго многа сяброў. Ён таксама любіць спорт, музыку, іграе на домры, піяніна, гармоніку. Коля прайграў некалькі мелодый на піяніна. Вось тут і пачалося: кожны, хто быў у пакоі, захацеў паказаць свой талент. Спявалі, танцавалі, дэкламавалі, гулялі ў настольны хакей...

У самы разгар гэтай весялосці раздалася каманда днявальнага:

— Падрыхтавацца да пастраення на вячэрнюю прагулку!

Пакінуўшы гульні, суворацы хутка займаюць свае месцы ў страі. Яны выходзяць на вуліцу. Над стройнай шарэнгай лунае песня.



## ЖЫВЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ...

У Музеі Рэвалюцыі СССР адкрыліся новыя залы. Кожны экспанат, выстаўлены тут, — гэта жывая старонка гераічнага мінулага нашага народа.

...Пасярод пакоя стаіць простая кулямётная тачанка, якіх было шмат на ўзбраенні Першай коннай арміі ў гады грамадзянскай вайны. На кузаве — пяціканцовая зорка і заклік: «Вперёд, к победе!» З кароткага надпісу відаць яе баявая біяграфія. Гэтая тачанка, знаходзячыся на ўзбраенні 13-га эскадрона кавалерыйскага палка брыгады асобага прызначэння, удзельнічала ў баях з дзянікінцамі на Поўночным Каўказе, з белапалякамі ў Беларусі, з врангелеўцамі ў Крыму, з кулацкімі бандамі.

На фото паказаны незабыўныя падзеі гераічных дзён грамадзянскай вайны. Вось будынак райкома камсамола з зачыненымі дзвярамі, з кароткім надпісам: «Райком зачынен, усе пайшлі на фронт...» А вось новасфармаваны полк маскоўскіх перад адпраўкай на Царыцынскі фронт... Полк вясковай беднаты... В. І. Ленін выступае на Краснай Плошчы з прамовай 7 лістапада 1918 года — у першую гадавіну Вялікага Кастрычніка... Бронепоезд чарнаморскіх маракоў, якія змагаліся з белагвардзейцамі і інтэрвентамі пад дэвізам: «Мір хацінам, вайна палацам».

Пад шклом вітрын і ў шафах беражна захоўваецца баявая зброя, узнагароды, асабістыя рэчы герояў грамадзянскай вайны Орджанікідзе, Фрунзе, Катоўскага, Пархоменкі, Цімашэнкі. У музеі можна ўбачыць шаблю, ордэн Чырвонага Сцяга і асабістыя рэчы венгерскага рэвалюцыянера, удзельніка грамадзянскай вайны Матэ Залка, добра вядомага савецкай моладзі пад імем генерала Лукача — аднаго з кіраўнікоў інтэрнацыянальных брыгад у Іспаніі.

...Яшчэ ішлі кровапралітныя баі з белагвардзейцамі, а партыя і Ленін заклікалі моладзь да авалодання ведамі, навукай. Вось знаёмая карціна — «Ленін выступае на III з'ездзе комсамола». Побач здымкі, якія ілюструюць водгук моладзі на заклік вялікага правадыра.

Цікавыя матэрыялы, якія расказваюць аб выпуску літаратуры ў гады вайны і пасляваеннай разрухі. На паліцы выстаўлены першыя савецкія выданні класікаў марксізма-ленінізма, кнігі Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Горкага, Маякоўскага.

Тры залы займаюць дакументы, прысвечаныя пераходу да мірнай працы, да аднаўлення народнай гаспадаркі. Важнейшай падзеяй гэтага часу з'явілася распрацоўка і зацверджанне ленінскага плана электрыфікацыі краіны. План ГОЭЛРО паказан на вялікай электрыфікаванай карце, побач з якой — макет Кашырскай гідраэлектрастанцыі, першынца ленінскага плана. Захоўваецца тут і білет, дасланы Кашынскім сельскагаспадарчым супольніцтвам В. І. Леніну з запрашэннем «на ўрачыстасці адкрыцця электрычнага асвятлення ў вёсцы Кашына».

Сярод экспанатаў новых залаў ёсць шмат дакументаў, якія непасрэдна звязаны з утварэннем, развіццём і ўмацаваннем Беларускай ССР.

г. Масква.

**Р. МІХАЙЛАЎ.**

На здымках: У новых залах Музея Рэвалюцыі СССР.

Фото А. Усцінава.



# Дванаццаты, жорсткі

**Аляксей КУЛАКОЎСКІ**

**Апавяданне**

Мал. І. Давідовіча.

Паступова ўсё стала прыходзіць да звычайнага ў дарозе парадку. Праваднiца ўскінула на верхнюю полку свой жоўты сцяжок, з якім нядаўна стаяла на пероне, і пачала хадзіць па купэ, збіраць плацкартныя білеты. Рупліва ўладкоўвалася ў сваім купэ адна ўжо даволі немаладая пара, якую ўсе прыкмецілі па тым, што яна зайшла ў вагон з чатырма вялізнымі чамаданамі і здаравенным куцахвостым бульдогам. На кручку суседняга купэ ўжо вісеў доўгі вайсковы балахон з капюшонам і каля яго стаяў, прыгладжваючы мяккія жаўтлявыя валасы, стройны лейтэнант. На ніжняй полцы гэтага-ж купэ сядзела між клункаў дзяўчынка такога ўзросту, калі пяткі ног лёгка дастаюць рота. Каля яе нешта папраўляла і перакладвала ў клунках яе маці, зусім яшчэ маладая жанчына з гладкімі светларусымі валасамі, заплеценымі ў дзве касы.

Лейтэнант пачуў, што ў тым купэ, дзе разам з немаладой парай ехаў сабака, узнялася не надта ціхая гаворка. Ён засмяяўся, нібы ўзрадаваўшыся выпадку павесяліцца, і паспешліва вышаў. Сабака насцярожана ляжаў у канцы ніжняй полкі і сустрэў лейтэнанта такімі ласкавымі і даверлівымі вачыма, што ў таго адразу прапала прыкрасць да жывёліны, а пачаў забіраць толькі смех з гаспадароў. Наперабой адно перад другім, яны тлумачылі свайму суседу, таксама лейтэнанту, што сабака мае права ехаць у купэ, бо на яго куплены білет. Лейтэнант-сусед паклікаў праваднiцу. Тая падыйшла, абыякава глянула на сабаку і моўчкі падалася далей.





— Дык што? — амаль у адно слова спыталі абодва лейтэнанты.

— Мае права, — ціха адказала праваднiца.

— Значыць, пасажыр?

Праваднiца безуважна кіўнула галавой.

А кудлаты пасажыр, нібы зразумеўшы, што спрэчка наконт яго ўжо скончана, смялей улёгся на полцы, шырока пазяхнуў і лагодна высалапіў язык.

— Ён-жа ў нас вельмі спако-о-йны, — пявучым голасам загаварыла гаспадыня сабакі і, працягнуўшы голую да пляча руку, унізаную нейкімі каляровымі абручыкамі, пагладзіла сабачы хвост. — «Цюльпан» ніколі нікога не чапае і нават не брэша.

— Дык гэта можа і не сабака? — спытаў лейтэнант, сусед па купэ.

— Сабака, вядома, — адказала жанчына, — але-ж гэта такі сабака, якіх мала. Мы за яго, калі ён яшчэ быў шчаняткам, пяцьсот рублёў заплацілі.

— І ўсё-ж-такі я не хачу ехаць побач з ім, — сказаў лейтэнант і ўстаў.

— Дык ведаеце што? — звярнуўся да яго другі лейтэнант, — у маім купэ ёсць вольнае месца. Пераходзьце да нас.

Спыталі аб гэтым у праваднiцы, і тая здалёк зноў моўчкі кіўнула галавой.

Перанёсшы рэчы, лейтэнанты пазнаёміліся.

— Валодзя, — сказаў той, што запрасіў да сябе суседа.

— Ярмолаў, — адказаў сусед.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі, і тады Валодзя зазначыў:

— У вас прозвішча ого!.. Не тое, што маё — Мох. Здаецца, нейкі адмірал быў некалі ў нас з такім прозвішчам.

— Не адмірал, а генерал, — заўважыў лейтэнант.

— Ну, я-ж кажу: нехта быў. А гэта — мая спадарожніца жыцця, — паказаў Валодзя на жанчыну, — Зіна. А гэта — дачка.

Ярмолаў сеў на сваю полку, нахіліўся ў бок дзяўчынкі і працягнуў да яе руку:

— Давай пазнаёмімся, прыгажуня!

Дзяўчынка засмяялася, шырока разявіўшы свой яшчэ зусім бяззубы роцік і так зморшчыла трошкі сінявата пераноссе, што здавалася, нібы яна сама хацела пазабаўляць незнаёмага дзядзьку.

— Як-жа цябе завуць, прыгажуня? Як?

Дзяўчынка ўзмахнула худзенькімі ручкамі і нахіліла галоўку да мамы.

— Скажы, Людачка, як цябе завуць, — папрасіла мама. — Не ўмееш? Не ўмеем, скажы, мы яшчэ гаварыць зусім не ўмеем. Яшчэ нам толькі дзевяць месяцаў.

— Ну, цяпер нам ужо вядома, як цябе завуць, — з усмешкай сказаў лейтэнант. — Пазнаёміліся. А вось гэта табе падабаецца? — Ён выняў са свайго пакунка цукерку. — Бачыш, мішка тут намаляваны. Мядзведзь!

Маці ўзяла дзяўчынку на рукі, прытуліла да сябе і пяшчотна засмяялася. Лейтэнант заўважыў, што ў яе таксама крышачку зморшчылася пераноссе, але ўсмешка толькі адной рыскай нагадвала дзіцячую, а так яна была вельмі своеасаблівай. Добры, адкрыты твар стаў спачатку вясёлым, ледзь не ўрачыстым, а потым адразу-ж спахмурнеў, нібы на яго найшоў нейкі цень. Жанчына, відаць, хацела падняць на суседа вочы, каб адказаць на яго добрыя словы, але чамусьці не здолела зрабіць гэта.

— У карты гуляеце? — спытаў Валодзя.

— Не, — адказаў Ярмолаў. — Некалі трохі гуляў у дурня, а цяпер і гэта забыў. Як толькі сяду з кім гуляць, дык адразу адчуваю сябе дурнем.

— Мы вас навучым, — пачаў угаварваць Валодзя. — Варта адзін раз перакінуцца і ўсё.

— Не, не! — запярэчыў Ярмолаў. — Не паважаю я картаў.

— Шкада, — прытворна ўсміхнуўся Валодзя. — Пайду шукаць партнёраў. У мяне калода карт з сабою.

Ён падыйшоў да суседняга купэ, яно было не закрыта. Жанчына ў каляровых абручыках карміла з алюмініевай міскі сабаку, а яе спадарожнік, відаць, муж, вылізваў нешта з шырокага шклянога слоіка.

— Прашу прабачэння, — звярнуўся да іх лейтэнант. — У карты вы гуляеце?

Жанчына падаравала юнаку доўгі, поўны давер'я погляд і адразу-ж вельмі ахвотна загаварыла:

— А хто-ж гэта не гуляе ў дарозе ў карты? Вядома, гуляем. У нас недзе і карты ёсць. Дзіма, у цябе гэтая новая калода?

— У мяне старыя, — адказаў Дзіма, аблізаўшы тоўстыя губы. — А новая недзе ў цябе.

— Дык згуляем? — задаволена спытаў лейтэнант.

— Вядома, вядома! — пацвердзіла жанчына, падсоўваючы бліжэй да сабакі міску. — Вось толькі чацвёртага партнёра ў нас няма.

— А гэты? — паказаў Валодзя на сабаку і гучна засмяяўся ад свае знаходкі.

Маці тым часам забаўляла Людачку. Яна паказала ёй вялікі лысы каштан. «Глядзі, Людачка, мячык». Дзяўчынка пацягнулася ручкамі да каштана, а калі забрала цацку сабе, то адразу пацягнула яе ў рот.

— Няможна так, Людачка. — Маці зноў узяла дзяўчынку на рукі і вышла з ёю на калідор.

— Валодзя! — паклікала яна, пачуўшы голас мужа ў суседнім купэ. — Ідзі, патрымай хвілінку дзіця, а я тут выму з клункаў ды пасцялю пасцельку.

— Зараз! — адказаў Валодзя.

Зіна пастаяла некалькі хвілін ля акна і вярнулася ў купэ.

— Дайце я пазабаўляю дзяўчынку, — прапанаваў Ярмолаў. — Ідзі, Людачка, да мяне.

— Ой, што вы? — здзівілася маці. — Прыдзе ён і пазабаўляе. Вельмі-ж любіць у карты гуляць. Дома ледзь не кожны вечар. Як пойдзе да гэтых самых сваіх партнёраў, дык мы з Людачкай ужо выспімся, а яго ўсё няма.

Валодзя не прышоў у сваё купэ. Зіна пачала варушыць клункі адна, і, каб не замінаць ёй, Ярмолаў выйшаў у калідор. За акном плыў у шызую далечыню асенні лес. Сумесь жоўтага з зялёным нагадвала нешта блізкае да цёмнашэрага. Гэтая своеасаблівая паласа крыху мільгацела ў вачах, бо раз-по-разу перабівалася блакітнымі, хоць і не зусім яснымі, прасветамі. З суседняга купэ даносілася заўзятае шлёпанне картаў, рознагалосае прыгаворванне і зрэдку свіст. А паміж гэтымі прыгаворваннямі і свістам Ярмолаў чуў абыякавыя, нібы дрымотныя словы жанчыны:

— Яка-а там пагодка-а... будзе-э... цяпер у Крыму? Вясной у Цхалтубе-э... добрая была пагода. Пагрэліся-а. Летам у Рызе-э... Нашто ты, Дзіма, сунеш караля? У Рызе таксама цёпла-а... было.

Лес за акном скончыўся, неўзабаве пачалі трапляцца будынкі, слупы высакавольтных перадач, чыгуначнае палатно спачатку раздваілася, а потым з'явіліся і трэцяя і чацвёртая лініі, — поезд стаў прыцішаць свой ход. На прыпынку Валодзя таксама выйшаў у калідор, заглянуў у сваё купэ. Людачка спала, сурова надзьмуўшы губкі, а маці ляжала побач і таксама, відаць, драмала.

— Паснулі мае, — сказаў Валодзя, стаўшы побач з Ярмолавым. — Цэлую ноч збіраліся — бяда проста з імі. Сядзелі-б дома!

— А куды вы едзеце? — спытаў Ярмолаў.

— Дадому еду, да сваіх. У мяне адпачынак на трыццаць тры дні.

На пероне з'явіўся «Цюльпан» у суправаджэнні свае гаспадыні. Следам ішоў Дзіма. Гаспадыня была ў даўжэзным цёплым халаце, Дзіма — у паліто паверх піжамы. «Цюльпан» так высока трымаў свой тупы, выгнуты ўгору нос і крочыў так смела і рашуча, што перад ім усе расступаліся. Гаспадарам, відаць, падабалася гэта. Жанчына з незалежным і крыху ганарлівым выглядам на твары нешта ўвесь час гаварыла сабаку, а Дзіма трымаў тоўстыя губы трубкаю і многазначна пасвістваў.

Ярмолаў міжвольна ўсміхнуўся. Відовішча гэтае было смешным для ўсіх, але яму кінулася ў вочы тое, што не надта зручна было і гаварыць: выгляд бульдога нейкай рыскай нагадваў у гэтую хвіліну выгляд свайго гаспадара.

— Хар-рошы сабака! — з прыціскам сказаў Валодзя. — Шкада, Людка спіць, паказаў-бы ёй цюцю.

Пасажыры сюды-туды снавалі па калідоры, а дзверы ў купэ, дзе спалі Зіна з Людачкай, былі адчыненымі. Ярмолаў павярнуўся, ціха прычыніў дзверы і зноў стаў побач з Валодзем.

— Ціхія яны ў вас, спакойныя, — сказаў ён лейтэнанту, ужо без усмешкі паглядаючы ў акно.

— Хто?

— Я пра вашых гавару.

— А... Яны? — Лейтэнант глянуў на зачыненыя дзверы. — Яны спакойныя, але што ім? Хвалявацца асабліва няма чаго. Калі што, дык адна мая галава баліць.

— Даўно вы разам?

— Адкуль-жа даўно? Яна з дзесяцігодкі, а я нядаўна з вайсковай школы. Сустрэліся выпадкова на вакзале... А вы не жанаты?

— Не, не жанаты.

— Ну і правільна! Маладзец!

Ярмолаў здзіўлена паглядзеў лейтэнанту ў вочы.

— Чаго вы так глядзіце? — без затрымкі працягваў Валодзя. — Маладзец, гавару. Я вам зайздрошчу. Толькі дурні з гэтай справай спяшаюцца.

На станцыі пачуўся званок дзяжурнага, пасажыры на пероне замітусіліся, пачалі разбягацца па вагонах. Ярмолаў наглядаў, як трывожна падбірала халат і апярэджвала сабаку валодзіна партнёрша па картах, як следам надзьмуваў губы Дзіма, нагружаны смажанымі куранятамі, яблыкамі, пляшкамі ліманаду. Хутка гэтая, прыкметная для ўсіх, тройка з сапеннем, цахканнем і стогнамі праціснулася па калідоры. Валодзя пайшоў у іхняе купэ, і гульня ў карты ўзнавілася.

Ярмолаў застаўся ля акна купэ. Нейкае дваістае адчуванне з'явілася ў яго пасля гэтай кароткай размовы з Валодзем. З аднаго боку, трэба было-б чалавека паважаць за такую непасрэднасць і даверлівасць, а з другога — хочаш не хочаш, а падумаеш, што гэта не тая непасрэднасць і не тая даверлівасць. З суседняга купэ чулася яго пасвістванне, а ўяўлялася, што ён стаіць побач, высокі падцягнуты, з прыгожымі гуллівымі вачамі. Стаіць і ўвесь час расказвае пра сваю жонку. Ніхто ўжо не просіць яго аб гэтым і слухаць ужо становіцца непрыемна, а ён усё расказвае. А Зіна спіць у гэты час і нічога не чуе. Ёй, мабыць, сняцца прывабныя сны, магчыма, тая першая сустрэча на вакзале, затым — першае светлае каханне...

А можа яна ўжо не спіць?

Ярмолаў ціхенька бярэцца за дзвярную ручку, заглядвае ў шчылінку. Сапраўды, не спіць.

— Заходзьце, заходзьце! — гаворыць Зіна. — Чаго-ж вы ўвесь час стаіце на калідоры?

І Ярмолаў заходзіць у купэ, збянтэжана апусціўшы вочы, садзіцца ля століка. Яму непрыемна, што ён загаварыў з Валодзем аб такіх справах, пра якія можна было і не гаварыць. Магчыма, Зіна і тады не спала і ўсе чула. Не так сорамна за свае пытанні, як за валодзіны адказы.

— Чаму-ж вы не адпачываеце? — нясмела гаворыць Ярмолаў. — Няхай-бы паспалі, пакуль малая не перашкаджае.

— Я паспала крыху. — Зіна ўдзячна ўсміхаецца, але глядзіць не на Ярмолава, а ў акно. — А лепш сказаць — не паспала, а падрамала.

— Станцыю адну нядаўна праехалі, астаноўка была. Не чулі?..

Ярмолаў заўважыў, як у Зіны здрыгануліся вейкі, калі яна паімкнулася глянуць на яго.

— Не чула я, — ціха адказала жанчына і зноў пачала глядзець у акно.

А Ярмолаву зусім стала зразумелым, што ўсё яна чула, бо напэўна-ж не спала. Больш ён не мог сказаць ні слова. Гэтае няёмкае маўчанне цягнулася некалькі хвілін, бо і Зіна, відаць, не ведала, пра што гаварыць.

Нарэшце, яна павольна ўзняла вочы на Ярмолава і спытала:

— Вы ў Мінску жывеце?

— У Мінску, — адказаў Ярмолаў.

— А мы цяпер — далекавата ад Мінска. Сумна іншы раз... Да таго хочацца дадому... Не чулі? Хор Шыловіча дома цяпер ці, можа, выехаў куды на гастролі?

— У Мінску цяпер Макар Іванавіч, — упэўнена адказаў Ярмолаў. — Што, падабаецца вам гэты хор?

Зіна цяжка ўздыхнула і зноў адвяла вочы ў акно.

— Я спявала ў гэтым хоры, — ціха сказала яна.

Ярмолаў здзівіўся і сам не заўважыў, як яго здзіўлены, поўны захаплення позірк пачаў лавіць зініны вочы, каб нешта сказаць, нешта выявіць хоць позіркам, бо словы ў гэты момант не знаходзіліся. Крайком вока, схаванага пад густой, неспакойнай вейкай, Зіна бачыла гэтае здзіўленне, і ёй станавілася крыху непрыемна. «Чаму ён так здзівіўся? Няўжо я зусім непадобная на спявачку, або спяваць у хоры — вельмі ўжо складаная, мала каму даступная справа?» Потым заўважыла, што гэта — добрае, таварыскае здзіўленне і погляд у чалавека шчыры, даверлівы. У вачах Ярмолава не мільгала тая ледзь прыкметная, але вельмі калючая насмешка, якую Зіна часта бачыла ў Валодзі, калі гаворка заходзіла аб хоры, аб яе голасе. Відно было па ўсім, што з гэтым чалавекам вальней можна гаварыць пра музыку, пра мастацтва, не трэба баяцца, што ён цябе абсмяе або прынізіць халодным, абыякавым позіркам.

— Больш двух год я спявала ў гэтым хоры, — пачала расказваць Зіна. У яе вачах свяцілася затоеная і вельмі насцярожаная просьба паслухаць і зразумець яе. — Спявала і вучылася ў вячэрняй дзесяцігодцы. У многіх харавых нумарах я запявала. Калі Макар Іванавіч даведаўся, што я збіраюся пакінуць хор, выклікаў да сябе, угаварваў, прасіў пабыць яшчэ хоць некалькі месяцаў, пакуль ён падрыхтуе замену. Не паслухала я Макара Іванавіча, а цяпер мне сорамна нават сустрэцца з ім, глянуць у вочы.

— Чаму-ж вы не паслухалі? — спытаў Ярмолаў. — Прабачце, калі не тое пытанне задаю і, можа, крыху нясціпла ўмешваюся ў вашы справы.

— А што-ж тут нясціплага? — прыязна сказала жанчына. — Я часта і сама сабе задаю такое пытанне. Пакінула хор таму, што... Як вам сказаць?.. Сустрэліся мы з Валодзем, а ён-жа не ў Мінску служыў. І цяпер не ў Мінску. Я не магла не паехаць з ім...

— Калі ў вас ёсць голас і вы любіце музыку... — пачаў Ярмолаў і спыніўся, бо ў гэты час заварушылася і замахала ручкамі Люда.

— Быў у мяне голас, — ледзь не шэптам працягвала Зіна. — Людзі гаварылі, ды сама я адчувала, калі выходзіла на сцэну. Гэта не цяжка заўважыць па людскіх вачах. А цяпер, вядома, ужо няма таго, што было.

— Там-жа ў вас, напэўна, ёсць харавыя гурткі, — заўважыў Ярмолаў, — самадзейнасць. А то маглі-б вы і адна выступаць у канцэртах.

— Выступіла адзін раз, — супакоіўшы Люду, сказала Зіна. — Выступіла, дык Валодзя тры дні праходу не даваў. Не любіць ён у мяне музыкі і сам ніколі не спявае. — Зіна сарамліва засмяялася. — Толькі свішча часта, ды і то няведама што. Калі я іншы раз заспяваю штонебудзь сама сабе дома, дык ён або пачынае свістаць, або ўключае радыё. Смешны ён у мяне...

Людачка зноў замахала ручкамі, і цяпер ужо мацеры не ўдалося прыспаць яе. Дзяўчынка ўстала і адразу засмяялася, зморшчыўшы крыху ўспацелы носік.

— Вясё-о-лая, — пяшчотна заўважыў Ярмолаў.

Маці ўзяла дзяўчынку да сябе.

— Амаль што ніколі не плача, — радасна сказала яна, — хіба толькі іншы раз ноччу або калі вельмі ўжо есці захоча.

І Людачка раптам заплакала.

Маці спачатку засмяялася ад нечаканасці, а потым на твары яе з'явіўся неспакой, сінявата-шэрыя, стомленыя вочы трывожна ўставіліся на дзяўчынку.

— Чаго-ж ты, Людачка, чаго ты хочаш? Гэта яна галодная, — з папрокам самой сабе і нібыта са скаргай на некага сказала жанчына. — Малачка хоча. Хочаш, Людачка, малака?

Адной рукой трымаючы дзяўчынку, маці развязала клунак, дастала адтуль пляшку малака. Дзяўчынка працягнула рукі да пляшкі і перастала плакаць.



— Зараз мы нальем табе ў кубачак, — цешылася разам з дзіцем маці. — Дзе-ж гэты наш кубачак?

Зіна яшчэ раз патармашыла адной рукой клунак, выняла адтуль фарфаравы кубачак з адбітым вушкам, адаткнула пляшку, нахіліла над кубачкам, а малако не палілося. У мацеры аж спалох мільгануў на твары.

— Няўжо скісла? Яно-ж добра кіпела дома.

— Цёпла ў купэ, — спачувальна заўважыў Ярмолаў.

Зіна патрэсла пляшку, паглядзела на пабялелае заткала і, мацней абхапіўшы дзяўчынку, выбегла ў калідор.

— Валодзя, Валодзя! — з роспачу паклікала яна. — Хутчэй ідзі на хвіліначку сюды!

Лейтэнант выйшаў і незадаволена паглядзеў на жонку.

— Чаго ты крычыш?

— Малако ў пляшцы скісла, — ледзь не з плачам прашаптала Зіна. — Што будзем даваць Людачцы? Грудзей яна, ты-ж ведаеш, удзень не бярэ, а больш у нас нічога няма.

— Давай кіслае! — гучна і бестурботна сказаў лейтэнант. — Вось праблема! Кіслае яшчэ лепш!

— Для цябе лепш, — трошкі супакоіўшыся, сказала Зіна. — А для яе?..

— Нічога, нічога!

Валодзя сурова паківаў галавою і вярнуўся ў суседняе купэ.

— У нас ёсць малако-о, — пявучым голасам сказала яму партнёрша па картах. — У тэрмасе. — Пры гэтым яна вінавата паглядзела на «Цюльпана». — Мы можам даць, калі трэба-а.

— Дзякуй, не трэба, — адмовіўся Валодзя, зразумеўшы, для каго тут вязецца малако. — Ваш ход. Давайце!

Зіна пачала карміць Людачку кіслым малаком, а Ярмолаў не ведаў, што рабіць з самім сабою. Ён не мог падняць галавы, не мог глянуць на дзяўчынку. У яго раптам стала глуха шчымець пад грудзьмі, а ў роце зрабілася так прыкра, нібы ён сам жывасілам глытаў гэтае дачасна скіслае малако.

На наступнай станцыі Ярмолаў, мабыць, першым выйшаў на перон. Паколькі жанчына з абручыкамі таксама збіралася выходзіць, то і Валодзя заглянуў у сваё купэ, каб узяць фуражку.

— Купі чаго-небудзь Людачцы, — папрасіла яго Зіна.

Пакуль поезд стаяў, яна паказвала Людачцы праз акно, якія вялікія яблыкі былі ў кошыках тых цётак, што снавалі сюды-туды па пероне, якія жоўтыя ігрушы. А калі заляскалі буферы і цёткі з кошыкамі неяк асабліва замітусіліся, маці з дачкою пачалі глядзець у канец калідора, дзе павінен быў хутка паказацца бацька. Але вось прайшлі ўжо многія, вярнуліся і адразу зачыніліся ў сваім купэ суседзі з сабакам, а Валодзі ўсё не было. Прышоў Ярмолаў, ласкава ўсміхнуўся Людачцы.

— Ці вы не бачылі Валодзю? — звярнулася да яго Зіна.

— Не, не бачыў, — адказаў Ярмолаў. — Ды вы не хвалюйцеся, ён, напэўна, у другі вагон ускочыў.

Але як-жа не хвалявацца? Прайшла хвіліна, другая, поезд ужо набраў вялікую хуткасць, а чалавека ўсё няма і няма.

Ярмолаў бачыў, што ў Зіны збялеў твар, яна раз-по-разу перасаджвала дзяўчынку з адной рукі на другую, не магла ні сядзець, ні стаяць на адным месцы. І дзяўчынка, мабыць, нейкім чынам адчувала матчыну трывогу: часта азіралася, без ладу махала ручкамі. Прайшла па калідоры правадніца з вядром і мятлою ў руках. Зіна звярнулася да яе: «Што рабіць, муж застаўся на станцыі?» Правадніца доўга моўчкі глядзела ў вядро, нібы там магла знайсці нейкі адказ, а потым абыякава спытала:

— Ваенны ваш муж?

— Ваенны.

— Не прападзе. Ён там недзе, — і паказала мятлою ў канец калідора.

Гэта, відаць, азначала, што чалавек недзе ў канцы саставу. Зіна так і зразумела, але не супакоілася. З роспачу і маўклівай просьбай яна пачала глядзець на Ярмолава. Той рашуча ўстаў, надзеў фуражку, але ў гэты момант у калідоры пачуўся бязладны пералівісты свіст. Зіна ў радасці кінулася туды і хутка з'явілася ў купэ разам з Валодзем.

— Напалохаў ты нас, — тулячыся да грудзей мужа і з бязмежнай адданасцю гледзячы яму ў вочы, гаварыла жанчына. — Што-б мы тут рабілі без цябе? Валодзечка, сядзь адпачні. Ты, мабыць, даганяў поезд?

Ярмолаву неяк аж ніякавата стала, калі ён убачыў, што Зіна так шчыра і глыбока кахае свайго мужа. Унутры з'явілася нешта падобнае ні то на зайздрасць, ні то на прыкрасць — самому цяжка было разабраць.

— Я ў буфет забег, — пачаў растлумачваць сваё здарэнне Валодзя і амаль увесь час глядзеў на Ярмолава. — Забег, а там — чарга. Пастаяў крыху, бачу — поезд наш паплыў за акном. Я крыкнуў на буфетчыцу і бягом. Ледзь ужо самы апошні вагон дагнаў.

— Купіў што-небудзь Людачцы? — нясмела, маргаючы доўгімі густымі вейкамі, спытала Зіна.

— От, дзівачка! — сурова адказаў Валодзя. — Яшчэ пытае. — Зіна разгублена нахіліла галаву да Людачкі. — Я-ж кажу, што перад самым званком забег у буфет. А да гэтага не мог. — Лейтэнант засмяяўся і ступіў крок да Ярмолава. — Разумееце? Гэты самы «Цюльпан» з суседняга купэ раптам як падскочыць на пероне, як тузане! І вырваўся з рук гаспадыні. Я за ім, а ён драла. Чорт яго ведае, што яму прышло ў галаву. Хвілін дзесяць я патраціў, пакуль злавіў яго.

— А гаспадар што? — хмура спытаў Ярмолаў. — Гэты самы Дзіма?

— Куды яму? — насмешліва махнуў рукою Валодзя. — Па ім-то сабака быў-бы ўжо, напэўна, у Мінску. Не хоча «Цюльпан» ехаць на курорт. Давай будзем абедаць! — звярнуўся лейтэнант да жонкі. — Есці хочацца!

Зіна паспешліва стала развязваць адной рукой клункі.

— На, патрымай трошкі Людачку, — няўпэўнена сказала яна, а сінявата-шэрыя пакорлівыя вочы так прасілі, каб ён хоць на гэты раз не асароміў яе перад чужым чалавекам, каб хоць для прыліку ўзяў на рукі дзяўчынку. Ярмолаву аж балюча было глядзець на гэтыя вочы.

— Пасадзі яе! — суха сказаў, нібы аддаў загад, Валодзя.

Пакуль Зіна падрыхтоўвала ўсё на століку, Людачка самастойным чынам знайшла на полцы свой лысы каштан і пачала абедзвюма рукамі падымаць яго вышэй носа і апускаць уніз. Іншы раз пры такім руху каштан прытульваўся да рота і ад гэтага ўсе бакі яго хутка сталі мокрымі.

Ярмолаў выняў з кішэні пагрымушку і працягнуў яе дзяўчынцы.

— Вазьмі, Людачка, вось гэтую цацку. Глядзі, якая прыгожая!

— У яе ёсць такая дома, — заўважыў Валодзя.

А Зіна чамусьці разгубілася ў гэтую хвіліну, не ведала, што сказаць. І толькі калі ўжо Людачка добра завалодала новаю цацкаю і, махаючы ручкамі, пачала залівацца ўсцешным смехам, маці села бліжэй да дзяўчынкі, сарамліва паглядзела на Ярмолава і сказала:

— Нашто вы турбаваліся, дальбог праўда.

Тады Ярмолаў выняў з другой кішэні пляшку слівак.

— Мне здаецца, што гэта можна было-б даваць дзяўчынцы, — ціха сказаў ён.

Зіна спалохана глянула на мужа: «Што вы, што вы!.. Не трэба!»

Яраслаў ПАРХУТА

## Чукоцкі кастарэз

Ледзь паддаецца косць жалезу,
Але працуе ўпарта ён...
Акацыяй, кустамі бэзу
Аздобіў дом каля акон.

І перанёс ён сад вішнёвы
Ад усурыйскіх берагоў
Сюды, у гэты край суровы
Вятроў прамёрзлых і снягоў.

І не барханныя раўніны,
І не поўночнага пясца —
Ён бачыць іншыя карціны
З-пад падуладнага разца.

Разец вырэзвае штодзённа
На непадатлівай касці
І новы дом, і сад зялёны,
І вішні буйныя ў лісці.

Далёкі Усход.

Юрый СВІРКО

## Альпініст

Рака шумела пад скалой,
Раўлі машыны у даліне,
Калі адчуў ён пад нагой
Пляцоўку роўную вяршыні.

Паставіў ён чырвоны сцяг
І слухаў, як вятры гавораць.
Яму было зусім няўцям,
Што чалавек вышэй за горы.

## Рэжым санаторны

І выдаўся-ж вечар
Такім ужо зорным,
Што тут-жа забудзеш
Рэжым санаторны.

Пакінулі ціха
Мы корпус прасторны:
Баімся-ж парушыць
Рэжым санаторны.

А доктар сустрэне,
Яму мы пакорны.
Ідзем у палаты —
Рэжым санаторны.

Не хочацца спаць
Такім вечарам зорным,
Ды мусіш прылегчы —
Рэжым санаторны.

А потым — сустрэча
Ля хваляў азёрных.
Няхай яго ліха —
Рэжым санаторны!



Клімент Ефрэмавіч ВАРАШЫЛАЎ.
Да сямідзесяціпяцігоддзя з дня нараджэння.



**І. І. Яворскі — стары комуніст, удзельнік рэволюцыі 1905 года, узнагароджаны ордэнам Леніна. Яго сын Віль таксама комуніст. Жонка Віля Ірына — комсамолка. Сын Алег — вучань дзесятага класа, член ВЛКСМ. Сям'я Яворскіх — працоўная совецкая сям'я.**

На здымку: **Іван Іванавіч Яворскі з унукам Валодзем. Злева — яго жонка Ірына Іванаўна, справа — нявестка Ірына Уладзіміраўна з сынам Жэнем. Стаяць сыны Алег і Віль.**

Фото А. Дзітлава.

Валодзя ў гэты час прыдзірлівым вокам аглядаў падрыхтаваную закуску і таксама вымаў з кішэні пляшку, толькі не са слівкамі. Зіна пачырванела і апусціла вочы.

— Дзякую вам,— глыбока ўздыхнуўшы, сказала яна Ярмолаву.

— Я думаю,— гаварыў тым часам Валодзя,— я думаю, што мы з калегам...— Ён азірнуўся і ўбачыў у руках Зіны слівкі:— Дзе ўзяла? Ага. Вы купілі?— Ён крыва ўсміхнуўся суседу.— Ну, добра. Дык я думаю, што мы з вамі возьмем перад абедам па службовай. Га? Ледзь паспеў ухапіць у буфеце. Дастань, Зіна, шклянкі.

— Я не п'ю,— сказаў Ярмолаў, глянуўшы на столік,— хіба ўжо толькі за кампанію.— Ён міжвольна павярнуўся да гаспадыні.

— Сядайце з намі!— запрасіла Зіна, і Ярмолаў адчуў у яе голасе шчырасць і быццам-бы спадзяванне на нешта добрае. Звыклы ўглядацца ва ўсякую з'яву, ён падумаў, што Зіна баіцца пакідаць свайго мужа аднаго з пляшкаю. Таму, падзякаваўшы, ён стаў даставаць з-пад полкі чамадан.

Пасля першай шклянкі Валодзя стаў нарэдкасць гаваркім і бадзёрым. Кожнае слова, кожны жэст, трапнымі яны былі ці не, з'яўляліся ў яго надзвычай лёгка, мімавольна. Відно было, што выпіўка для гэтага чалавека — справа звыклая і што тут ён умее паказаць сябе.

— Жонка мая не п'е, — ужо каторы раз паўтараў ён Ярмолаву.— Зусім не п'е. Так што вы яе і не прасіце. Артыстка і не п'е. Дзіўна? Праўда, яна былая артыстка. Ну, і дзякуй богу! Я сказаў так: або жонка, або артыстка! Правільна я сказаў, таварыш Ярмолаў, адмірал Ярмолаў?

«Адмірал» без крыўды ўсміхнуўся і хацеў нешта сказаць Валодзю, але Зіна так паглядзела на яго, што ён не рашыўся ўступаць у размову. Зіна і сама ўвесь час маўчала, бадай што мала і слухала, аб чым гаварыў муж. Яна старанна карміла свежымі слівкамі Людачку. Скажы Валодзю адно слова, ён табе — дваццаць. Скажы яму ласкава, ён табе адкажа груба і жорстка. Гэта, відаць, добра разумела Зіна, таму і сама маўчала і прасіла, каб Ярмолаў нічога насупраць не гаварыў. Калі не раззадорваць гэтага чалавека, не падліваць масла ў агонь, то ён пагаворыць, потым пасвішча крыху ды ляжа спаць. Зачапіся-ж з ім, усю ноч прагаворыць.



Дапіўшы гарэлку і назваўшы Ярмолава яшчэ разоў дзесяць то адміралам, то генералам, Валодзя сапраўды неўзабаве палез у ботах на верхнюю полку і, як толькі паклаў на падушку галаву, дык адразу і захроп. Зіна пачала прыбіраць са стала, а Ярмолаў выйшаў, каб не перашкаджаць ёй. Калі ён вярнуўся, то заўважыў, што Валодзя ляжаў ужо разутым, вялізныя ступні з шырокімі пяткамі звісалі пальцамі ўніз з полкі. Гэта, вядома, яна разула яго. Ярмолаў уявіў, як для гэтага яна, напэўна, падстаўляла да полкі лесвічку, як спяшалася, каб зрабіць гэта да яго прыходу, і яму стала шкада жанчыну. Відаць, не першы раз яна разувала свайго мужа...

Людачка сядзела на полцы адна і гуляла з новай цацкай. У яе руках грымела гэтая цацка і крыху заглушала храпенне Валодзі. Зіна спачатку быццам не адважвалася глянуць на Ярмолава: яна больш, як трэба, корпалася ў клунках, затым узялася выціраць мокрай паперай стол, збіраць крошкі хлеба пад столікам, у тым месцы, дзе сядзеў Валодзя. І толькі калі побач з ёй упала, нібы разарвалася, паграмушка, жанчына глянула з усмешкай спачатку на дзяўчынку, а потым на Ярмолава.

— Спадабалася ёй цацка, — замілавана сказала яна. — Сваю старую ўжо некуды закінула.

Маці пагрымела цацкай, села ля дзяўчынкі і, калі тая зноў стала забаўляцца сама, пачала гаварыць далей:

— Бывала, у нас у хоры... Часта, вельмі часта я ўспамінаю наш хор. — Голас жанчыны гучэў глуха, з глыбокімі перадышкамі, вочы то пачыналі іскрыцца вясёлай радасцю, то раптам патухалі і прыкрываліся крышку вільготнымі вейкамі. — Была ў нас там замужняя адна, таксама салістка. Мая сяброўка. Дзяўчынка ў яе была. От як мая Людачка цяпер. Бывала, збярэмся ў выхадны дзень да гэтае мае сяброўкі... Чалавек дзесяць нас прыдзе. І кожная прынясе якую-небудзь цацку дзяўчынцы. Як наскладаем, дык — цэлая гара цацак. Дзяўчынка радуецца, ідзе да кожнай з нас на рукі, а маці яшчэ больш радуецца. Потым муж яе бярэ акардэон... Рабочы ён, просты чалавек, але вельмі любіў музыку. Акампаніруе нам, а мы спяваем, развучваем што-небудзь новае. Дзяўчынка заўсёды слухае, здаецца, што нават і вочкамі не маргае...

— І Людачка, я думаю, любіць слухаць, як мама спявае, — ціха заўважыў Ярмолаў. — Дзеці наогул любяць песні.

— Я цяпер не спяваю, — сумна сказала жанчына.

— А мы з Людачкай папросім, каб вы заспявалі нам што-небудзь. Мы таксама вельмі любім песні. Праўда, Людачка?

Дзяўчынка зашамацела цацкай.

— У мяне ўжо, мабыць, і голасу няма, — сказала Зіна. — Мне толькі часта ў сне сніцца, што я спяваю...

Выспаўшыся, Валодзя зноў пайшоў гуляць у карты, а Ярмолаў доўга стаяў на калідоры, слухаў хрыплае радыё, размовы і песні тых пасажыраў, якія не надта любілі ехаць у цвярозым выглядзе, міжвольна заглядваў у цёмнае акно і бачыў там свой лоб, вядома, больш бледны, як у люстэрку, і амаль зусім гладкі. Праводзіў рукою па

---

Васіль МАТЭВУШАЎ

## Малады навасёл

У цесным закутку
Прыватнай кватэры
Меў я агульныя
Вокны і дзверы.

Ды ў крамах на мэблю
Паглядваў, вясёлы, —
Буду-ж, нарэшце,
І я навасёлам.

І вось на рагу
Комсамольскага скверу
Я пасяліўся
У новай кватэры.

Усё ў ёй:
І кухня, і спальня, і ванна
Зручныя
І абыходзяцца танна.

А хутка яшчэ да ўсяго
У дадатак
Знімуць з мяне
Халасцяцкі падатак.

ілбе і адчуваў на ім маршчыны, неглыбокія яшчэ, але частыя. І ўвесь твар выглядаў у акне залішне маладым. Значыць, не трэба верыць ценю. Пачынаў апаноўваць сум. На хвіліну Ярмолаву здалося, што ён можа пазайздросціць Валодзю. Той не сумуе ў дарозе, бадай што і нідзе ён не сумуе. І цяпер з купэ даносіліся яго вясёлыя ўсклікі, амаль беспераапынная гаворка і бязладныя посвісты.

Ярмолаў узлез на верхнюю полку, лёг і заплюшчыў вочы. Ён спрабаваў заснуць, а сон чамусьці не прыходзіў. Праз адчыненыя дзверы купэ час-ад-часу даносілася далёкае ад якой-небудзь меладычнасці пасвістванне. Кожны раз пры гэтым пасвістванні Зіна прыпаднімала галаву, нервова азіралася і накрывала Люду. Дзяўчынка спала дрэнна, увесь час варочалася, ссоўвала з сябе прасціну. А маці, відаць, зусім не магла заснуць. Гэта міжволі непакоіла Ярмолава. Жанчына ўжо другую ноч не спіць. Збіралася ў дарогу, таксама не спала. Сам Валодзя аб гэтым гаварыў. Ды ці толькі гэтыя ночы былі ў яе бяссоннымі? Уяўлялася, што кожную ноч Зіна спіць вось так, як цяпер. Гэты неспакой, нервовыя азіранні наўрад ці толькі сёння з'явіліся.

На світанні праваднiца ціхенька пастукала ў дзверы. Ярмолаў адразу пачуў, бо сон яго быў кволенькі, нібы толькі дрымота. З трывогай заўважыў ён, што пачула гэта і Зіна: яна ледзь прыкметна паварушыла рукой, якою абдымала Людачку. Дзіця, мабыць, толькі нядаўна і заснула. Ноччу Людачка плакала. Можа ад духаты, а можа і жывоцік ад чаго-небудзь балеў. Ярмолаў доўга чуў гэты плач, у яго балела ад гэтага на душы, а потым сон усё-ж змарыў, — на нейкі час усё адышло. Затым зноў прачнуўся, таму што прышоў з гульні Валодзя і ўключыў святло.

— Пяцьдзесят дурняў ім даў! — сказаў ён Зіне, калі тая прыўзнялася на пасцелі. Сказаў і палез на верхнюю полку.

Ярмолаву трэба было хутка выходзіць, таму праваднiца і падала яму сігнал. Ён пачаў ціхенька і асцярожна збірацца, каб нікога не разбудзіць. Абуўся, выняў з-пад полкі чамадан. Аднак, калі ўзяўся за ручку дзвярэй, Зіна нечакана ўстала.

— Вы ўжо сыходзіце? — папраўляючы валасы, прашаптала яна.

— Я разбудзіў вас? — занепакоіўся Ярмолаў. — Прабачце, Зіна. Мне і хацелася развітацца з вамі, і баяўся перабіць вам сон.

— А я амаль што і не спала, — даверліва загаварыла жанчына. — Нешта Людачцы нездаровіцца. Толькі яшчэ горш змучылася за ноч і бок стаў балець, пералежала. Усё на адным баку ляжу.

— А мая ўжо станцыя вось тут, блізка, — нібы з жалем сказаў Ярмолаў. — Трэба сыходзіць. Будзьце здаровенькі! Шкада, што мы ўжо, мабыць, ніколі не ўбачымся.. Але вы, Зіначка, павінны спяваць! Спявайце, абавязкова спявайце!

— Жадаю вам шчасліва вярнуцца ў Мінск, — з кранаючай шчырасцю прашаптала Зіна і падала Ярмолаву цёплую, крыху пераляжаную за ноч руку. — Вельмі прашу вас, калі ўбачыце там Макара Іванавіча, перадайце яму прывітанне ад мяне. Маё дзявочае прозвішча — Вішнеўская.

— Добра, — паабяцаў Ярмолаў, — абавязкова перадам. Будзьце здаровы!

На цемнаватым пероне ён адышоўся крыху ўбок, паставіў чамадан і стаў чакаць адыходу поезда. Адразу пазнаў сваё акно, хоць яно нічым не вылучалася. Было яно яшчэ цёмнаматавым, невыразным, як і ўсе астатнія. Прыглядзеўшыся, ужо можна было заўважыць белыя фіранкі, але толькі прыглядзеўшыся. Вельмі-б радасна было, каб гэтыя фіранкі хаця-б крышачку, хаця-б на адзін момант заварушыліся. Аднак што-ж зробіш? Не заварушыліся фіранкі. Неўзабаве пачуўся кароткі гудок і адзін за другім пачалі ляскаць буферы. Праплыло акно перад вачамі Ярмолава, блізкае, незабыўнае акно, нібы было яно ў роднай хаце. Услед праплыў белы надпіс на сінеблакітным, як неба ў гэты час, фоне: «жорсткі», затым — нумар — дванаццаць. Не пакідала ўяўляцца Зіна ў хвіліну развітання: ласкавая, шчырая, трошкі сумная. Пра яе хацелася думаць...

«Будзе яна яшчэ спяваць ці не?» Гэтае пытанне не давала Ярмолаву спакою нават і тады, калі ён выйшаў з маленькага стандартнага вакзала і накіраваўся ў вайсковы гарадок.



# У пушчы, пад Дукорай

С. КУХАРАЎ

I

1919 год...

У тым неспакойным годзе было мокрае, халоднае лета. Жнівеньскай парою над палямі гулялі злосныя вятры, гналі з захаду густыя, чорныя хмары з грымотамі, з дажджамі. Людзі купкамі збіраліся ля варот, трывожна пазіралі на захад, адкуль даносіліся глухія выбухі.

— Няўжо і сапраўды паны вернуцца?

— Не можа гэтага быць. Нашы, чутно, сілу збіраюць...

Тым часам грымоты набліжаліся. Ужо і снарады ірваліся за шашой, сакаталі кулямёты ў пушчы. Вузкімі палявымі дарогамі, ляснымі сцежкамі адыходзілі чырвонаармейскія атрады. У вёсках да іх далучаліся мужчыны, падвозілі раненых, зброю, а то і бралі вінтоўкі ў рукі і разам з байцамі рабілі засады, стрымліваючы варожыя полчышчы.

Не паспелі людзі ачуняць ад нашэсця нямецкіх інтэрвентаў, як на беларускую зямлю хлынулі ўзброеныя буржуазнай Еўропай легіёны Пілсудскага.

Увосень таго-ж трывожнага 1919 года мястэчка Дукора, якое размешчана на ўзбярэжжы Свіслачы, у сарака кіламетрах ад Мінска, было захоплена белапольскімі інтэрвентамі. Драпежнікі «ожэла бялэго» зноў прынеслі сялянам свой бізун і слёзы. У маёнтак вярнуўся ў форме белапольскага афіцэра сын тутэйшага ката-памешчыка Георг Гартэнг. Пры ўваходзе ў панскі парк была павешана шыльда: «Хлопам і сабакам уваходзіць забаронена», сялянам праз аканома было аб'яўлена, каб яны заплацілі за высечаны лес. Яшчэ было загадана сагнаць з бліжэйшых вёсак усіх прыгожых дзяўчат, бо новы пан весяліцца жадае...

Уначы неба азаралася чырвонымі водбліскамі пажараў. Палалі вёскі. Пілсудчыкі бязлітасна каралі ўсіх, хто хоць чым-небудзь праяўляў сваю непавагу да новай улады. Усюды, куды ні глянь, — здзекі, разбой, слёзы...

II

Зімовы вечар. За вокнамі шалее завіруха, а ў напаленай бацькавай хаце цёпла і ўтульна. У вёску Харавічы, да Андрэя Блажко, нядаўняга матроса, які прышоў на пабыўку з Балтыкі ды так і застаўся ў вёсцы, завіталі яго вясковыя сябры Рыгор Пісарчык і Янка Равека. Прывітаўшыся, хлопцы запытальна паглядзелі на незнаёмага ў студэнцкай куртцы хлопца, што сядзеў з Андрэем на ўслончыку, грэючы рукі над камінком.

— Гэта мой таварыш, з Яснаўкі, — кіўнуў Андрэй на хлопца і прапанаваў прышоўшым пазнаёміцца. Здароўкаючыся, студэнт назваў сябе:

— Рудовіч Міхась, — і ўсміхнуўся шчыра, бесклапотна.

— Кажуць, у вас, у Харавічах, дзяўчаты вельмі прыгожыя, дык вось прышоў у выведкі.

Чамусьці хлопцам спадабаўся гэты поўнатвары, з жывымі цёмнымі вачамі студэнт. Яны адразу з ім загаварылі, як са знаёмым, пачалі частавацца самасадам. Скручваючы цыгарку, Рыгор Пісарчык скардзіўся:

— От хоць-бы і вечарынку якую згуляць ці так сабрацца з гармонікам, дык паганцы не даюць. Паручнік загадаў, каб больш, як утрох, не збіраліся.

— Добра, што ўтрох можна, — усміхнуўся Міхась Рудовіч.

— Якое там — можна! — горача падхапіў Янка Равека. — Жыцця няма! Я даўно падгаварваю хлопцаў...

Янка паглядзеў на Андрэя, сустрэўся з яго адкрытымі, смелымі вачамі і нібы прачытаў у паглядзе: «Гавары. Я гэтак-жа думаю». Кашлянуўшы, Янка прадаўжаў:

— Трэба расквітацца з дукорскім парučнікам. А заадно змяцем і гэтага захрыбетніка — аканома. Жыцця не дае людзям.

— Ты заўсёды ў нас такі, Іване. — Андрэй узняўся з услончыка, прайшоўся па хаце: — Усё гарачышся. А час яшчэ не настаў.

Ён звярнуўся да Рудовіча:

— Праўду я кажу, Міхась?

— Канешне, — ціха азваўся Рудовіч. Відаць было, што і ён не супраць, каб пачаць ужо дзе-небудзь справу, бо жудасна глядзець, як вораг лютуе навокал, як вёска пакутуе ад паноў, якія зноў селі сялянам на карак.

Андрэй моўчкі хадзіў па хаце, як звычайна, нахмураны, засяроджаны. Потым рашуча павярнуўся да Рыгора, дастаў з патаемнай кішэні бушлата папяровы скрутак.

— Вазьмі, Рыгор, — сур'ёзна сказаў Андрэй. — Гэта табе з Янкам будзе заданне: уночы расклейце гэтыя пракламацыі ў мястэчку. Няхай народ праўду ўведае.

— Ёсць! — коратка адказаў Рыгор.

... Застаўшыся ўдваіх, Андрэй з Рудовічам пачалі складаць план



паездкі па вёсках з мэтай прыцягнення ў атрад новых людзей. Перад гэтым Андрэй (ён згуртаваў з надзейных харавіцкіх і дукорскіх хлопцаў невялікі партызанскі атрад) пабываў у Пярэжыры, сустрэўся з Андрэем Крывашчокім, у якога таксама была невялікая падпольная група, і прапанаваў яму аб'еднацца. Блажко тады расказаў, што ў яго больш трыццаці чалавек, якія ўзброены вінтоўкамі і кулямётам.

— А ў нас ёсць добры кулямётчык, — сказаў Крывашчокі. — Вось толькі шкада, што няма кулямёта.

— Значыць, заадно? — перапытаў Блажко і працягнуў руку. — Будзем разам біць чужынца!..

Крывашчокі згадзіўся і дадаў:

— Ты — комуніст, табе і камандаваць атрадам!

Тады-ж сумесна выпрацавалі план дзеянняў: збіраць зброю, патроны, рыхтаваць дыверсійныя налёты на дэфензіўшчыкаў. Вырашана было пачаць абучэнне партызан. Для штаба была абрана дукорская пушча, адтуль і трэба было пачаць баявыя дзеянні. Сувязь парашылі трымаць праз комсамольца Міхася Рудовіча, які вучыўся ў Мар'іна-Горскай сельскагаспадарчай школе. Яму лягчэй было ў любы час прайсці да камандзіра.

Вось і цяпер, у гэты зімовы вечар, Міхась з'явіўся з радаснай весткай: у атрад уступілі маладыя рабочыя-чыгуначнікі са станцыі Седча і Міханавічы — браты Сцяпан і Мікола Камлюкі, Пятро Буры і Павел Позняк. Баявыя хлопцы, у іх нават узрыўчатка знайшлася! Яны прапануюць узарваць чыгуначную лінію і масты, бо на чыгунцы з кожным днём расце рух: інтэрвенты падкідваюць на фронт свежыя сілы.

Андрэй задаволены, яго смуглявы драбнаваты твар ажыўляецца, невялікія сінія вочы загараюцца. Гэта агонь помсты! Адчуваецца ў Андрэі адважны матрос-балтыец, якога партыя не дарма прыслала ў варожы тыл, каб узняць народ на барацьбу.

— Перадай Крывашчокаму, — ціха, але прачула гаворыць Андрэй, — майму цёзку і паплечніку, баявое, шчырае прывітанне. Дзейнічайце смялей. Як мага больш абрастайце людзьмі. А калі будзе дадзены сігнал, бярыцеся за зброю! Смерць інтэрвентам!

— Няхай жыве совецкая ўлада!

Гэтыя словы былі як-бы паролем, якім абменьваліся змагары-падпольшчыкі.

III

У паездках па вёсках, у клопатах аб справах атрада Андрэй не прыкмячаў, як пайшла на спад зіма. Ужо снег сагнала з палёў, толькі невялікімі белымі лысінамі свяціліся западзіны на ўзлессі, адтуль шумлівыя вятры прыносілі пах свежасці. Уранку неба на ўсходзе выпагаджвалася і ў сінявата смузе нараджалася ранішняя зара. Уздуўся, пачарнеў лёд на Свіслачы. Вось-вось разальецца рака, затопіць паводкай усе паплавы, змые з лугоў і палёў зімовую плесню.

Андрэй са сваімі хлопцамі ледзь перабраўся цераз раку па рыжай, утаптанай за зіму сцежцы. Выбраліся на дукорскую дарогу і весялей пакрочылі ў вёску. Рыгор Пісарчык пад пахаю нёс загорнуты ў ручнік гармонік, у руках у Андрэя — бубен... Хлопцы, відаць, задаволеныя, хоць парадкам прамёрзлі і змарыліся. У Караваеве, куды яны хадзілі, ігрышча прайшло ўдала: здабыта дванаццаць карабінаў і дзве скрынкі патронаў. Апрача таго, караваеўскія хлопцы паабяцалі Андрэю ў зручны момант далучыцца да партызан.



... Надыходзіла вясна, ранняя і дружная. З наступленнем цёплых дзён актывізаваліся падпольшчыкі. Заварушыліся партызаны, наладжвалі сувязь атрад з атрадам. Пачыналася генеральная рэпетыцыя перад рашучай схваткай з ворагам.

Андрэй Блажко накіраваўся на з'езд мінскіх партызан, які адбываўся ў Козыраве 5 красавіка 1920 года, з добрым настроем, з канкрэтным планам дзеяння. Яго атрад за кароткі тэрмін вырас да 100 чалавек, усе хлопцы былі са зброяй і гатовы да выступлення.

— У нас ёсць такая сіла, — у захапленні гаварыў Андрэй, — што здольна выканаць любое заданне. Мы падрыхтаваны і гатовы выступіць у любую мінуту.

Сумесна з атрадам Сяргея Плашчынскага, які ўжо дзейнічаў у лясах паблізу Мінска, дукорскія партызаны выпрацавалі смелы і рашучы план. Як толькі будзе атрыманы сігнал аб наступленні Чырвонай Арміі, у адну ноч на дукорскім і чэрвенскім шляхах узняць у паветра масты. Было намечана таксама ў некалькіх месцах узарваць чыгунку на ўчастку Мінск — Барысаў, знішчыць тэлефонныя лініі, каб парваць сувязь белапалякаў з фронтам. Начнымі налётамі раззбройваць і знішчаць адыходзячыя вайсковыя часці.

Такія планы былі па душы ўсім патрыётам-партызанам. Разыходзіліся на світанні, калі пачынаў ружавець усход. У сэрцы пульсавала натхненне: хутка ўзыйдзе вясновае сонца!

IV

Рыхтаваліся партызаны. Але не драмаў і вораг. Па вёсках, узброеныя кулямётамі, на машынах насіліся легіянеры. Шнырылі правакатары, шпіёны, імкнучыся пранікнуць у атрады, выведаць партызанскія таямніцы, каб апярэдзіць, паралізаваць партызанскія аперацыйныя планы.

...Парным красавіцкім надвячоркам сабраліся хлопцы і дзяўчаты на прызбе ў дзеда Страха. Спявалі песні-вяснянкі, бавілі час гульнямі, жартамі... Да моладзі падышоў незнаёмы, пастаяў крыху, потым адвёў убок аднаго з хлопцаў, коратка сказаў:

— Дзе мне ўбачыць Андрэя Блажко?

Хлопец насцярожана агледзеў незнаёмага, адмоўна паківаў галавою:

— Не ведаю. Такога ў нас няма.

Папытаўшы яшчэ ў некалькіх хлопцаў і нічога не дабіўшыся, незнаёмы пайшоў вуліцаю. Сустрэчная жанчына паказала андрэеву хату.

Сустрэўшыся з Андрэем, незнаёмы назваўся прадстаўніком Мінскага падпольнага штаба, прад'явіў пасведчанне з пячаткай і адпаведнымі подпісамі.

— Хачу паглядзець, як атрад гатовы да ўзброенага паўстання, — растлумачыў свой візіт незнаёмы і запатрабаваў у Блажко спіс партызанаў.

— Спісу ў мяне няма, — падсвядома адказаў Андрэй і яшчэ раз паглядзеў на пасведчанне. — З партызанамі можна пазнаёміцца без спісу.



Таварыш Баравік — так назваў сябе незнаёмы — пабываў у пушчы, дзе партызаны часта збіраліся, прысутнічаў на іх вучэбных занятках. Выведаўшы яшчэ сякія-такія звесткі, Баравік накіраваўся ў Пярэжыр, у групу Андрэя Крывашчокага. Там ён таксама ўвайшоў у давер'е падпольшчыкаў, нават пасябраваў з сястрой партызана Міколы Філановіча, выведаў прозвішчы многіх мясцовых партызан.

У ноч на 3 мая 1920 года ў вёску Харавічы, дзе знаходзіўся штаб дукорскіх партызан, на трох аўтамашынах прыехалі карнікі, акружылі вёску. На ложку быў схоплены камандзір атрада Андрэй Агеевіч Блажко. Адначасова быў арыштаваны ў Пярэжыры яго баявы памочнік Андрэй Крывашчокі. Пры яго арышце і першым допыце прысутнічаў «таварыш Баравік» у форме белапольскага паручніка; ён нахабна ўхмыляўся, абяцаў Андрэю волю, калі выдасць усіх падпольшчыкаў.

— Вось хто ты такі! — змерыў Андрэй правакатара зневажальным позіркам. — Усёроўна ад справядлівай кары не ўкрыешся. Гад!..

Андрэй плюнуў правакатару ў твар.

У Седчы, Лешніцы, Яснаўцы і іншых вёсках пачаліся арышты падпольшчыкаў і ўсіх, хто падазраваўся ў сімпатыях да бальшэвікоў. У Харавічах карнікі выгналі ўсіх жыхароў на вуліцу, наставілі з двух бакоў кулямёты. Раздалася каманда:

— Бальшэвікі, тры крокі наперад!

Людзі не крануліся з месца. Раз'юшаны паручнік бегаў, захліпаўся ад злосці, крычаў:

— Хто бальшэвікі? Усе бальшэвікі, усе д'яблавы прыхільнікі!..

Усе маўчалі. Тады салдаты пачалі наводзіць на сялян кулямёты. Нехта, відаць, з жандараў, крыкнуў:

— Разбягайся!

Людзі захваляваліся, кінуліся наўцёкі. Загаласілі жанчыны, заплакалі дзеці...

Па ўцякаючых ударылі з кулямётаў. На зямлі засталося некалькі забітых, ламанталі раненыя. У гэты дзень у Дукоры і Харавічах было арыштавана больш за 40 чалавек. Андрэя Блажко і яго баявых таварышаў пагналі ў дукорскі маёнтак, дзе знаходзілася аддзяленне дэфензівы.

Нельга без абурэння і жудасці слухаць расказы дукорцаў пра тое, як дэфензіўшчыкі здзекаваліся з вязняў. Каэу, якую перанеслі ўсе, хто тады пабываў у «мармуравым» пакоі пана Гартэнга, не можна апісаць.

Удзельнік дукорскага партызанскага атрада Іосіф Іпалітавіч Страх, які і цяпер жыве ў вёсцы Харавічы і працуе калгасным лістаносцам, успамінае:

— Нас на дні некалькі разоў вадзілі ў панскую канюшню, якая была для нас сапраўдным пеклам. Арыштаваных збівалі шампаламі, гумавымі палкамі, калолі пазногці і падэшвы ног іголкамі. Білі да страты прытомнасці, паўтараючы адно і тое-ж:

— Выдавайце астатніх. Даруем жыццё...

Ад партызан ворагі не маглі выцягнуць ні слова. Тады зноў білі, аблівалі сцюдзёнай вадой. Калі і гэта не дапамагло, у камеры падаслалі правакатараў. Партызаны ўсёроўна маўчалі, не выдавалі сваіх людзей.



Зверху ўніз: **Андрэй Блажко, Андрэй Крывашчокі, Сцяпан Камлюк і Міхась Рудовіч.**

Асабліва гераічна трымаўся Андрэй Блажко. На першым-жа допыце ён заявіў:

— Піце маю кроў, рэжце маё цела, але нічога ад мяне не даб'ецеся!

Да Андрэя ў камеру ўкідвалі то аднаго, то другога правакатара, але ён нічым сябе і таварышаў не выдаў. Андрэева сястра Аксіння Агееўна, якая цяпер працуе ў калгасе імя 16 партызан, успамінае, што ёй тады аднойчы ўдалося ўбачыць брата, калі яго вялі, закаванага ў ланцугі, у тую самую стайню, на допыт. Яго нельга было пазнаць — увесь акрываўлены, чорны, але трымаўся ён смела, незалежна.

Як ні мучылі матроса-балтыйца Андрэя Блажко, ён мужна выносіў усе катаванні. Вернымі да канца свайго жыцця засталіся і пятнаццаць яго баявых паплечнікаў.

V

Амаль два тыдні цягнуліся допыты і катаванні. 17 мая на досвітку быў апошні допыт. Першым допытвалі Андрэя. Ад яго, як і раней, нічога не дазналіся. Спыталі Андрэя Крывашчокага, яшчэ некалькі партызан.

Палкоўнік Шэмет, рукі якога былі ўжо ў крыві мінскіх падпольшчыкаў, зачытаў прыгавор:

— Блажко Андрэй, Камлюк Сцяпан, Крывашчокі Андрэй, Рудовіч Міхаіл, Маліноўскі Максім, Камлюк Ілья, Буры Пётр...

Андрэй пераглянуўся з хлопцамі: «Трымайцеся, сябры!»

— ...Камлюк Іван, Позняк Павел, Ахрамовіч Андрэй, Катлянік Рыгор — за здраду, за змову супроць дзяржавы польскай прыгаворваюцца да пакарання расстрэлам.

Пяць партызан — Фёдар Крывашчокі, Міхаіл Філановіч, Рыгор Пісарчык, Іван Равека і Міхаіл Каршак прыгавораны да турэмнага зняволення — на катаргу.

Ніхто не паварушыўся. Андрэй паглядзеў у акно, дзе ў маладой зеляніне ліп займалася ружовае ранне...

Над пушчай узнімалася яркае майскае сонца, калі адзінаццаць партызан вялі на расстрэл. Закаваных у ланцугі, збітых і змучаных, іх і цяпер акружаў моцны конны канвой.

Цішыня. Толькі ўсхрапваюць коні ды панура звіняць ланцугі... Раптам цішыню ўскалыхвае песня. Заспяваў сваім мужным галасам Андрэй. Песню падхапілі ўсе яго сябры:

Смело, товарищи, в ногу,
Духом окрепнем в борьбе...

Песня абудзіла мястэчка. З усіх вуліц збягаліся людзі. Коннікі бізунамі і прыкладамі пачалі падганяць вязняў, спяшацца.

Вось і пушча. Родныя, знаёмыя мясціны! Магутныя волаты-дубы, выносістыя елкі па-бацькоўску прынялі ў свае абдымкі маладых змагароў.

К царству свабоды дарогу
Грудью проложим себе...

Салдаты нервуюцца, лаюцца, намагаюцца заглушыць песню, але песня мужнее, грыміць, падхопленая рэхам...

Вясна. Цвіце чаромха. Іскрыцца маладая зеляніна. Перад гатовай магілай, на вільготным жвіры, стаяць з узнятымі галовамі адзінаццаць... Усе трымаюцца бадзёра, — ніхто не павінен паказаць сваю слабасць перад смерцю.

Заляскалі затворы. У зарасніку пачулася ўсхліпванне: нягледзячы на строгую забарону, сяляне збегліся ў лес, на месца расстрэлу. У гэтую хвіліну пачуўся мужны, усхваляваны голас Андрэя:

— Таварышы! — звярнуўся камандзір да сваіх сяброў. — Зараз мы ўпадзём мёртвымі. Нас заб'юць, але не мінецца дарам ворагам наша маладая кроў. Мы справу пачалі, а закончаць яе тыя, што застаюцца ў жывых...

Салдаты збянтэжыліся. Афіцэр вылаяўся і моцна крыкнуў, хочучы спыніць Андрэя. Але голас Андрэя мацнеў:

— Ведайце-ж, гады, блізкі час расплаты! Чырвоная Армія змяце ўсіх інтэрвентаў з твару зямлі. Смерць белапольскім катам!

— Няхай жыве савецкая ўлада! — партызаны кінуліся да свайго камандзіра, пачалі развітвацца. Афіцэр выстраліў у Андрэя, але яго падхапілі сяброўскія рукі...

Салдаты пусцілі ў ход прыклады. Адзінаццаць змагароў абняліся, сталі шчыльна адзін пры адным. Ім прапанавалі завязаць вочы.

— Мы — не баязліўцы! — крыкнуў Міхась Рудовіч. — Страляйце!..

...Справа, пачатая дукорскімі партызанамі, не памерла. У лясах Міншчыны ствараліся ўсё новыя і новыя атрады, якія распальвалі полымя партызанскай барацьбы. Партызаны аказалі вялікую дапамогу Чырвонай Арміі ў выгнанні інтэрвентаў з беларускай зямлі.

* * *

У ліпені ў Дукору прышлі чырвоныя войскі. Засвяціла яркае летняе сонца.

На невялічкай прагаліне, акружанай з усіх бакоў кучаравымі ялінамі, дзе інтэрвенты расстралялі адзінаццаць змагароў-патрыётаў, узняўся свежаачасаны дубовы слуп-помнік з чырвонай зоркай і надпісам: «Тут 17 мая 1920 года белапольскімі інтэрвентамі па-зверску замучаны 11 дукорскіх партызан». Целы нябожчыкаў па жаданню іх бацькоў і блізкіх перанесены: Андрэй Блажко пахаваны на дукорскіх могілках, а дзесяць яго баявых сяброў — на пляцы ў вёсцы Пярэжыр. Там ім пастаўлены гранітны помнік.

Кожны год 17 мая ў Дукорскай пушчы на маляўнічай паляне збіраюцца людзі з усёй Рудзеншчыны, праводзіцца традыцыйная маёўка-памінкі. Імем 16-ці партызан названы мясцовы дукорскі калгас, сярэдняя школа і торфапрадпрыемства. У гады Вялікай Айчыннай вайны новае пакаленне дукорцаў натхнялася прыкладам сваіх партызан-землякоў.

Зялёны насып-магіла рупліва ўпрыгожваецца кветкамі. У народнай памяці ніколі не згаснуць подзвігі тых, хто аддаў сваё жыццё за маладую савецкую ўладу, за родную зямлю!

## *Галасы маладых*



Малады беларускі паэт-камсамолец **Пятрусь Макаль** нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Крушыняны на Беласточчыне ў сялянскай сям'і.

Пасля заканчэння сямігодкі ён навучаўся два гады ў Гродзенскім будаўнічым тэхнікуме, а пасля — у Гродзенскім педагагічным інстытуце, які скончыў у 1953 годзе.

З 1949 года вершы П. Макаля часта з'яўляліся на старонках «Літаратуры і мастацтва».

У 1953 годзе малады паэт прыняты ў члены Саюза пісьменнікаў БССР. Цяпер П. Макаль служыць у радах Савецкай Арміі.

Нядаўна ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў з друку яго першы зборнік вершаў «Першы след».

Ніжэй мы друкуем новыя вершы маладога паэта.

## З выпадку свята

На стале віно з выпадку свята,
І гасцей змяшчае ледзьве хата.
Толькі, дружа, твой стакан пусты
І касцюм, які нядаўна ты
За палучку першую прыпас,
Спісаны на тры гады ў запас.
Тры гады ні ўвечар і ні ўранне
Ты не выйдзеш к любай на спатканне.
Што-ж, няхай яна цябе прабачыць,
Што не зможа гэтак доўга ўбачыць.
Ты пакінуў дом, сяброў па школе,
Ты —

Каб закаханыя жылі
Без разлук, пасля якіх ніколі
Не бывае стрэчы на зямлі...
Пільна я прыглядваюся ў далі
І не зводжу зроку ні на міг
З тых, што столькі радасцяў укралі
У мяне і ў дружбакоў маіх.
І пакуль — з-за мора брэх шалёны,
Не здыму я з плеч сваіх пагоны.

І сягоння я,
З выпадку свята,
Не спяшу прылегчы адпачыць,
Я прачышчу ствол у аўтамата —
Хай блішчыць!

## Камсамольскі білет

Не забыцца,
Як з райкома выйшаў
З запаветнай кніжачкаю ты.
Стаў, здалося, ўраз ты ростам вышай —
Узыйшоў на перавал круты.

Пазіралі на мяне з білета
Ордэны ва ўсёй красе сваёй.
Уручылі ўзнагароду гэту
Мне за подзвіг, створаны не мной.
... У дваццатым
Не ў мяне жалезам
Зорку выпякалі на спіне.
І ў трыццатым
У вакно з абрэза
З цемрадзі стралялі не па мне.
І не я, прыкрыты дымам бою,
Падаў ніц на непадступны дзот,
Каб маёй юнацкаю крывёю
Захлынуўся ўмомант кулямёт...
Не гучыць сягоння кананада.
І на сцежцы, што ідзе з Масквы,
Я стаю ў шынелі, з аўтаматам —
Мірнае сталіцы вартавы.
І хаця не лічыцца па спіску
У каравульным табелі пастам
Калыханка маткі над калыскай,
Ранні гоман каля школьных брам,
Звонкі россып песні салаўінай,
Чысціня нябеснай сінявы, —
Гэта ўсё даручана краінай
Пад тваю ахову, вартавы.
Зараз у атаку толькі вецер
Кідаецца на цябе, салдат...
Не, не дарам у тваім білеце —
Баявыя ўзнагароды ў рад.
... На забыцца,
Як з райкома выйшаў
З запаветнай кніжачкаю ты.
Стаў, здалося, ўраз ты ростам вышай —
Узыйшоў на перавал круты.
І вядзе цябе праз зімы, вёсны —
Адзначае ў будучыню след —
Камсамольскі твой,
Ордэнаносны,
На вякі праслаўлены білет.

## У паход

Згарнулі крыллі мы палатцы,
І на драўляны ложак мой
Лісты пажоўклыя ляжацца,
Каб адпачыць на ім зімой.
А мой спачын далёка недзе —
За многа вёрст, за многа дзён.
Трубач трывожным клічам медзі
У паход збірае батальён.
І знoўку наўздагонку ветру
Нясціся на машыне мне,
Адлічваць крокам кіламетры
З салдацкім ранцам на спіне.
І дзе мне суджана спыніцца?
Жыву я гэткаю парой,
Што не паспееш прызямліцца —
Ізноў спяшы ў паходны строй.
І не ад ранца прыліпае
Кашуля да плячэй маіх —
Сягоння цэлы свет, я знаю,
Абапіраецца на іх.

# ДВА САЛДАТЫ

**Васіль МАШЫН**


Мал. Г. Паплаўскага.

У роту прыбыў навічок. Радавы. Дагэтуль служыў ён у штабе палка за пісара. Можа, ён у чым-небудзь правініўся, а можа, начальнік страявога аддзела па якой іншай прычыне палічыў патрэбным перавесці яго да нас. Росту навічок быў невысокага, хударлявы, спрытны. Абмундзіраванне на ім было новенькае, як з-пад іголкі, гузікі блішчалі. Боты ён насіў хромавыя. Наш сержант Дубаў адразу-ж загадаў яму скінуць гэтыя боты, бо яны не па форме.

— Слухаю, — адказаў ён, і вочы яго прыжмурыліся.

Дзіўныя былі гэтыя вочы. Здавалася, што яны мелі некалькі колераў. Сапраўды, калі ён усміхаўся, у іх адлівала мутнаватая сінява, калі вельмі горача спрачаўся — сінява паступова пераходзіла ў бледную жаўцізну, а калі злаваў, то ў жаўцізне прасвечвала чырвань.

Знаёмячыся з намі, навічок падаў аднаму з салдат руку і голасна, ужо для ўсіх, сказаў:

— Цімафееў Іван Пятровіч, па ініцыялах — ЦІП.

Усе засмяяліся. «Ціп» гэты, здаецца, усім спадабаўся. Толькі Сымон Дробіч, здаравенны, круглатвары, з выгляду пануры салдат кінуў непрыязна ўбок:

— Паглядзім, які ты будзеш на справе.

І паглядзелі. На здзіўленне ўсім, навічок мог працаваць тэлеграфным ключом і прымаць на слых па шэсць-сем груп змешанага тэксту. Вядома, да сапраўднага радыста яму было яшчэ далёка, але ў параўнанні з намі, вучнямі, гэта быў ужо майстар. Ён стаяў, якбы на галаву вышэй за кожнага з нас і адтуль, з тае вышыні, пазіраў на нас.

— Дзе гэта вы вучыліся? — спытаў сержант Дубаў.

— Яшчэ як цывільным быў.

— Сувязістам былі?

— Вядома. На параходзе плаваў па Сажу. Капітан, напрыклад, дасць радыёграму. Дык вось я гэтую радыёграму хуценька адкляпаю дыспетчару, а потым ад дыспетчара прымаю распараджэнне ці яшчэ якую лухту... Праца была такая, што не запылішся і грошы ў кішэні маеш.

— І колькі ты атрымоўваў? — пацікавіўся нехта.

— Ну, пра гэта потым...

— Правільна, — падхапіў сержант, — пра гэта потым гаворка будзе. А зараз няхай хтонебудзь з вас папросіць Цімафеева, каб ён дапамог вывучыць схему.

— Ды ўжо-ж, я дапамагу, калі трэба.

Усе змоўклі. Нікому не хацелася адразу прасіць дапамогі, бо гэта азначала-б прызнаць сябе ў прысутнасці камандзіра адстаючым. Аднак і няёмка было пакінуць гэтае пытанне без адказу.

— Вось Сымону трэба было-б дапамагчы, — сказаў нехта.

— Якому Сымону?

Густыя бровы Дробіча сыйшліся ля пераносся, калі ён адчуў на сабе ўважлівы позірк Цімафеева. У гэты момант ён успомніў свае нядобразычлівыя словы, сказаныя пры першым знаёмстве. Як высветлілася, навічок быў спрытны не толькі ў гаворцы, але і на справе. Няхай ён не чуў таго, што сказаў тады Сымон пра яго, але было неяк сорамна перад ім. Сорамна не таму, што таварышы адракамендавалі яго Цімафееву як адстаючага — гэта-ж чыстая праўда. Дробіч дрэнна засвойваў азбуку Марзе, слаба разбіраўся ў схемах прыёмніка і перадатчыка, і наогул лічыў, што з яго радыста не выйдзе. Які з яго радыст? Вунь яго таварышы ўжо амаль усю азбуку могуць прымаць на слых, а ён... Эх, ды што казаць!

Справядлівы па натуры чалавек, Сымон не мог не сказаць Цімафееву пра тое, што думаў ён пра яго спачатку.

— Э, глупства, — Цімафееў махнуў рукою і, дастаўшы з кішэні цэлулоідную табакерку, пстрыкнуў яе вечкам перад носам у Дробіча.

— Дзякую, я не куру, — Сымон адхіліў рукою прапанаваную яму папяросу.

З гэтага дня аднапалчане бачылі іх разам усюды: яны хадзілі поплеч у страі, сядзелі за адным сталом на палітзанятках, а калі ўзвод ішоў у нарад, дык яны і тут не разлучаліся. Сержант Дубаў таксама быў задаволены, што гэтыя два салдаты гэтак таварышавалі. Такое сяброўства, вядома, магло зрабіць добры ўплыў на Сымона. Але пакуль вынікаў не было відаць. Заўважалася толькі, што Дробіч стаў больш уважлівым, і калі ў яго штонебудзь не ладзілася, дык не абкусваў пазногці, як раней, не хаваўся ад людзей.

Вядома, калі-б Цімафееў не пасябраваў з Дробічам, дык ён стаў-бы мішэнню для дасціпных языкоў. Яго розныя дзівацтвы, асабліва няўвага да бібліятэкі здзіўлялі салдат. Аднаго разу ротны пісар не вытрымаў:

— Чаму ты кніжак не чытаеш? — звярнуўся ён да Цімафеева.

—А ты чытаеш? Што прачытаў за апошні час?

Сустрэчныя пытанні збілі пісара спанталыку, і ён ужо не рад быў, што зачапіў Цімафеева, але адступаць было позна. Робячы спакойны выгляд, ён адказаў:

— Чатыры тамы Бальзака, два Джэка Лондана і, ну... «Разгром» Фадзеева.

— І ўсё? — Цімафееў свіснуў, сінява ў яго вачах набыла жаўтаватае адценне. Падміргнуўшы салдатам, ён сказаў:

— Гэта ўсё я прачытаў, калі ты яшчэ казкі Пушкіна вывучаў.

Аднак гэты ўкол не збіў з ног пісара.

— Веру, — сказаў ён, — усё гэта ты чытаў, а цяпер твая самая любімая кніга — гэта кніга звальненняў у горад.

Здаецца, і сонца, якое выглянула з-за хмары, засмяялася разам з салдатамі. Адзін толькі Сымон, адчуваючы поўнае паражэнне таварыша, незадаволена зірнуў на пісара і, патаптаўшыся на месцы, глуха вымавіў:

— Дасціпны самавук...

Ішлі дні. Кожны раз пасля сканчэння заняткаў Дробіч і Цімафееў заставаліся ў класе і паўтаралі тое, што яны вучылі ўжо. У схемах Сымон пачаў разумець што да чаго, адно вось толькі — з прыёмам на слых не ладзілася.

Вось яны сядзяць за сталом. Цімафееў водзіць указальным пальцам па аркушыку, на якім надрукаваны слупкі лічбаў, — правая рука яго дробна скача на зялёнай галоўцы тэлеграфнага ключа. Сымон, стаіўшы дых, услухоўваецца ў тоненькі галасок зумера, запісвае нешта ў сшытак завостраным з абодвух канцоў алоўкам. Губы яго па-дзіцячаму надзьмуты, быццам ён хоча свіснуць.

— Пачакай, чакай, — Сымон раптам узнімае галаву, — а гэта ты якую лічбу даў? Шасцёрку?

Зумер спыніў піск.

— Ды ўжо-ж, шасцёрку.

— А мне здалося... адзін працяжнік і чатыры кропкі — гэта...

— Ты не лічы працяжнікаў і кропак, — перапыніў яго Цімафееў, — адно слухай уважліва. Тут кожная лічба сваю песню спявае. Вось тая-ж шасцёрка. Яна спявае: «Дай, дай закурыць».

— Гм-м... — усміхнуўся Дробіч. — А чацвёрка што?

— А чацвёрка — вось гэтак: «Ну, і старшына. Ну, і старшына». Зразумеў?

Сымон недаверліва чмыхнуў, потым адразу зрабіўся сур'ёзным.

— Усёадно я гэтых песень не зразумею.

— Зразумееш. Давай, брат, прымай.

— Ды што з таго, якая карысць! — ён кінуў на стол аловак, устаў і, скамечыўшы ў руках пілотку, выйшаў з класа.

У гэты-ж дзень павінен быў адбыцца камсамольскі сход.

Да самага вечара Дробіч ні з кім не гаварыў, хадзіў спахмурнелы. Нават сустрэчы з Цімафеевым ухіляўся, а таварышы, заўважыўшы гэта, зрабілі вывад: пасварыліся. Увечары ён прышоў у пакой палітасветработы. Тут было светла і шумна. Салдаты ставілі табурэткі, садзіліся радамі.

Цімафееў заняў два месцы ў пярэднім радзе і, калі пабачыў у дзвярах Сымона, махнуў рукою. Але Сымон быццам і не бачыў гэтага. Ён знайшоў незанятую табурэтку, паставіў яе далей ад трыбуны і сеў, незнарок піхнуўшы суседа-пісара.

Ён без увагі праслухаў дакладчыка, не зразумеў пра што гаварылі ў спрэчках яго таварышы. Ён не разумеў нават таго, пра што ён сам думаў. Думкі, не, нават не думкі, а шматкі нейкіх цьмяных фраз, кружыліся ў галаве, быццам пчаліны рой. Хацелася ўсвядоміць, ухапіцца хоць за адно слова і такім чынам прывесці ў сістэму гэты хаос. Нічога не атрымалася.

Між тым, як гэта часцяком бывае, сход застапарыўся: не было каму выступаць.

— Смялей, таварышы, — заклікаў старшыня, сержант Дубаў кідаючы позірк на маўклівых камсамольцаў. У пярэднім радзе ўзмахнулася над галовамі чыясьці рука. — Слова мае радавы Цімафееў...

Цімафееў падсадзіў вялікія пальцы пад рэмень, спрытным рухам папправіў гімнасцёрку і выйшаў да трыбуны. Вочы яго за нейкі момант некалькі разоў змяніліся: спачатку яны шырока расплюснуліся, быццам ён пабачыў нешта незвычайнае; затым па-карэйску звузіліся; а калі ён пачаў гаварыць, — утаропіліся ў адну кропку — у стрыжаную патыліцу Дробіча, які разглядаў падноскі



## ВУЧЫЦЕСЯ ВЫШЫВАЦЬ

Кожны, хто хоча навучыцца вышываць, павінен прытрымлівацца наступнай парады. Вышывальшчыцы павінны ведаць, што трэба сядзець правільна, так, каб ногі ўпіраліся ў падлогу, а не віселі ў паветры, локці рук абапіраліся на бёдры, а не на стол, грудзьмі нельга прыпірацца да стала. За працай трэба сядзець прама, злёгку нахіліўшы галаву ўперад. Матэрыял—вышыванне — трымаць на адлегласці 40—50 сантыметраў ад вачэй у левай руцэ, а іголку — у правай вялікім і ўказальным пальцамі. Каб лепш было працінаць іголкай матэрыял, на сярэдні палец правай рукі надзяваецца напарстак. Вастрыё іголкі пры вышыўцы накіроўваецца справа налева па кірунку ад вялікага пальца.

Важна правільна выбраць ніткі для вышывання. Ніткі бяруцца ў залежнасці ад матэрыялу. На палатне можна вышываць ніткамі мулінэ ці ірыс; на тонкім палатне або шоўку—вышываць шоўкам.

Адно з самых важных правіл усякага мастацтва—гэта эканомія ў фарбах і формах. Уменне дасягнуць найбольшага эфекту пры невялікай колькасці фарбаў і пры невялікай колькасці ліній—важная якасць у працы над вышыўкамі. Нельга ператвараць рэч у лабірынт крыжыкаў, вузельчыкаў, нашывачак. Трэба выкарыстоўваць толькі тыя лініі, толькі тыя фарбы, якія неабходны для гэтага малюнка, без якіх малюнак будзе няпоўным, бледным.

Другі прынцып мастацтва—гэта сістэма, гармонія, стройнасць у размяшчэнні частак, якія складаюць агульнае цэлае. Самай простай формай гармоніі з'яўляецца сіметрыя, гэта значыць такое размяшчэнне, калі адзін бок малюнка адлюстроўвае другі. Але сіметрыя не з'яўляецца абавязковай для кожнай рэчы. Часам бывае, што занадта сіметрычнае размяшчэнне малюнка робіць яго нецікавым.

У вышыўцы самае галоўнае—удалае спалучэнне колераў. Таму кожная вышывальшчыца павінна мець уяўленне аб спектральным складзе светлавога промня.

Белы колер складаецца са зліцця цэлага спектра—сямі асноўных колераў: чырвонага, аранжавага, жоўтага, зялёнага, блакітнага, сіняга і фіялетавага. Усе гэтыя колеры падзяляюцца на цёплыя і халодныя. Ад чырвонага да зялёнага—цёплыя, ад зялёнага і далей—халодныя.



Пры вышыванні можна спалучаць халодныя колеры з цёплымі, і атрымаецца вельмі прыгожы малюнак. Аднак варта пазбягаць спалучэння рэзкіх колераў, напрыклад, чырвонага з зялёным, сіняга з аранжавым. У спалучэнні гэтыя колеры «крычаць», вока не церпіць іхняга суседства. Зусёды добра спалучаюцца суседнія па спектру колеры або розныя па гушчыні адценні аднаго і таго-ж колеру.

Вядома вельмі многа розпастайных швоў вышыўкі. У кароткім артыкуле падрабязна расказаць пра іх немагчыма. Таму пазнаёмім чытачоў са швом, якое асабліва шырока ўжываецца ў практыцы,—са швом крыжыкам. Вышываюць крыжыкам можна па-рознаму: без канвы—па адліках нітак, калі дазваляе тканіна, па канве ці па выцягнутай сетцы. Для вышыўкі па сетцы выцягваюць ніткі ў шахматным парадку—удоўжкі і ўпоперак тканіны: адна нітка працягнута, 5—6 нітак не працягнуты, далей зноў—адна нітка працягнута, наступныя 5—6—не працягнуты і г. д.



Такім-жа чынам працягваюцца і папярэчныя ніткі. Атрымліваецца своеасаблівае шахматнае поле, на якім вышываецца любы ўзор. Калі вышыўка зроблена на канве, то пасля заканчэння работы ніткі канвы выцягваюцца.

Шво-крыжык вышываецца злева направа і складаецца з двух косых сцяжкоў, якія перакрыжоўваюцца пасярод; сцяжкі вышываюцца спачатку ў адзін бок, а потым пакрываюцца ў другі бок так, каб іголка, пакрываючы сцяжкі ў другі раз, увaходзіла ў дзіркі першых сцяжкоў. Калі даводзіцца вышываць рад суцэльных крыжыкаў, то перш робяць усе сцяжкі ў адзін бок, а потым пакрываюць іх другім радам.

Двайны крыжык адрозніваецца ад простага, адзінарнага толькі тым, што просты крыж яшчэ раз перакрыжоўваецца па прамой ніткі двума скрэсленымі ніткамі. Ен прымяняецца ў тым выпадку, калі пажадана накласці фарбы больш густа.

Варта заўважыць, што шво-крыжык з'яўляецца самым распаўсюджаным. Ім можна вышываць любыя рэчы: падушкі, дыванчыкі, дарожкі, кофтачкі, блузкі, сукенкі і г. д. Крыжык—гэта асноўны элемент для адлюстравання самых разнастайных малюнкаў нашай нацыянальнай вышыўкі, самых складаных узораў, нават пейзажаў і партрэтаў.

**Е. ГАНЧАРЫК,**
**настаўніца па мастацкай вышыўцы Мінскага Палаца піянераў**

## ДЭТЭКТАРНЫ РАДЫЁПРЫЁМНІК

Дэтэктарны прыёмнік можа зрабіць кожны пачынаючы радыёканструктар. Ніжэй даецца схема і апісанне гэтага прыёмніка.

На чарцяжы вы бачыце прынцыповую схему дэтэктарнага прыёмніка. Асноўная частка яго—катушка індуктыўнасці, якая мае шэраг адводаў, што азначаны лічбамі. За пачатак катушкі будзем лічыць верхні канец. Тады адводы ад катушкі трэба рабіць: першы (азначаны лічбай 2)—ад 50-га вітка; наступны (азначаны лічбай 3)—ад 100-га вітка; адвод 4—ад 150-га вітка і адвод 5—ад 200-га вітка. Гэтыя адводы зроблены для грубай, недакладнай настройкі на радыёстанцыі. Для больш дакладнай настройкі наступныя адводы робяцца праз кожныя пяць віткоў, г. зн. адвод 7 зроблены ад 205-га вітка, адвод 8—ад 210-га вітка і г. д. Уся катушка складаецца з 235 віткоў.

Да пачатку катушкі і да зазямлення далучаны дэтэктарны ланцуг, які складаецца з дэтэктара Д і тэлефона Т, паралельна да якога далучаны блакіровачны кандэнсатар С. Ёмкасць гэтага кандэнсатара павінна быць прыкладна ад 500 да 2000 пікафарад. Калі няма магчымасці набыць кандэнсатар, можна абысціся і без яго. Тэлефонныя трубкі могуць быць як электрамагнітныя, так і п'езаэлектрычныя (апошнія лепш). Дэтэктар пажадана мець фабрычнага вырабу. Калі-ж набыць такі няма магчымасці, можна дэтэктар зрабіць і самому. Штэпсельныя гнёзды, калі няма гатовых, няцяжка зрабіць таксама самому.

Пачынаць рабіць прыёмнік трэба з катушкі. Каркас катушкі павінен быць цыліндрычнай формы дыяметрам 72 мм і даўжынёю 120 мм. У якасці балванкі для каркаса можна выкарыстаць поўлітровую бутэльку. Каркас робіцца з паперы, кардону, катушка наматваецца медным дротам дыяметрам 0,2—0,3 мм з эмалевай ізаляцыяй. Калі дрот з папяровай ці шаўковай ізаляцыяй, то каркас трэба рабіць крыху даўжэйшым. Наматваецца катушка віток да вітка ў адзін слой, і канец намоткі замацоўваецца ў двух праколах каркаса.




Штэпсельныя гнёзды можна зрабіць з палосак бляхі. Штыркі, якія выкарыстоўваюцца ў якасці пераключальнікаў $П_1$ і $П_2$, выгінаюцца з меднага дроту, у крайнім выпадку іх можна зрабіць з бляхі.

Скрынку прыёмніка, на якой будуць замацоўвацца і мантыравацца дэталі, можна зрабіць з карбаліту ці тэксталіту. Пры адсутнасці гэтых матэрыялаў, яе можна зрабіць з дрэва. Усе злучальныя кантакты пажадана добра прапаяць.

**С. ШАТОХІН,**
**ст. інжынер Мінскага радыёклуба ДТСААФ.**

---

сваіх ботаў. Мутнаватая сінява ў вачах не жаўцела, не чырванела.

— Вы ведаеце, таварышы, што Дробіч едзе на тройках па радыётэхніцы,— казаў ён, падаючыся ўсім целам уперад.— А чаму? Ды таму, што ён не хоча атрымаць высокай адзнакі. Вось іменна, не хоча. Ён убіў сабе ў галаву, што з яго не выйдзе радыста, і кідаецца ў паніку.

Канешне, пачуць такое пра сябе і адчуць дзесяткі здзіўленых, дакорлівых позіркаў, кінутых, у твой бок, не вельмі прыемна. Дробіч «кідаецца ў паніку». Што-ж гэта? Выходзіць, ён — панікёр? Выходзіць...

У Сымона быццам каменем шыбанулі. Ён скоса зірнуў на Цімафеева. Абуджанае самалюбства амаль адчувальна заварушылася ў сярэдзіне, а ў рот нібы перцу насыпалі. Аднак чаму, — ён і сам здзівіўся — злосць не распірала яго, яна тухла, як агонь, прысыпаны пяском. Чаму гэта? Пэўна таму, што з трыбуны ён чуў праўду. А Сымон заўсёды паважаў тых, хто не баяўся сказаць праўду ў вочы нават лепшаму сябру. Ён таксама сказаў-бы гэтак, каб Цімафееў быў на яго месцы. А ўсё-такі крышку было крыўдна.

Пасля сходу ён выйшаў на двор. З вокан пакоя палітпрасветработы падала на ўтаптаную зямлю святло. Хацелася пабыць аднаму, памаўчаць, падумаць. Такое месца ён знайшоў крокаў за сто ад казармы пад разгалістай ліпай. Ён лёг дагары тварам, падклаўшы пад галаву пілотку. Праз лісце, якое ціха шапацела, мякка прасвечваліся зоркі, пахла лугавым рамонкам. З курылкі далятаў шматгалосы гоман, віднеліся чырвоныя агеньчыкі папярос. Раптам Сымон пачуў знаёмы голас: яго клікаў Цімафееў.

— Я тут,— ціха адгукнуўся ён.

Цімафееў сеў, прысланіўшыся плячом да дрэва, выняў табакерку і, адчыніўшы вечка, працягнуў Сымону.

— Не куру, ты-ж ведаеш.

— Ах, так, я і забыў...— Цімафееў узяў у рот папяросу, чыркануў запалку і, відаць, не ведаючы, з чаго пачаць размову, спытаў:

— Пакрыўдзіўся?

— На каго?

— На мяне. На каго-ж яшчэ?

— Ну-у,— няпэўна выказаў Сымон.

— Паслухай, Сымон, я-ж не... Ну, ты-ж сам бачыў, як на сходзе... Некаму-ж трэба было выступаць. Вось я і...

— І што?

— А тое, што я-ж гэта толькі так сабе.

— Як гэта так сабе?

— А можна сказаць, для прыклёпу... Маўчалі-ж усе, а выступаць трэба было...

Дробіч рашуча прыўзняўся на локаць. Ён раптам адчуў, што яго ашукалі. Значыць, Цімафееў гаварыў з трыбуны для прыклёпу? Значыць, ён ашукваў камсамольцаў? Дык як-жа яму не сорамна было глядзець на камсамольцаў! І цяпер Сымон адчуў, як кроў прылівала да скроняў і як самі, нібы мімаволі, сціснуліся кулакі.

— А я думаў...—стрымліваючыся, сказаў ён.

— І не думай,— падхапіў Цімафееў.— Языком я ляпаць ляпаў, а пра дружбу нашу не забываў. Вось іменна.

— Не забываў, кажаш?— колка спытаў Сымон.— Дык што-ж такое дружба, як ты думаеш? Сапраўдная дружба, га?..

Дробіч устаў, моцна сціснуў у руцэ пілотку і пайшоў прэч. Папяроса ў руцэ Цімафеева ўспыхнула і застыла ў паветры.




На здымку: піянеры вітаюць дэлегатаў з'езду.

# XIX З'ЕЗД ЛКСМ БЕЛАРУСІ

Тры дні, з 10 па 12 студзеня 1956 года, у Мінску працаваў XIX з'езд ЛКСМ Беларусі. Прайшлі тры дні, якія з'явіліся не толькі днямі плённай напружанай працы, але і важнай падзеяй у жыцці нашай моладзі. Усе сачылі за работай з'езду. У гісторыі маладых будаўнікоў комунізма запісана яшчэ адна старонка: XIX з'езд ЛКСМБ падвёў вынікі двухгадовай дзейнасці нашых комсамольскіх арганізацый і намеціў іх далейшы шлях, паставіў далейшыя задачы.

З'езд адкрыўся 10 студзеня ў 12 гадзін дня ў прасторнай зале Акруговага дома афіцэраў. Хмурнае, зімовае надвор'е нечакана павесялела, і к гэтаму часу выглянула хоць нізкае, але яркае сонца. Адразу рознымі колерамі зазіхацела ёлка на двары перад домам, дзе збіраўся з'езд. Усяго некалькі дзён мінула, як краіна пераступіла парог новага года.

І вось сталіца прыветліва спаткала прыезджых гасцей. З Гродзеншчыны і Гомельшчыны, з-пад Віцебска і з-пад Брэста прыехалі пасланцы комсамола: рабочыя і калгаснікі, студэнты і воіны Савецкай Арміі. Яны ішлі да галоўнага пад'езда і хутка запоўнілі ўсё памяшканне.

Сакратар ЦК ЛКСМБ А. Аксёнаў аб'яўляе XIX з'езд Ленінскага Комуністычнага Саюза Моладзі Беларусі адкрытым. Урачыста гучаць Дзяржаўны Гімн Беларускай ССР і Гімн Савецкага Саюза. На сцэну пад ганаровай вартай выносіцца Чырвоны сцяг рэспубліканскай комсамольскай арганізацыі.

Дэлегаты з'езду цёпла вітаюць абраны прэзідыум у складзе таварышаў Н. С. Патолічава, В. І. Казлова, К. Т. Мазурава, Н. Я. Аўхімовіча, Ц. С. Гарбунова, Т. Я. Кісялёва. У прэзідыуме паяўляюцца сакратары ЦК ЛКСМБ, госці, перадавікі і наватары прамысловасці і сельскай гаспадаркі, а таксама запрошаныя прадстаўнікі дэлегацый Балтыйскага Ваенна-Марскога Флоту і цалінных зямель Казахстана. Пад буру працяглых воплескаў выбіраецца ганаровы прэзідыум у складзе членаў Прэзідыума Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі Савецкага Саюза. Усе ўстаюць. Віншаванне ў гонар любімай партыі падхоплівае маладое шматгалосае «ура».

Са справаздачным дакладам аб рабоце Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ выступіў сакратар ЦК ЛКСМБ А. Н. Аксёнаў. Ён сказаў, што XIX з'езд комсамола Беларусі праходзіць у абстаноўцы ўсенароднага соцыялістычнага спаборніцтва за дастойную сустрэчу XX з'езду КПСС. Ззаду застаўся апошні год пятай пяцігодкі. Аглядаючыся на шлях, які прайшоў ЛКСМ Беларусі за два гады, можна з поўнай упэўненасцю заявіць, што комсамольцы, уся беларуская моладзь унеслі немалы ўклад у справу далейшага ўздыму народнай гаспадаркі.

Вось яны — пасланцы ад моладзі заводаў і калгасаў, МТС, ВНУ Беларусі. У зале пасяджэнняў прысутнічае памочнік майстра Аршанскага ільнокамбіната, дэпутат Вярхоўнага Совета СССР Надзя Ячмянёва, звеннявая калгаса «Ленінскі шлях» Нясвіжскага раёна, дэпутат Вярхоўнага Совета БССР Ліда Буглай. Колькі светлых, маладых, знаёмых і незнаёмых абліччаў!

Цікавыя лічбы былі прыведзены ў дакладзе Мандатнай камісіі. Сярод дэлегатаў прадстаўнікі самых рознастайных спецыяльнасцей, з якіх 58 рабочых, 47 калгаснікаў, 24 спецыялісты сельскай гаспадаркі, 27 настаўнікаў і піянерскіх работнікаў. Па ўзросту яны — цвет маладосці, юнацтва, а характарам — цвёрды сплаў, найбольш актыўная частка, авангард моладзі.

Кіпучае жыццё, як крыніца, бурліць у зале. Многія з прысутных адзін другога ведалі па чутках, па нарысах у газетах, а цяпер яны пераэнаёміліся, падзяліліся вопытам. Яны пачулі голас адзін другога, асабіста і з высокай трыбуны, адкуль даносіліся думкі вялікай важнасці. Іх трэ' было вырашыць усебакова. Небывалы ўздым, юнацкі запал суправаджаў спрэчкі. Ды як горача! Ні хвіліны роўнадушша! На пасяджэнні з трыбуны чуецца вострая крытыка, дзелавая прамова, а ў перапынак — звонкі смех, песня... Зайграла радыёла — і моладзь закружылася ў танцы. Так магло быць толькі на комсамольскім з'ездзе.

На другі дзень комсамол, як свайго старэйшага важатага, прышлі вітаць піянеры.

Гукі горна, музыка шчаслівага маленства гучыць заклікам, рвецца да люстры пад столлю, насцеж расчыняе ўсе дзверы залы. Пад пошчак бубнаў усе праходы, сцэну запаўняюць піянеры ў чырвоных гальштуках. І хлопчыкі, і дзяўчынкі з кветкамі ў руках. І не з аднымі кветкамі. Юннаты прынеслі лён, маладыя садаводы — галінкі яблынь са спелымі яблыкамі, канешне, плён дасціпных дзіцячых рук. Прэзідыуму піянеры перадалі падарункі: макеты самалётаў, караблёў, таксама зробленыя ўласнымі рукамі. Гэта не толькі рэчы-падарункі, усё гэта — мары будучых лётчыкаў і капітанаў.

Былі выказаны і дакоры свайму важатаму. Асабліва ўсхваляваны гэта гаварыў вершаванай прамовай юнак ад імя навучэнцаў тэхнічных, рамесных вучылішчаў і школ ФЗН. Ён казаў пра недахопы, якія перашкаджаюць у вучобе, што комсамольскія арганізацыі горада кепска клапоцяцца аб культурным адпачынку працоўных рэзерваў. І колькі свядомай спеласці гучала з вуснаў прадстаўніка падрастаючага рабочага класа!

Прамова завяршалася шчырай прысягай:

Ад імя комсамольцаў
працоўных рэзерваў,
Ад вучылішчаў нашых
і ўсіх нашых школ
Сёння клятву даём, што
служыць будзем верна
Сваёй партыі роднай,
табе, комсамол!

З'езду быў перададзены падарунак — мадэль трактара «Беларусь», зроблены навучэнцамі Мінскага тэхнічнага вучылішча № 1.

Пасяджэнні з'езду прадаўжаліся з ранку да вечара.

Высокая прынцыповасць, непрымірымасць да недахопаў, смелая крытыка ў адрас кіраўніцтва за фармалізм у рабоце — вось чым характарызуюцца выступленні комсамольцаў-дэлегатаў, якія сабраліся на з'езд абмеркаваць свае надзённыя справы.

У апошні дзень адбыліся выбары новага складу ЦК ЛКСМБ.

12 студзеня з'езд закончыў сваю работу. Дэлегаты вярнуліся на месцы. Цяпер у комсамольскіх арганізацыях ідзе абмеркаванне рашэнняў з'езду. Моладзь добра помніць наказ, які паступіў на імя з'езду ў прывітанні ад Цэнтральнага Камітэта Компартыі Беларусі, дзе было сказана: «ЦК КПБ упэўнены, што Ленінскі Комуністычны Саюз Моладзі Беларусі і ў далейшым будзе верным памочнікам партыі ў барацьбе за перамогу комунізма, з гонарам будзе выконваць свой свяшчэнны абавязак перад савецкім народам і соцыялістычнай Радзімай».

XIX з'езд ЛКСМБ выказаў нашу гарачую любоў і адданасць роднай партыі, ён рапартаваў Комуністычнай партыі Беларусі аб баявой гатоўнасці нашай моладзі аддаць усе свае сілы пабудове комунізма.

# НА ПАРОЗЕ СЦЭНЫ

I

На адным з шматлікіх уваходаў у тэатр оперы і балета надпіс:

«Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут».

Уваходзім. Перад намі доўгі калідор з мноствам дзвярэй. Цішыня. Ідуць лекцыі. Аднекуль чуваць мелодыя знаёмага раманса. Гэта прафесар кансерваторыі Е. Віцінг займаецца са студэнтамі пастаноўкай голасу. А вось бадзёрыя гукі мазуркі. Гэта В. Дудко вядзе са студэнтамі ўрок танца.

Раптам мы чуем з аўдыторыі нейчы малады звонкі голас: «Пецця!» Для вас гэты голас, напэўна, знаёмы. Вы яго не раз чулі па радыё ў дзіцячых радыёперадачах. Гэта голас Алы Фурманавай, студэнткі другога курса. Народны артыст БССР Д. Арлоў вядзе там лекцыю майстэрства акцёра. Рэпетыруюць урывак з п'есы В. Катаева «Бялее парус адзінокі». Ролю Гаўрыка выконвае Ала Фурманава, Пеці — Яўгені Шабан. Даўно ўжо Ала марыла аб гэтай ролі і вось нарэшце атрымала яе.

ПЕЦЯ. Гаўрык, вашага дзеда выпусцілі!

ГАЎРЫК. Брэшаш!

ПЕЦЯ. Не сыйсці мне з гэтага месца. Бяжым?

ГАЎРЫК. Не. Мне на Паліцэйскую вуліцу трэба.

— Стоп! — перапыняе рэжысёр. — Зусім не зразумелыя вашы адносіны, Гаўрык, да любімага дзеда. Прадумайце лепш. Пачнем яшчэ раз.

Рэпетыцыя працягваецца.

II

Тры гады назад на вуліцах мястэчка Ілья Маладзечанскай вобласці можна было сустрэць задуменную дзяўчынку. Гэта была выпускніца Ільянскай сярэдняй школы Ала Фурманава. Вось-вось яна павінна атрымаць атэстат сталасці і раз назаўсёды выбраць пэўны шлях у жыцці. Была ў яе адна патаемная думка, ад якой замірала сэрца, але Ала нікому не давярала яе, нават самым блізкім сяброўкам.

І вось нарэшце Ала аднесла на пошту вялікі канверт з усімі сваімі дакументамі і з нецярплівасцю пачала чакаць адказу.

...На ўступныя экзамены ў тэатральны інстытут прыехала многа юнакоў і дзяўчат. З вялікім хваляваннем увайшла Ала Фурманава ў залу, дзе за доўгім сталом сядзела прыймовая камісія. Яна ўбачыла знаёмыя твары акцёраў, якіх дагэтуль ведала толькі па кіно. Тут прысутнічалі народныя артысты СССР Г. Глебаў, Б. Платонаў, В. Уладамірскі, народныя артысты БССР Д. Арлоў, І. Ждановіч, К. Саннікаў і шмат яшчэ незнаёмых ёй людзей. Моцна забілася сэрца, першы раз у жыцці ўзнікла сумненне: ці правільна выбрала свой жыццёвы шлях? Але на роздум часу ўжо не было: Алу выклікалі на сцэну.

Яна добра не памятае, як прачытала байку і верш, выканала сцэнічны эцюд на зададзеную тэму. Не бачыла яна і таго, як прабегла ласкавая ўсмешка па тварах людзей, якім не аднойчы прыходзілася даваць пуцёўку ў жыццё сваёй маладой змене. Ад постаці маленькай дзяўчынкі павявала такой чысцінёй і дзіцячай непасрэднасцю, такой абаяльнасцю, а голас гучаў так звонка і пераканаўча, што ні ў кога не было сумнення. «Прыняць, абавязкова прыняць», — была адзіная думка.

І вось Ала Фурманава ўжо на другім курсе. На вясновых экзаменах яна паказала сябе здольнай студэнткай, якая мае ўсё, каб вырасці ў таленавітую актрысу. Асабліва ўдаюцца ёй дзіцячыя ролі. Яна іграе іх з вялікай ахвотай. Але ўдачы, як заўсёды, не прыходзяць самі. Ала многа і настойліва працуе над сабой.

Працуючы над вобразам Гаўрыка, яна па некалькі разоў перачытала творы Катаева, Гайдара, Бяляева, падняла ў бібліятэцы шматлікія матэрыялы аб першай рускай рэвалюцыі. З кожным днём яна даведваецца ўсё больш аб умовах жыцця герояў твора. Спыняюць яе ўвагу дзіцячыя гульні на вуліцы: яна шмат карыснага пераймае з іх для стварэння свайго вобраза.

III

Заглянем у аўдыторыю трэцяга курса. Тут народны артыст БССР К. Саннікаў праводзіць рэпетыцыю п'есы М. Горкага «Апошнія». Па слаўнай традыцыі кожны выпуск павінен мець у сваім дыпломным рэпертуары адну ролю з горкаўскіх п'ес. Іменна на п'есах А. М. Горкага студэнты праходзяць цяжкую школу сцэнічнага майстэрства. К. Саннікаў знарок узяў «Апошнія». Складаную і вельмі адказную ролю Івана Каламійцава атрымаў студэнт Віктар Тарасаў, юнак, які валодае добрымі фактурнымі данымі, унутранай пераканаўчасцю і выразным голасам. Вынікі работы над вобразамі Нешчаслівцава з п'есы А. Астроўскага «Лес» і Андрэя з п'есы Розава «У добры час», што былі паказаны на вясновых экзаменах, далі яму права на гэтую адказную ролю. Віктар толькі пачынае працаваць над стварэннем вобраза Каламійцава. Праз два гады гэта павінна быць яго дыпломнай работай. Ужо цяпер ён старанна збірае матэрыялы, знаёміцца з выкананнем ролі іншымі вядомымі майстрамі сцэны. Вельмі дапамогуць яму і творчыя гутаркі з народным артыстам СССР В. Уладамірскім — лепшым выканаўцам гэтай ролі.

Віктар Тарасаў з захапленнем выконвае ролі гераічнага плану. Паралельна з вобразам Івана Каламійцава ён пачаў працаваць над вобразам Фердынанда з трагедыі Шылера «Каварства і каханне».

У гэты-ж час у аўдыторыі чацвёртага курса народны артыст СССР П. Малчанаў вядзе заняткі па сцэнічнай мове. Прыгожа гучаць пранікнёныя і меладычныя вершы Пушкіна. Галіна Маркіна і Алег Міхевіч рэпетыруюць сцэну ля фантана з трагедыі А. Пушкіна «Барыс Гадуноў».

IV

Нядаўна Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут святкаваў дзесяцігоддзе з дня заснавання. У лістападзе 1945 года пад кіраўніцтвам беларускага дзеяча тэатральнага майстэрства, народнага артыста БССР Еўсцігнея Афінагенавіча Міровіча быў арганізаваны першы курс акцёрскага факультэта. За гады свайго існавання інстытут падрыхтаваў і выпусціў 85 акцёраў, якія працуюць зараз у тэатрах нашай рэспублікі і ў іншых мастацкіх установах. Многімі сваімі выпускнікамі інстытут можа заслужана ганарыцца. Гэта артысты тэатра імя Я. Купалы заслужаная артыстка БССР Л. Драздова і Ю. Галкін, артысты Магілёўскага драматычнага тэатра В. Суднікава і Р. Супораў, артысты Гомельскага драматычнага тэатра К. Бузук, В. Кулішоў і іншыя. З шостага выпуску інстытута складзецца асноўнае ядро Тэатра юнага гледача.

Інстытут укамплектаваны моцнымі выкладчыцкімі кадрамі. Працаваць з маладымі прыйшлі такія майстры сцэны, як Арлоў, Саннікаў, Малчанаў, Ждановіч, Мазалеўская і іншыя. Вырошчвае інстытут і свае ўласныя выкладчыцкія кадры. Пасля заканчэння аспірантуры на пасады старэйшых выкладчыкаў майстэрства акцёра ў яго вярнуліся Герасімовіч і Бутакоў.

У 1952 годзе пры інстытуце адкрыўся мастацкі факультэт з аддзяленнямі жывапісу, скульптуры і графікі.

* * *

Звініць званок. Калідор запаўняе шумлівая моладзь. І тут ні на адну хвіліну не спыняецца яе творчае жыццё. Адны працуюць над эцюдам, другія дзеляцца з педагогамі сваімі думкамі ці сумненнямі адносна ролі.

**С. ПЯТРОВІЧ.**



На здымку: **народны артыст БССР К. Н. Саннікаў і студэнты А. Фурманава, Г. Маркіна і В. Тарасаў.**

Фота А. Дзітлава.



**Сцэна са спектакля «Як гартавалася сталь», які рыхтуе да пастаноўкі Беларускі дзяржаўны тэатр юнага гледача. Ролі выконваюць артысты тэатра камсамольцы Людміла Цімафеева (Тоня Туманава) і Аляксей Бяляеў (Павел Карчагін).**

Фото А. Дзітлава.



Адна з лепшых даярак Тацяна Сінюк. Калгас імя Варашылава Ленінскага раёна Брэсцкай вобласці.

Фото М. Ананьіна.

# ПАКАЗВАЕ МІНСК!

Жыхары беларускай сталіцы і недалёкіх да яе населеных пунктаў убачылі на экранах сваіх тэлевізараў першыя перадачы Мінскага тэлевізійнага цэнтра. У сувязі з гэтым рэдакцыя «Маладосці» звярнулася з пытаннямі да кіраўніка тэлецэнтра тав. Кашэля.

— Які парадак работы тэлецэнтра на першы час?

— Зараз мы вядзем перадачы па суботах і нядзелях,— адказаў тав. Кашэль.— Гэта нашы пробныя перадачы, у часе якіх вядуцца рэгуліровачныя работы. У далейшым аб'ём перадач узрасце, а колькасць іх падвоіцца.

— Ці мае тэлецэнтр звесткі аб дальнасці прыёму мінскіх перадач?

— Так, звесткі такія ёсць, хоць яшчэ і нешматлікія. Зонай трывалага прыёму прынята лічыць адлегласць у радыусе 60 кіламетраў. Нам паведамлялі ўжо аб трывалым прыёме мінскіх перадач на значна большай адлегласці: з Оршы і Калінкавіч. Ад Мінска да Оршы — 210 кіламетраў, а да Калінкавіч — 240 кіламетраў. Тэлевізійныя перадачы могуць быць прыняты за межамі зоны трывалага прыёму з прымяненнем узмацняльных прыставак да тэлевізараў, з вастранакіраванымі антэнамі, якія павінны быць высока падняты над зямлёю. Дальнасць прыёму залежыць таксама ад рэльефу мясцовасці паміж пунктамі перадачы і прыёму.

Затым мы звярнуліся да дырэктара Мінскай студыі тэлебачання тав. Досіна, кіраўніка калектыву, які рыхтуе праграмы перадач.

— Як арганізуецца работа студыі?

— Зараз у нас створаны чатыры рэдакцыі: музычных, літаратурна-драматычных, грамадска-палітычных і кіно-перадач. Калектыў студыі з захапленнем узяўся за работу. Вялікую дапамогу нам аказала група спецыялістаў з Цэнтральнай студыі тэлебачання.

**Інтэрв'ю „МАЛАДОСЦІ"**

— Якія магчымасці перадач мае студыя ў сучасны момант?

— Не чакаючы заканчэння будаўнічых і мантажных работ у малой студыі першай чаргі, мы з дапамогаю маскоўскіх таварышаў абсталявалі часовую студыю. Устаноўлена камера, перад якой вядуць перадачы нашы дыктары. Адсюль перадаюцца нашы канцэрты ў эфір.

З Масквы мы атрымалі вялікую колькасць тэлевізійных кінапраграм. Цэнтральная маскоўская студыя тэлебачання здымае на плёнку ўсё самае лепшае ў галіне мастацтва, што з'яўляецца ў сталіцы, і радыёгледачы маюць магчымасць усё гэта паслухаць і паглядзець. Акрамя гэтага, мы ўжо вядзем абмен тэлевізійнымі праграмамі з іншымі краінамі. У Мінск першая такая пасылка прышла з Чэхаславакіі.

Па меры заканчэння будаўнічых работ у студыях нашага тэлецэнтра, з павелічэннем колькасці здымачных камер нашы творчыя магчымасці будуць усё ўзрастаць.

— Як будуць ажыццяўляцца пазастудыйныя перадачы?

— Перадачы з тэатраў, са стадыёнаў, з заводскіх цэхаў і г. д. будуць весціся з адлегласці да 30 км з дапамогай тэлеперасоўкі. На асноўнай мачце тэлецэнтра будзе ўстаноўлена прыёмная апаратура, якая будзе ўлаўліваць перадачу перасоўкі. Спецыяльныя апараты будуць ачышчаць атрыманыя адлюстраванні, пасля чаго ўсё, што будуць здымаць апаратары, зноў трапіць у эфір ужо цераз стацыянарны перадатчык. Але, нажаль, тэлеперасоўкі ў нас яшчэ няма.





На здымках: уверсе — ля пульта кіравання; унізе — у студыі.
Фото М. Мінковіча.

# ПЕРАД АДКРЫЦЦЁМ ЗАСЛОНЫ

Мы — напярэдадні адкрыцця Беларускага тэатра юнага гледача. Чытачы ўжо маюць некаторыя агульныя звесткі аб новым тэатры. Ён размешчаны ў цэнтры Мінска, побач з Палацам піянераў. Зала яго разлічана на 600 месц.

Галоўны рэжысёр тэатра Л. І. Мазалеўская адказала нам на некалькі пытанняў.

**Пытанне.** Як ствараўся рэпертуарны план тэатра?

**Адказ.** Наш тэатр будзе паказваць п'есы для гледачоў самага рознага ўзросту — ад першакласнікаў да студэнтаў старэйшых курсаў ВНУ. Для самых маленькіх будзе паказаны наш першы спектакль — музычная камедыя В. Карастылёва і М. Львоўскага «Дзімка-невідзімка». Герой гэтай п'есы — вучань-чатырохкласнік.

Адкрыем тэатр інсцэніроўкай па раману Н. Астроўскага «Як гартавалася сталь». Мы таксама рыхтуем спектаклі па п'есах «Каханне Ані Бярозка», «Горад майстроў» і іншых.

**Пытанне.** Як складаўся калектыў тэатра?

**Адказ.** Наш калектыў яшчэ ў стане фармавання. У яго прышла вялікая група моладзі з двух апошніх выпускаў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Уліліся ў калектыў таксама вопытныя акцёры з іншых тэатраў рэспублікі. І, нарэшце, мы прынялі да сябе некалькі таленавітых таварышаў з самадзейнасці.

Рэжысёрам тэатра працуе заслужаны артыст рэспублікі В. В. Пацехін. Галоўным мастаком з'яўляецца адзін з лепшых дэкаратараў Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў О. П. Марыкс. Музычную частку ўзначаліў малады кампазітар Я. Глебаў.

**Пытанне.** Хто ў вашым тэатры будзе іграць ролі дзяцей? Ці будуць заняты ў спектаклях удзельнікі школьных гурткоў самадзейнасці?

**Адказ.** У масавых сцэнах, калі трэба будзе паказаць вялікія групы дзяцей, мы будзем запрашаць дзяцей з самадзейных калектываў і ў першую чаргу — гурткоўцаў з Палаца піянераў. Асноўныя-ж ролі, як правіла, будуць іграць прафесіянальныя артысты. Ужо зараз у нас ёсць сем чалавек, якія могуць іграць ролі дзяцей 12—13-гадовага ўзросту.

**Пытанне.** Што цікавае можна расказаць чытачам аб афармленні спектакляў?

**Адказ.** Не трэба апярэджваць падзей. Няхай многае будзе для нашых гледачоў нечаканым. Магу толькі сказаць, што мы самым шырокім чынам будзем выкарыстоўваць музыку (аркестр і магнітныя запісы), кіно, светавыя эфекты. Так, у спектаклі «Як гартавалася сталь» сродкамі кіно будзе паказана конная атака — эпізод вызваленчых баёў пад Кіевам.

**Пытанне.** З якімі словамі вы хацелі-б звярнуцца перад адкрыццём заслоны да ўсіх, хто цікавіцца работай тэатра?

**Адказ.** Дзецям і юнацтву, нашым будучым гледачам, ад імя ўсяго калектыву мы гаворым: «Калі ласка, сябры, у ваш тэатр!»

Будаўнікам і мантажнікам тэатра: «Дзякуем вам за тую работу, якую вы выканалі добра. Калі ласка, хутчэй выходзьце з тэатра як будаўнікі для таго, каб адразу-ж вярнуцца ў яго ў якасці ганаровых гледачоў».



Гэты фотаздымак сваёй сям'і Людміла прыслала напамяць сваім сябрам, работнікам арцелі «Ударнік».

# Людміла знайшла бацькоў

Было гэта пад Слонімам у пачатку Айчыннай вайны. Фашысцкія штурмавікі толькі што абстралялі шасе, па якім ішлі на ўсход бежанцы. Перад разбітай фурманкай, якая загарадзіла дарогу, спынілася грузавая машына з раненымі. Пакуль байцы расчышчалі шасе, вакол камандзіра ў форме пехацінца-маёра сабраліся жанчыны і дзеці. Кожнаму хацелася хутчэй выбрацца з гэтага пекла. Але хіба мог грузавік забраць усіх, калі ў кузаве было поўна раненых? На вочы маёру трапіла бялявая, змардаваная бяссоннымі начамі і цяжкай дарогай жанчына. На руках у яе было маленькае дзіцё, а за падол спадніцы трымалася бялявая худзенькая дзяўчынка. Маёр загадаў лёгка параненаму капітану злезці з машыны, а на яго месца пасадзіць жанчыну з дзецьмі. Санітар падхапіў дзяўчынку і перадаў яе ў рукі байцоў. У гэты-ж момант над шасе зноў загулі варожыя самалёты. Выбухі бомбаў скаланулі паветра. Маці інстынктыўна кінулася на зямлю, прыціскаючы да сябе дзіцё. Калі бамбёжка скончылася, на шасе машыны не аказалася. А разам з ёй і дачкі.

Так Людміла Крылова страціла сям'ю.

Пра гэтую гісторыю мы даведаліся пазней. А зараз, гледзячы на невысокую дзяўчыну, якая сядзела перада мной, я спрабаваў зразумець, чаму яна не можа знайсці месца ў жыцці, зацікавіцца работай, выбраць сабе прафесію па характару.

З кароценькай аўтабіяграфіі я ведаў, што жыццё Людмілы Крыловай, як і яе сяброўкі Кацярыны Дубік, склалася вельмі няўдала. Пасля дзіцячага дома дзяўчынкі закончылі лясную школу ФЗН. У адным з поўночных леспрамгасаў, куды дзяўчаты былі накіраваны, працавалі чэрствыя, бяздушныя людзі. Халодны, няўтульны інтэрнат, дрэнны парадак на рабоце, хуліганскія адносіны хлопцаў... Дзяўчаты спрабавалі скардзіцца. Іх высмяялі. Тады абедзьве самавольна кінулі работу і паехалі ў Мурманск. Працавалі ў парту, але таксама не ўжыліся, парушылі дагавор і пераехалі ў Петразаводск. Там таксама доўга не працавалі. За два гады шэсць разоў мянялі месца работы і нідзе не маглі ўжыцца. Неналаджанае жыццё падарвала здароўе. Людміла Крылова сур'ёзна захварэла. Сяброўка прапанавала перабрацца на поўдзень, там у яе быццам ёсць радня. І вось дзяўчаты ўжо ў Марыупалі. Пошукі лепшых месц у іх сталі звычаем. Дзяўчаты кінулі працу ў парту і паехалі ў Растоў. Горад ім чамусьці не спадабаўся. Зноў пераезд. Нарэшце дзяўчаты спыніліся ў адным з леспрамгасаў былой Баранавіцкай вобласці.

Вясной 1952 года хвароба Людмілы Крыловай абвастрылася. Урачы забаранілі цяжкую працу.

Што рабіць далей, як жыць?

Агоркла вандраваць з месца на месца. І вось Каця Дубік прапанавала паехаць у Мінск.

У ЦК комсамола ім выдалі пуцёўкі на работу ў нашу арцель.

Выслухаўшы гэтую гісторыю, я падумаў: цяжка нам будзе з гэтымі дзяўчатамі. Глянуў на парторга Сакановіча, які сядзеў побач, і прачытаў у яго вачах тыя-ж думкі.

— А што, дзяўчаты, вы ад нас не ўцячэце?— спытаўся ён.

Сяброўкі пераглянуліся. Усміхнуўшыся, Крылова адказала:

— Пажывем — убачым. Апрыкрала па свеце бадзяцца. Пастараемся працаваць. Так, Каця?

Каця Дубік, смяшлівая смуглянка, кіўнула стрыжанай галавой.

— Няхай будзе так.

Дзяўчат накіравалі ў мастацкі цэх. У інтэрнаце ім быў выдзелены пакой. Наш дружны калектыў прыняў іх у сваю сям'ю. Вопытныя мастакі вучылі дзяўчат маляваць. Новая спецыяльнасць спадабалася сяброўкам.

Люда Крылова аказалася вясёлай, жыццерадаснай дзяўчынай. Яна стала спартсменкай, яе голас хутка зазвінеў у самадзейным хоры. Дзяўчаты пачалі нядрэнна зарабляць, набылі неабходныя рэчы, вопратку. І ўсё-ж Людміла часам сумавала, пазбягала дзяўчат, шукала адзіноты. Мы думалі, што ўсяму віной яе здароўе: хвароба цяжка паддавалася лячэнню. Але была гэтаму і другая прычына, пра якую мы даведаліся пазней.

Аднойчы Крылова захварэла. Я з парторгам пайшлі яе адведаць. Людмілу мы засталі ў слязах.

— Што з табой, Люда?

Крылова прамаўчала, адвярнулася тварам да сцяны. Я ўзяў з яе рук разгорнуты часопіс. Гэта быў «Огонёк». У вочы мне кінулася невялікая заметка з фотаздымкам. На фото — жанчына і маладая дзяўчына падносяць кветкі капітану міліцыі. У заметцы гаварылася аб тым, што супрацоўнік Львоўскай міліцыі за кароткі час адшукаў і вярнуў бацькам дванаццаць дзяцей, якія згубіліся ў дні вайны.

Я зразумеў: у дзяўчыны з дзён вайны засталася незажываючая рана. Пачакаўшы, пакуль яна супакоіцца, я папрасіў яе расказаць нам пра дзяцінства, пра бацькоў.

— Навошта? Нічога цікавага не раскажу,— памаўчала і раптам з глыбіні яе душы вырваліся словы:— Так хочацца ўбачыць родных. Толькі іх няма. Я-ж усё помню... Вайна праклятая.

Крылова пачала расказваць.

— Ну, а што далей было, калі машына павязла цябе ад маці?— запытаўся Сакановіч.

Людміла, справіўшыся з хваляваннем, прадоўжала:

— З ваеннымі я даехала да Бабруйска, а там трапілі ў акружэнне. Ваенныя аддалі мяне стрэлачніку. У таго было чацвёра дзяцей і хворая жонка, памятаю, Зосяй яе звалі. У іх я жыла з поўгода. Потым стрэлачніка забралі немцы за тое, што не хацеў служыць на чыгунцы. Есці не было чаго, а тут прайшла чутка, што акупанты ў Бабруйску стварылі дзіцячы дом. Вось туды і накіраваў мяне камендант. Толькі гэта быў не дзіцячы дом, а сапраўдны дзіцячы лагер: халодны барак, вакол абнесены калючым дротам. Спалі на гнілой саломе, а харчаваліся тым, што з афіцэрскай кухні выкідвалі. Колькі дзяцей загінула! Кроў бралі ў нас для раненых іхніх. Бывала, прывядуць нас са шпіталя, ні аднай крывінкі ў твары. Ну, і пamіралі...

Людміла змоўкла. Маўчалі і мы. Кожнага непакоілі адны і тыя-ж думкі: вайна, смерць. Не, яе допусціць нельга. Мы вельмі дорага заплацілі за мір, каб цяпер зноў допусціць вайну.



Людміла Крылова (злева) перад ад'ездам у Растоў да бацькоў.

— А што далей было?

— Хацелі нас везці ў Германію, толькі акупанты самі трапілі ў «кацёл». Потым жыла ў дзіцячым доме, вучылася ў ФЗН. Пра гэта я з Кацяй Дубік раней вам расказвала.

— І ты не спрабавала шукаць бацькоў?— запытаўся Савановіч.

— Многа разоў і сама пісала і дзіцячы дом шукаў — усё бескарысна.

— А што ты пра бацькоў ведаеш?— прадаўжаў дапытвацца Савановіч.

— Вельмі мала. Помню прозвішча. Бацьку Мікалаем звалі. Ён ваенны быў, здаецца, лейтэнантам. Да ад'езду ў Беларусь мы жылі ў Растове. Калі я была ў Растове, дык зайшла ў адраснае бюро, але мне адрасу не далі. Я ўжо і не веру, што яны жывыя.

— Ну, гэта ты дарэмна. Чытала-ж вось гэты артыкул. Пацікаўцеся, Грыгорый Ціханавіч,— звярнуўся я да Савановіча.

Савановіч прабег вачыма артыкул.

— І я ўпэўнены, што пошукі трэба прадаўжаць. Ці мала ў нас такіх чэрствых людзей, якія баяцца клопатаў і адказваюць на запытанні трафарэтнай фразай: «У спісах не лічыцца».

— Можа і нам трэба звярнуцца да гэтага львоўскага капітана міліцыі?—услых падумаў я.

— А хіба мы самі не зможам? Пачакай, Люда, хутка ўсё будзем ведаць. А пакуль адпачывай, калі што трэба, зробім.

Назаўтра ад імя партарганізацыі мы напісалі пісьмо начальніку Растоўскага гарадскога аддзялення міліцыі. Праз месяц мы атрымалі адказ. Вестка была мала суцяшальная: начальнік пісаў, што ў горадзе больш трыццаці Мікалаяў Крыловых, і ён не зможа знайсці патрэбнага. Канешне, гэта быў звычайны бюракратызм, бо нават калі Крыловых было-б больш ста, усёроўна можна было-б высветліць, ці жыве такая сям'я, якая у час вайны страціла дачку.

— Трэба шукаць праз Міністэрства абароны,— прачытаўшы адказ, прапанаваў Савановіч.—

І вось мы ў ваенкамаце. Капітан Шышкін уважліва выслухаў нашу дэлегацыю, паабяцаў: знойдзем!

Пачаліся настойлівыя пошукі. Запытанні, пісьмы следавалі адны за другімі. Увесь калектыў цікавіўся іх ходам. Прайшло больш двух месяцаў. Аднойчы раніцай да мяне ў кабінет прыбегла Людміла Крылова і кінула на стол мокры, пакамечаны тэлеграфны бланк. Па ўсхваляванаму твару, які смяяўся, хоць па ім каціліся слёзы, я зразумеў — гэта вестка аб бацьках. Я не памыліўся.

«Дарагая Люся мы жывы здаровы бясконца шчаслівыя чакаем прыезду моцна цалуем папа мама Алік».

— Алік — гэта брат, той, што тады ў мамы на руках быў.

Прышоў капітан Шышкін. Ён атрымаў тэлеграму з Міністэрства абароны, у якой паведамлялася, што пошукі закончыліся паспяхова.

— Ваш бацька не лейтэнант, ён маёр у адстаўцы і жыве на старой даваеннай кватэры.

— Крэпасны завулак?

— Там,— адказаў Шышкін.— Віншую, Людміла Мікалаеўна. Даўно трэба было да нас звярнуцца.

Хутка ўсе ведалі, што Людміла знайшла бацькоў. А праз некалькі дзён мы ўсёй арцеллю праводзілі Крылову ў Растоў. Акружаная з усіх бакоў дзяўчатамі, ішла яна на вакзал. Яна была вясёлая і ўсё-ж крыху было сумна. Я разумеў яе. Рабочы калектыў, дзе чалавек знайшоў сваё месца ў жыцці,— гэта таксама сям'я, з якой цяжка расставацца. І нам было шкада расставацца з гэтай простай, шчырай дзяўчынай, якую палюбілі ўсе.

Гудок... Цягнік павёз Людмілу Крылову да бацькоў.

Але на гэтым не закончылася наша дружба з Людай. Мы не забываем яе. Адна справа бацькоўскія клопаты, другая — клопаты таварышаў, рабочай сям'і. Мы рэгулярна пішам ёй пісьмы, а калі хто з арцелі едзе на поўдзень, дык абавязкова наведвае Люду.

Зараз Людміла Крылова працуе на тэкстыльнай фабрыцы, вучыцца ў вячэрняй школе.

**Б. БАГДАНОВІЧ,**
**тэхнарук арцелі «Ударнік».**

# Яны спяваюць пра шчасце

**Павольна адкрываецца заслона, і ў яркім святле ліхтароў мы бачым прыгожы паўкруг жанчын у доўгім беласнежным адзенні і мужчын у шаўковых ружовых кашулях. Гэта хор Мінскай фабрыкі імя Кагановіча. З душэўнай цеплынёй гучаць словы песні аб любімай савецкай Айчыне. Яе змяняе беларуская народная «Вечарком за рэчкаю». Хор упершыню ўдзельнічае ў аглядзе мастацкай самадзейнасці і заслужана карыстаецца ўвагай. Выступае вядомая сваёй добрасумленнай працай на фабрыцы Зінаіда Шабанава. Не адстае ад яе і кляймоўшчыца Галіна Ігнатовіч: яна таксама актыўная харыстка і добрая работніца вытворчасці. Актывістамі ў хоры з'яўляюцца рабочыя фабрыкі Тамара Коваль, Анна Шавейка, Тамара Шыян і многія іншыя.**

**Доўгі час на фабрыцы не было свайго хору. І вось штампоўшчыца Анна Лішай, закройшчыца Зінаіда Шабанава і іншыя, што ўваходзяць у склад культурна-масавай камісіі, горача ўзяліся за стварэнне гуртоў мастацкай самадзейнасці. Аднойчы ў абедзенны перапынак у цэху адбыўся канцэрт. Гэта быў першы крок, які паслужыў пачаткам развіцця самадзейнасці. Паступова лік удзельнікаў і колькасць самадзейных гуртоў павялічваліся. Сіламі гэтых гурткоў у цэхах было дадзена больш 30 канцэртаў.**

**Вялікую работу правёў кіраўнік хору тав. Ляноўскі, які падрыхтаваў калектыў да агляду мастацкай самадзейнасці. Работу сваю хор пачаў з аднагалосных песняў, прыпевак і харавых твораў савецкіх кампазітараў. Няма яшчэ году, як існуе харавы калектыў, а колькасць яго ўдзельнікаў ужо вырасла да 126 чалавек. Папаўняецца і ўзбагачаецца рэпертуар. Цяпер харысты рыхтуюць песні братніх краін народнай дэмакратыі і разам з мужчынскім квартэтам развучваюць «Севастопальскі вальс».**

**Ганаровай граматай узнагароджаны танцавальны калектыў фабрыкі за пастаноўку «Дзявочы перапляс». Танцавальны гуртон пачаў працаваць на фабрыцы ў 1948 годзе. Было ў ім тады ўсяго 5 чалавек. Цяпер у танцавальным калектыве 126 чалавек. Перад гледачамі агляду гуртон паказаў «Дзявочы перапляс» і «Украінскую пляску».**

**Моладзь палюбіла свой гурток. Рознастайны яго рэпертуар: тут і украінская пляска, і закарпацкі танец «Каламійка», і літоўскі «Явара тултас» і іншыя. Увечары, калі заканчваецца рабочы дзень, у клубе можна пачуць знаёмыя мелодыі беларускіх танцаў «Бульбы», «Юрачкі». Гэта ідзе рэпетыцыя.**

**Немалаважнай падзеяй на фабрыцы быў прыезд дэлегацыі рабочых каўнаскага гумаабутковага камбіната «Інкарас». Паміж двума прадпрыемствамі завязалася моцная творчая дружба. Акрамя спаборніцтва ў працы, спаборнічаюць яны і ў самадзейнасці. Госці выступілі з вялікім канцэртам. А ў ліпені мінулага года, напярэдадні 15 гадавіны ўстанаўлення савецкай улады ў Літве, Каўнас, наведалі мінчане. Цёпла, па-сяброўску сустрэлі мінчан работнікі камбіната. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці фабрыкі імя Кагановіча выступілі ў клубе камбіната і ў гарадскім парку, дзе прысутнічала больш 5 тысяч гледачоў.**

**Акрамя сяброў з Каўнаса, фабрыка мае падшэфны калгас імя Тэльмана ў Заслаўскім раёне. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці фабрыкі — частыя госці ў калгаснікаў.**

**А. САННІКАВА.**







На здымках: **удзельнікі самадзейнасці выконваюць беларускі танец «Бульба».**

**Украінскі народны танец.** На пярэднім плане — **рабочы аддзелачнага цэха № 5 Анатоль Дземчын.**

**Кіраўнік хору Л. М. Ляноўскі праводзіць чарговыя заняткі з удзельнікамі самадзейнасці камсамолкамі Зінаідай Ярашонак, Яўгеніяй Казловай, Вікторыяй Васілец і Тамарай Чэпельнікавай.**

**Выступленне хору.**

Фота Г. Бегуна.
(Фотахроніка БЕЛТА.)



# Што вы параіце?

Пасля заканчэння інстытута мяне накіравалі інжынерам на адзін з заводаў у Магілёў. Самаадчуванне маё было супярэчлівым. Радавала тое, што нарэшце я буду працаваць. Непакоіла невядомае, новае: з якімі людзьмі звяжа мяне лёс, хто будуць мае новыя сябры?

Першыя дні я жыў у гасцініцы, бо на заводзе не было свабоднай жылой плошчы. Аднойчы пасля змены мяне затрымаў мой новы знаёмы інжынер Віктар Т.

— Хачу зрабіць вам адну прапанову, — сказаў Віктар. — Перасяляйцеся пакуль што да мяне. Пакой прасторны — хопіць на дваіх. Аднаму, прызнацца, сумнавата.

Я ўжо ведаў, што Віктар за два гады работы на заводзе заваяваў немалы аўтарытэт, што ён здольны і разумны кіраўнік. Яго прапанова мяне проста ўсхвалявала, і я з удзячнасцю згадзіўся.

У нас з Віктарам многа агульнага—узрост, прафесія і нават погляды на многія жыццёвыя рэчы. Здавалася-б, што між намі адразу пачнецца цеснае сяброўства. Але атрымалася інакш.

Нашы адносіны аказаліся нечакана для мяне вельмі складанымі. Віктар ахвотна расказваў аб тэхніцы, новых кнігах, кіно, спорце, але аб сваім асабістым жыцці не гаварыў ні слова. Мяне-ж гэтае пытанне цікавіла і хвалявала. Я ніяк не мог зразумець паводзін Віктара. То ён, радасна ўзрушаны, хутка пераапранаўся і, не гаворачы ні слова, кудысьці ішоў; то лажыўся на канапу і цэлымі гадзінамі ляжаў з адкрытымі вачыма, адказваючы на мае пытанні толькі «не» ці «так»; то раптам уставаў ноччу з пасцелі, уключаў настольную лямпу, штосьці пісаў, потым ірваў на дробныя кавалкі і зноў пісаў. Было відаць, што ў душы юнака адбываецца нейкая барацьба. Але я трымаў сябе так, быццам нічога не заўважаю.

І нядаўна мне стала ўсё вядома. Неяк вяртаюся я а дзесятай гадзіне дамоў і застаю Віктара ў незвычайным настроі. Толькі на гэты раз ён сустракае мяне нечаканым пытаннем:

— Скажы, ты быў калі-небудзь закаханы?

Спачатку мне здалося, што гэта проста жарт, але калі я з цікаўнасцю зазірнуў у вочы сябра (я лічу, што мы іменна з гэтага моманту сталі сябрамі), у якіх адбівалася і надзея, і сумненне, і хваляванне, і туга, — я зразумеў, што гэты чалавек у адказную хвіліну свайго жыцця звяртаецца да мяне за парадай.

— Давай сядзем, закурым, і ты, Віктар, нарэшце, растлумачыш мне ўсё. Гэта табе не пашкодзіць. Ты, можа, чуў, як калісьці адзін чалавек, не знайшоўшы сабе субяседніка, выказваў усё сваё гора каню, і яму, чалавеку, стала лягчэй...

— Усё наадварот, — усміхнуўся Віктар, — у мяне не гора, а ты не конь. Я проста не ведаю, што мне далей рабіць.

Мы селі на канапу. Праз марознае акно проста на нас глядзеў поўны месяц. Я выключыў электрычнае святло.

— Рамантычную абстаноўку ствараеш, — заўважыў Віктар. — Я, брат, і ёсць рамантык. Вось слухай, — задуменна пачаў ён. — Пасля інстытута ў мяне ў думках было толькі адно: завод, праца. Усё ішло добра, і я, здавалася, быў шчаслівы. Аднойчы да мяне ў службовы пакой зайшла незнаёмая дзяўчына. Сказала, што яе прыслалі працаваць на наш завод, што завуць яе Клавай і што яна хоча пагутарыць аб некаторых рэчах.

Мы доўга гаварылі пра розныя вытворчыя справы. Я адразу зразумеў, што тэарэтычна гэтая дзяўчына ведае больш за мяне, што ёй патрэбна толькі прызвычаіцца да заводскага асяроддзя і асвоіць некаторыя новыя працэсы. У канцы нашай гутаркі Клава расказала аб сваім інстытуце, аб Маскве, дзе правяла гады вучобы, распытала аб Магілёве. Развітваючыся, сказала: «Дзякуй за ўсё. Магу я і ў далейшым разлічваць на вашу дапамогу?» Я, зразумела, з ахвотай згадзіўся. Гэтая дзяўчына здалася мне зусім іншай, чым другія, знаёмыя мне. Строгая, упэўненая ў сабе — такіх дзяўчат я, здаецца, не сустракаў. Ты ўяўляеш, што са мной зрабілася! Днём — завод, работа і, канешне, думкі аб ёй. Вечарам — сама яна, кіно, прагулкі на лодцы па Дняпру, бясконцыя гутаркі, спрэчкі.

Развітаешся з ёю, прыдзеш да сябе і радуешся, што нікога няма ў пакоі, што ніхто не пашкодзіць думаць аб ёй хоць да раніцы... Праўда, бывала, не заплюшчыш вочы ўсю ноч, а энергіі ў цябе ўтрая больш. Сам ведаеш, кахаўжа калі-небудзь...

Віктар памаўчаў, уздыхнуў і, быццам не заўважаючы маёй прысутнасці, успамінаў услых:

— Ішлі аднойчы па вуліцы, гаварылі аб прагледжаным спектаклі. Я падскочыў, каб сарваць з дрэва лісток. Не дастаў. Паспрабаваў яшчэ. Яна затрымала мяне за руку, прамовіла: «Не трэба, шкада лісточка». У гэтых словах я ўлавіў ласку і асмеліўся загаварыць з Клавай аб сваім пачуцці. Яна маўчала, але я бачыў, што ёй падабаецца маё блытанае прызнанне. Мне тады і ў галаву не прыходзіла патрабаваць у яе адказу, я быў узрадаваны, што яна ўжо ўсё ведае. «Мне ўжо 22 гады, — сказала Клава, — а спытайце, што такое каханне, не ведаю. І самой дзіўна, што да гэтай пары нікога не кахала». Я вельмі ўзрадаваўся гэтым словам: значыцца, мае падазрэнні, што Клава, магчыма, кахае другога, былі лішнімі. Няхай яна не кахае і мяне, нічога, я заваюю яе пачуццё — абавязкова заваюю!

Думалася так, а атрымоўвалася зусім інакш. Пасля таго вечара я адчуў, што Клава аддаляецца ад мяне. Яна ўсялякімі спосабамі старалася са мной не сустракацца. Я зразумеў, што пачынаю навязвацца ёй і за гэта ненавіджу сябе. Мы сустракаліся толькі на рабоце або выпадкова. Я ніяк не мог растлумачыць перамену Клавы ў адносінах да мяне. У маёй душы рабілася нешта незразумелае: я і любіў Клаву, мяне грызла трывога, надзея змянялася самым беспрасветным сумам.

Вясной Клава захварэла, і яе паклалі ў бальніцу. Я кожны дзень прыходзіў да яе, перадаваў свежыя газеты, часопісы. У яе запісках была гарачая ўдзячнасць і больш нічога. Вось адна з яе запісак — да гэтай пары хаваю.

Віктар дастаў з кішэні складзены папалам лісток паперы, уключыў святло. Я прачытаў: «Даруйце, Віктар, запіску вашу яшчэ не прачытала (вельмі доўгая яна). Хачу дадому. Каб якія-небудзь крыллі паднялі і панеслі мяне адсюль!!! Вы смешны, Віктар. Не крыўдуйце на мяне, але мне здаецца, што ў вас ёсць нешта агульнае з Дон-Кіхотам».

Віктар забраў запіску і, асцярожна склаўшы, схаваў.

— Мы не бачыліся каля месяца, а потым я даведаўся, што яна паехала на поўдзень у санаторый. Гэтаму я ўзрадаваўся: хутчэй забуду, думаў.

Але не забыў. Гэта ніяк не ўдавалася. Нарэшце, Клава прыехала. Хацелася пабачыцца з ёй, пагаварыць, як са звычайным знаёмым. Але штосьці ўтрымлівала ад такога кроку. Мабыць, сорам за сябе, за тое, што ты быў у яе вачах наіўным хлапчуком. І раптам, калі я збіраўся ісці дамоў з завода, мне пазванілі. «Добры дзень, Віктар, гэта я, Клава. Вы не зможаце зараз заглянуць да мяне, вам па дарозе?..» «Добра, зайду», — адказваю стрымана і тут-жа адчуваю, як забілася непаслухмянае сэрца.

Клава сядзела адна ў сваім маленькім пакойчыку. Яна ўстала мне насустрач, працягнула руку, падзякавала, што зайшоў. Я-ж глядзеў на яе моўчкі, са здзіўленнем і радасцю, як глядзяць на блізкага чалавека, якога лічылі загінуўшым. Вочы ў Клавы былі вільготнымі ад слёз. «Што з вамі? Вы плакалі?» — спытаў я. Яна нічога не адказала, толькі асцярожна працягнула руку і зняла пушынку з майго пляча.

І мне, дурню, хваля шчасця зноў зацямніла розум. Я зноў павёў яе па старых, знаёмых месцах.

Мы зноў часта сустракаліся, амаль кожны дзень. Аднойчы я, сабраўшы ўсю сваю адвагу, пацалаваў яе. Яна вырвалася, доўга і нерухома глядзела на мяне сваімі цёмнасінімі, строгімі вачыма. Здавалася, вось-вось лясне мне па шчацэ. Я нават папрасіў яе зрабіць гэта. «Не, — прамовіла яна, — не буду вас біць. Вы і без гэтага зразумееце».

Якраз пастукалі ў дзверы, зайшла суседка, а я, усхваляваны і абяззброены, пайшоў па апусцеўшых вуліцах горада.

Некалькі дзён маўчаў, а сёння пазваніў, сказаў, што хачу сур'ёзна пагаварыць. Згадзілася.

Хіба ўсё перадасі! Дрэнная была гэта размова. Скажу толькі, што клавіна жаданне — быць проста сябрамі. А я даказваў, што не магу быць проста сябрам. Ну, падумай ты сам: якое можа быць сяброўства паміж двума чалавекамі, з якіх адзін кахае, а другі не адказвае яму ўзаемнасцю? Ці-ж можа існаваць у такіх людзей поўная шчырасць, давер'е, гэта значыць тое, без чаго няма сяброўства? Мне здаецца, што не. Таму я не прыняў прапанову Клавы і сказаў, што з сённяшняга дня мы толькі знаёмыя — не больш. І пайшоў.

Ці хопіць зараз у мяне сілы волі, каб стрымаць свае словы, каб пры першым яе цёплым поглядзе не растаць, не пайсці на павадку пачуцця? Не ведаю, ці вытрымаю...

Я абдумваў усё, сказанае Віктарам, і не ведаў, што яму параіць. Мне стала шкада гэтага рашучага і такога бездапаможнага цяпер хлопца. Я стаў даказваць яму, што раз ён кахае, то гэта ўжо добра, таму што каханне, нават не раздзеленае, прыносіць людзям шчасце.

— Не суцяшай мяне, — сумна прамовіў Віктар, — гэта ўсё тэарэтычна і, мабыць, зусім няправільна. Ты скажы, што мне рабіць? Я яе кахаю, яна мяне — не. Гэта ясна. Забыць мне Клаву ці працягваць змагацца за яе каханне. І як змагацца?

Я нічога не змог адказаць на гэтыя пытанні свайго сябра, і мы ляглі спаць з аднымі і тымі-ж думкамі. А сёння, у нядзелю, я пайшоў у бібліятэку, напісаў пра ўсё гэта і вырашыў паслаць у часопіс. Можа праз яго адкажуць чытачы Віктару, які ў сваім пачуцці зайшоў у тупік. І наогул мы вельмі рэдка абмяркоўваем у друку складаныя пытанні сяброўства, кахання, шчасця — тое, што хвалюе кожнага, да чаго кожны імкнецца, але некаторыя на шляху да гэтага робяць няправільныя крокі, спатыкаюцца, падаюць, становячыся пасля маральнымі калекамі.

Прашу адказаць на мой ліст.

**Мікалай ВАЛОШКА.**

# Szpilki

По старонках польскага сатырычнага часопіса «Шпількі»

Пра кнігі, якія не купляюць.



— З гэтых «цаглін» не збудуеш соцыялізма!

Мал. К. Баранецкага.

## У РАДЗЕ НАРАДОВЛИ



— Грамадзянін кіраўнік, там адзін прышоў з накіраваннем на працу, што з ім рабіць?

— Накіруем яго ў аддзел куплі, Кавальскага перавядзем у аддзел гандлю, Маеўскага — у аддзел асветы, а Новака, які нікуды не варты, перавядзем у пададдзел культуры.

Мал. К. Фэрстэра.



— Калі не хочаце даваць крэдытаў на будаўніцтва, дайце хоць для таго, каб разабраць збудаванае.

Мал. С. Кабылінскага.



— О-о-о! Зноў у новым капелюшы?

— Але. Ведаеш, што галава — гэта маё слабае месца.

Мал. Ха-Га.

## Шырокі экран

Сур'ёзным дасягненнем нашай айчыннай кінематаграфіі з'яўляецца шырокаэкраннае кіно з прасторавым (стэрэафанічным) гукам.

Што гэта такое?

У звычайным кінотэатры глядач бачыць малюнкі на экране, не паварочваючы галавы, таму што, па-першае, экран малы, а па-другое, гук зыходзіць з адной крыніцы.

У кінотэатры-ж са стэрэафанічным гукам глядач выразна, нават з закрытымі вачамі, адчувае, дзе знаходзіцца і адкуль ідзе гук.

Для забеспячэння такой ідэальнай перадачы ў звычайным кінотэатры неабходна было-б за экранам мець столькі гучнагаварыцеляў, колькі крыніц гуку паказана на экране. Пры гэтым гучнагаварыцелі павінны былі-б перамяшчацца так, як і пры здымцы. Практычна гэтага зрабіць нельга. Але дастаткова мець у фільме не адну, а некалькі фанаграм і потым кожную з іх узнаўляць асобнымі ўзмацняльнікамі і гучнагаварыцелямі, каб дамагчыся прасторавага эфекту. Для гэтага трэба таксама павялічыць шырыню экрана ў два-тры разы, змяніць яго форму. Экран робіцца з гукапранікальнага матэрыялу, каб можна было гучнагаварыцелі размясціць за экранам.

Здымкі і паказ шырокаэкранных кінофільмаў робяцца з дапамогай так званай анамарфотнай (дэфарміруючай) оптыкі, якая насаджваецца на аб'ектыў кінаапарата. Знятыя такім чынам кадры кінофільма памерам 23,16×18,16 мм дзякуючы адпаведнай лабараторнай апрацоўцы маюць няправільныя, вузкія, малюнкі. Кінааб'ектыў абсталяваны анамарфотнай оптыкай, захоплівае, прыкладна, удвая большае поле па гарызантальнаму кірунку. Пры дэманстраванні знятыя такім чынам кадры-малюнкі расцягваюцца ўшыркі, забяспечваючы на шырокім экране правільнае адлюстраванне.

На шырокім, прасторавым экране можна паказаць больш малюнкаў, чым на звычайным.

Як атрымліваецца стэрэафанічнае, прасторавае ўяўленне гуку?

Для атрымання прасторавага гуку запіс робіцца не на адну, як звычайна, а на чатыры гукавыя дарожкі, чатырма асобнымі мікрафонамі. Гукавыя дарожкі ў шырокаэкранным фільме магнітныя. Іх тры шырынёю па 1,6 мм — для стэрэафанічнага гуку і адна шырынёю ў 0,8 мм для гукавога эфекту. На кожным кінапраектары ўстанаўліваецца дадатковая прыстаўка, якая забяспечвае прасоўванне фільма з пастаяннай і роўнамернай хуткасцю; прыстаўка мае чатыры магнітныя галоўкі, якія ўзнаўляюць магнітныя фанаграмы. Кожная галоўка злучана з самастойным узмацняльнікам, а апошні — з асобнай групай гучнагаварыцеляў. Такім чынам, узмацняльная гукаўтваральная сістэма ўяўляе сабой чатыры самастойныя каналы вялікай магутнасці і аднолькавых характарыстык.

У шырокаэкранных фільмах куды лепшая яснасць гучання аркестраў, музычных інструментаў, мова акцёраў. Апрача таго, гук перамяшчаецца ў адпаведнасці з падзеямі на экране. Гледзячы такі фільм, ствараецца ўражанне панарамнасці малюнкаў, асабліва масавых, батальных і натуральных сцэн. Акрэсленае ўспрыняцце становішча крыніцы гукаў і адчуванне іх руху стварае ўражанне рэальнасці дзеянняў, што адбываюцца на экране.

... Пачынаецца кінасеанс. У глядзельнай зале паступова гасне святло, рассоўваецца занавес, і глядач бачыць палі, лясы, мора... Галасы герояў чуваць з экрана, а шум дажджу, ветру, самалёта чуецца непасрэдна ў зале. Ствараецца ўражанне, што ты знаходзішся сярод падзей, якія паказваюцца, а не ў кінотэатры.

Нядаўна шырокі экран абсталяван у Мінскім кінотэатры «Перамога». Мяркуецца ў хуткім часе адкрыць шырокаэкранныя кінотэатры ў Гомелі, Магілёве і Маладзечна.

Э. КРАСОЎСКІ.

# ВЯЛІКІ НЯМЕЦКІ ПАЭТ

**Да 100-годдзя з дня смерці Генрыха Гейне**

Расказваюць, быццам да рэдактара нямецкага часопіса «Субяседнік» аднойчы зайшоў малады чалавек і падаў рукапіс.

— Я яшчэ невядомы, — сказаў ён, — але дзякуючы вам хачу зрабіцца вядомым.

Рэдактар часопіса ўсміхнуўся, але рукапіс узяў. Вершы маладога паэта спадабаліся яму і неўзабаве былі надрукаваны. Гэтым паэтам быў Генрых Гейне. За першымі вершамі пайшлі другія, і праз некаторы час ў 1828 годзе выйшла асобным выданнем «Кніга песень», якая складалася з некалькіх цыклаў. Гэтая кніга і прынесла паэту сапраўдную славу.

Што-ж прыцягвала ўвагу чытачоў? У першым зборніку паэт пісаў пра няшчаснае каханне. Пра гэта пісалі і да Гейне, але ён глыбока інтымную тэму раскрывае як трагедыю чалавека ў свеце, дзе ўсё прадаецца, нават такое высокае пачуццё, як каханне. Рэдкае спалучэнне паэзіі і думкі, пяшчотнасці да любімай і нянавісці да свету гандляроў, лёгкасць вершаванай формы — усё гэта адразу паставіла Гейне ў рады першых паэтаў Германіі.

Нянавісць да дэспатычнага рэжыму дробных феадалаў, якія гаспадарылі ў княствах і «каралеўствах» у той час раздробленай Германіі, прымусілі Гейне пераехаць у Парыж. Парыж здалёк здаваўся яму месцам свабоды. Але паэт хутка пераканаўся, што свет буржуазіі, якая прыйшла да ўлады пасля перамогі ліпеньскай рэвалюцыі 1830 года, вельмі далёкі ад ідэальнага свету свабоды, роўнасці і братства. Тут, у Парыжы, Гейне пачынае выступаць як рэвалюцыйны сатырык. Ён з'едліва смяецца над прускай рэакцыяй, гандлярствам, прадажнасцю буржуазіі і тупасцю «святога» мяшчанства.

Гейне піша сатыры, палітычныя памфлеты у прозе, цыклы артыкулаў аб мастацтве, літаратуры, аб тагачасным жыцці. Яго дзейнасць была накіраваная да таго, каб абудзіць свядомасць нямецкага народа.

> Буди барабаном уснувших,
> Тревогу безустали бей;
> Вперед и вперед продвигайся —
> В том тайна премудрости всей.

Так гаворыць Гейне ў вершы «Дактрына». Паэт уважліва сочыць за палітычным жыццём Францыі, за рабочым рухам. Яго глыбока цікавіць вучэнне соцыялістаў, ён надае вялікае значэнне партыі камуністаў. Камунізм ахоплівае ўвесь свет, — пісаў Гейне, — таму што камунізм валодае мовай, якая зразумела ўсім народам.

У гэтыя гады Гейне сустракаецца з чалавекам, які становіцца яго чытачом, крытыкам і сябрам. Сустрэчы з ім узмацнілі рэвалюцыйныя погляды паэта. Гэтым чалавекам быў Карл Маркс. Найбольш рэвалюцыйная лірыка была створана Гейне ў перыяд дружбы з Марксам.

Улетку 1844 года адбылося паўстанне сілезскіх ткачоў — першае буйнае выступленне рабочага класа Германіі. У славутым вершы «Сілезскія ткачы» паэт пасылае праклянцце Германіі памешчыкаў і капіталістаў, носьбіту рэакцыі каралю.

> Будь проклят король, кто одних богачей
> Берет под защиту, у бедных ткачей
> Последний их грош отнимая и, словно
> Собак, их давя и губя хладнокровно.
> Мы ткем тебе саван!

У гэты-ж час Гейне стварае выдатныя ўзоры рэвалюцыйнай сатыры — паэмы «Германія (Зімняя казка)» і «Атта Троль».

Апошнія гады жыцця Гейне праводзіць прыкаваным да ложка цяжкай хваробай. Паражэнне рэвалюцыі 1848 года выклікае ў паэта песімістычны настрой. Часам у яго з'яўляюцца ноткі адмоўных адносін да камунізма, страху перад ім. Такія хістанні характэрны для Гейне — мелкабуржуазнага дэмакрата, якім ён па сутнасці быў. Але нягледзячы на гэтыя хістанні, Гейне вітаў будучую перамогу рабочага класа.

Памёр Гейне 17 лютага 1856 года.

«Я не ведаю, ці заслугоўваю я, каб на маю труну ўсклалі лаўровы вянок. Як бы моцна я ні любіў паэзію, яна была для мяне заўсёды толькі свяшчэннай забавай, свяшчэнным сродкам для дасягнення далёкай мэты... Але меч вы павінны ўскласці на маю труну, таму што я быў храбрым салдатам у барацьбе за вызваленне чалавецтва», — сказаў Гейне пра сябе.

Рэвалюцыйная паэзія Гейне выклікала шалёную нянавісць не толькі ў буржуазіі XIX стагоддзя. Сучаснае буржуазнае грамадства таксама байца бязлітасна выкрываючага слова Генрыха Гейне. Яго кнігі спальваліся на кастрах у фашысцкай Германіі. Нават імя яго было пад забаронай. Ды і зараз мілітарыстам Заходняй Германіі страшны Гейне і яго неўміручая паэзія.

Народы Расіі былі знаёмы з творчасцю Гейне яшчэ пры яго жыцці. Першымі перакладчыкамі яго былі М. Ю. Лермантаў, Н. А. Някрасаў, Ф. І. Цютчэў і другія вялікія паэты. Рэвалюцыйныя дэмакраты Н. Г. Чэрнышэўскі, Н. А. Дабралюбаў, Д. І. Пісараў высока ацэньвалі творчасць Гейне і прысвяцілі яму артыкулы.

Многія вершы Гейне пакладзены на музыку не толькі заходнееўрапейскімі, але і рускімі кампазітарамі — А. П. Барадзіным, Н. А. Рымскім-Корсакавым, М. П. Мусаргскім, П. І. Чайкоўскім і іншымі.

Генрых Гейне дарагі ўсяму перадавому чалавецтву. Яго імя стаіць у раду імён такіх гігантаў сусветнай культуры, як Шэкспір, Гётэ, Пушкін, Міцкевіч.

**Б. МАЦВЕЕЎ.**

*З нашай пошты*

## СЯБРЫ ШКОЛЫ

**У 4-й сярэдняй школе горада Мінска свая рабочая майстэрня. Тут стаяць станкі — такарны, стругальны, шліфавальны, чатыры варштаты для навучання слясарнай справе. Усе станкі працуюць.**

**На сценах развешаны плакаты, якія заклікаюць: «Трымай рабочае месца ў чыстаце», «Перад работай на станку схавай валасы пад берэт або касынку, зашпілі рукавы».**

**Кожны, хто загляне ў школьную майстэрню, з павагай да людзей, якія зрабілі ўсё гэта для школы, прачытае таблічкі, прымацаваныя на станках і варштатах: «Станкабудаўнічы завод імя Кірава».**

**У асобным пакоі сталярня. У ёй неабходны інструмент, абсталяванне і матэрыялы для працоўных заняткаў.**

**Кіраўцы — руплівыя шэфы — старанна, з любоўю абсталявалі ў школе майстэрню, вылучылі сваіх інжынераў, тэхнікаў, майстраў для правядзення з вучнямі ўрокаў працы, тэхнічных заняткаў. Інжынер завода імя Кірава К. Пятроў, майстар мадэльнага цэха Ярашэвіч і другія вопытныя заводскія работнікі перадаюць школьнікам свае веды, на практыцы знаёмяць іх з прынцыпамі сучаснай вытворчасці.**

**Шэфы дапамагаюць настаўнікам арганізоўваць экскурсіі на вытворчасць, выступаюць перад школьнікамі з расказамі аб аўтарытэце рабочай прафесіі.**

**— У нас клапатлівыя шэфы, — гаворыць пра кіраўцаў настаўнікі і вучні. — Сапраўдныя сябры школы.**

**А. НІКАЛАЕВА.**

**НА ЗДЫМКУ: У слясарнай майстэрні школы. Заняткі з вучнямі старэйшых класаў па машыназнаўству праводзіць інжынер завода імя Кірава К. А. Пятроў.**

Фото І. Замыцкага.



## АДНАПАЛЧАНЕ АНАТОЛЯ ВОЛАХА

**Нельга без хвалявання чытаць пажоўклыя ад часу старонкі франтавых газет, дзе расказваецца аб подзвігах слаўнага сына беларускага народа, смелага разведчыка, выхаванага Ленінскім камсамолам, гвардыі сяржанта Анатоля Волаха. У баях за Радзіму ён праявіў сябе воінам-героем. За мужнасць і адвагу яму пасмяротна было прысуджана званне Героя Савецкага Саюза.**

**У часці, дзе служыў сяржант Волах, зараз няма ўжо ветэранаў вайны, людзей, якія ведалі героя асабіста, але імя яго вядома кожнаму воіну. Прыклад вернага і самаадданага служэння Радзіме заўсёды дапамагае салдатам у вучобе, натхняе на авалоданне баявым майстэрствам. Нездарма ў камсамольцаў вырашана было правесці камсамольска-маладзёжны вечар на тэму: «Служыць Радзіме так, як служыў наш аднапалчанін Анатоль Волах». Было вырашана запрасіць на вечар бацькоў Анатоля.**

**І вось у клуб сабраліся воіны для сустрэчы з бацькам свайго героя-аднапалчаніна Аляксандрам Якаўлевічам Волахам. Аляксандр Якаўлевіч займае месца ў прэзідыуме. Чуецца каманда — «Смірна!» У залу ўносяць гвардзейскі сцяг. Сямідзесяцігадовы чыгуначнік-пенсіянер з гонарам глядзіць на праслаўлены ў баях Чырвоны сцяг, пад якім яго сын даваў прысягу на вернасць Радзіме. Пад гэтым сцягам Анатоль Волах і яго баявыя сябры самаадданa змагаліся з ворагам у гады Айчыннай вайны.**

**— Сябры мае, — звяртаецца Аляксандр Якаўлевіч да воінаў. — Я ўжо стары і магу назваць вас сваімі сынамі, а некаторых і ўнукамі. І так, як калісьці свайму сыну Анатолю, хачу даць і вам бацькоўскі наказ. Няма вышэйшага шчасця, чым шчасце жыць у савецкай краіне. Дык ахоўвайце-ж яго пільна, стойце на сваіх баявых пастах, вучыцеся ваеннаму майстэрству. Я ўдзячны вам, дарагія сябры, што вы знайшлі мяне і паведамілі аб тым, што майму сыну прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, чаго я дагэтуль не ведаў.**

**Нядаўна мы пабывалі на кватэры бацькі героя. Ён толькі што вярнуўся з горада Лебедзін, куды быў запрошаны на адкрыццё помніка сыну. Сямідзесяцігадовы чыгуначнік-пенсіянер падрабязна расказаў нам пра свайго сына, пра тыя клопаты, якія праявілі аб ім аднапалчане.**

**Л. КУВІН.**

## НА ЗАВОДСКАЙ СЦЭНЕ

**Камсамольцы Віцебскага завода імя Кірава прапанавалі стварыць на іх прадпрыемстве драматычны гурток. Кіраваць гуртком згадзілася метадыст абласнога Дома народнай творчасці Анна Самажнёва.**

**Першым сур'ёзным выпрабаваннем для драмгурткоўцаў была пастаноўка па п'есе К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». Ролю Гарлахвацкага выконваў Пётр Вайцахоўскі, рабочы трэцяга ліцейнага цэха, ролю жонкі Гарлахвацкага — Марыя Скакун, лепшая работніца завода.**

**На гарадскім аглядзе мастацкай самадзейнасці драматычны гурток паспяхова паставіў гэты спектакль і заняў другое месца.**

**Цяпер у рэпертуар драмгуртка ўваходзяць такія творы, як «Апошнія» М. Горкага, «Макар Дубрава» А. Карнейчука, «Паўлінка» Я. Купалы і іншыя. У ім удзельнічае больш 20 рабочых — людзі розных узростаў і прафесій.**

**На вечары, які нядаўна тут адбыўся, гурткі мастацкай самадзейнасці далі вялікі канцэрт.**

**Салісткі Мая Карпенка і Лёля Купрычэнка выканалі песні «Партыі слава», «Песню аб Радзіме» і «Уральскую рабінушку».**

**Танцоры выканалі «Малдаванеску» і «Чэшскі танец». Дэкламатар Васіль Мушкін прачытаў урывак з паэмы «Васіль Цёркін» А. Твардоўскага.**

**Драмгуртковцы паказалі ўрыўкі з п'есы К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». У заключэнне канцэрта духавы аркестр выканаў некалькі песень з савецкіх кінофільмаў.**

**— Малайцы нашы артысты, добры канцэрт падрыхтавалі, — задаволена гаварылі кіраўцы. — А быў час, калі гаварылі, што ў нас на заводзе талентаў няма. Аказваецца, і таленты ёсць і час знайшоўся, калі за справу ўзяліся камсамольцы.**

**г. Віцебск.**

**Н. ГЛУШАКОЎ,**
**Ю. СВІРКО.**

## МАЙСТАР СТРАЛЬБЫ



Упершыню ў сваім жыцці Ліза ўзяла вінтоўку, калі была студэнткай педінстытута. Неяк прышла яна з сябрамі ў цір. Ёй спадабалася, як некаторыя аматары добра стралялі з дробнакаліхернай вінтоўкі. Паспрабавала сама, але куля пайшла «па малако».

— Нічога. І так бывае, — да дзяўчыны падышоў Грыгорый Наваш, студэнт політэхнічнага інстытута, і спагадліва дадаў: «Калі захочаце, то будзеце страляць лепш за мяне, хоць, можа, не адразу...»

— Што-ж, паспрабую, — усміхнулася Ліза.

Дзяўчына ўсё часцей пачала наведваць стралкова-спартыўны клуб, пасябравала з Грыгорыем Навашом, Інай Загорскай і многімі іншымі студэнтамі-спартсменамі.

У красавіку мінулага года Ліза Белая ўдзельнічала ў спаборніцтвах на першынство Беларусі па стралковаму спорту і выканала норму майстра спорту СССР. Яна выбіла 573 ачкі з 600 магчымых.

... Закончаны педінстытут, атрыманы дыплом выкладчыка мовы і літаратуры, але Ліза не пакідае любімага спорту. Улетку ў складзе зборнай каманды Беларускай ССР комсамолка Л. Белая ўдзельнічала ва ўсесаюзных спаборніцтвах па стралковаму спорту ў Маскве, а потым у Львове, на якіх праявіла сябе як адзін з лепшых стралкоў.

Зборная каманда ДТСААФ СССР па стралковаму спорту ў лістападзе 1955 года прыняла ўдзел у міжнародных спаборніцтвах стралкоў, якія праводзіліся паблізу сталіцы Кітайскай Народнай Рэспублікі — Пекіна. У гэтай камандзе была і мінчанка Ліза Белая.

— Паездка ў Кітай, — расказвае яна, — незабыўная падзея ў маім жыцці. Я, як і ўсе члены каманды Совецкага Саюза, яшчэ раз пераканалася, як горача, па-брацку, любяць совецкіх людзей кітайцы, якая моцная, непарыўная дружба аб'ядноўвае нас — совецкіх і кітайскіх людзей.

На міжнародных спаборніцтвах Ліза Белая па стральбе «стоячы» заваявала асабістае другое месца, уступіўшы першынство гаркаўчанцы Зіне Кармушкінай.

Балгарскія, румынскія, польскія, чэшскія, мангольскія, карэйскія і в'етнамскія спартсмены, што ўдзельнічалі ў спаборніцтвах горача віншавалі каманду Совецкага Саюза, якая заняла першае агульнакамандное месца. Моцна паціскалі яны рукі прызёру гэтых спаборніцтваў — беларускай спартсменцы Лізе Белай, якая парадавала сваіх сяброў бліскучымі спартыўнымі вынікамі.

Вярнуўшыся напярэдадні Новага года ў Мінск, спартсменка Елізавета Якаўлеўна Белая зноў працуе настаўніцай ў сярэдняй школе і часта наведвае стралкова-спартыўны клуб, яшчэ з большай настойлівасцю рыхтуецца да будучых сустрэч і спаборніцтваў, удасканальвае сваё майстэрства.

Няма сумнення ў тым, што рэкардсменка Беларусі, майстар стралковага спорту Е. Я. Белая, якая ўваходзіць у дзесятку мацнейшых стралкоў краіны, у бліжэйшы час парадуе новымі спартыўнымі дасягненнямі, новымі рэкордамі. Гэта будзе яе падарунак Спартакіядзе народаў СССР.

**А. ЛІТВІН.**

На здымку: **майстар спорту Е. Я. Белая.**

Фото Ул. Марцыёнка.

## РЭВОЛЮЦЫЯНЕР — НАРОДАВОЛЕЦ

1 сакавіка 1881 года ў рускага цара Аляксандра II, які праязджаў па Пецербургу каля Екацярынінскага канала, народавольцам Рысаковым была кінута бомба. Бомба разарвалася, але не трапіла у цэль. Напалоханы выбухам, імператар на хвіліну выглянуў з карэты, каб паглядзець, што здарылася; тады да яго ўшчыльную наблізіўся другі з удзельнікаў баявой групы і кінуў бомбу проста пад ногі «яго вялікасці». Цар быў забіты. Смяртэльна паранены І. Грынявіцкага даставілі ў бліжэйшы прыдворны шпіталь, дзе ён у тойжа вечар памёр.

Імя народавольца-рэвалюцыянера І. Я. Грынявіцкага, які, паводле ўспамінаў сучасніка, не праявіў ні цень страху або хвалявання і ішоў на забойства цара з зусім спакойнай душой, стала вядома царскаму ўраду пасля заканчэння працэсу над удзельнікамі падзей 1 сакавіка.

Нарадзіўся Ігнат Яхімавіч Грынявіцкі ў 1856 годзе ў маёнтку Басін Бабруйскага павету Мінскай губерні ў сям'і аканома. Бацька яго, беззямельны шляхціч, пахадзіў з сядзібы Вялікай Грынавічы Бельскага павету Гродзенскай губерні.

У 1875 годзе пасля сканчэння рэальнага вучылішча ў г. Беластоку І. Я. Грынявіцкі паступіў на механічнае аддзяленне Пецербургскага Тэхнічнага інстытута.

У інстытуце Грынявіцкі прымаў актыўны ўдзел у рабоце рускіх і польскіх студэнцкіх рэволюцыйных гурткоў. У 1879 г. ён уступіў у члены «Рабочай групы» партыі «Народная воля», узначальваемай А. Жэлябавым і С. Пероўскай. У 1880 годзе Грынявіцкі быў выключаны з інстытута. Ён вядзе прапагандысцкую работу сярод фабрычназаводскіх рабочых, становіцца адным з галоўных арганізатараў «Рабочай газеты» і падпольнай друкарні, дзе нелегальна друкавалася газета і дзе ён сам працаваў наборшчыкам.

Калі кіраўніцтвам «Народнай волі» было прынята рашэнне аб забойстве Аляксандра II, Грынявіцкі выказаў жаданне прыняць непасрэдны ўдзел у ажыццяўленні гэтай пастановы. Разам з другімі ён актыўна рыхтаваўся да задання, вывучаў маршрут цара, сачыў за яго выездам. С. Пероўская, ведаючы смеласць, рашучасць, цвёрдасць, вытрымку І. Я. Грынявіцкага, прызначыла яго на самы адказны ўчастак — у групу кідальшчыкаў.

Забойства І. Я. Грынявіцкім цара не апраўдала надзей народавольцаў. Тэрор не выклікаў масавага руху. Забойствам цара нельга было звергнуць самадзяржаўе, нельга было знішчыць клас памешчыкаў. Народавольцы не разумелі, што гісторыю робіць не выдатныя адзіночкі, «героі», а народ, што не героі ствараюць народ, а народ стварае герояў і рухае наперад гісторыю.

**І. ЦІШЧАНКА.**

# Начныя прыгоды

У самым цэнтры Мінска, падыходзячы да поўднёвай часткі стадыёна «Дынамо», пралягае Беларуская вуліца. Тут сярод невысокіх будынкаў знаходзіцца дэндрарый Лесатэхнічнага інстытута — жывая калекцыя living рознастайных дрэў і кустарнікаў. А побач з дэндрарыем — невялікі ўчастак аднаго з старэйшых мічурынцаў нашай сталіцы Е. С. Янушэўскага, садавода, кветкавода і пчаляра.

### БЕЗ ПРАПІСКІ!

Сад Е. С. Янушэўскага і дэндрарый, дзе загадчыкам ён-жа, вартуе чуйны дваровы сабака. Асенняй ноччу, пра якую пойдзе гаворка, лахматы вартаўнік быў на ланцугу, і на тэрыторыю, якую ён вартаваў, беспакарана прайшоў нехта пабочны. Сабака забрахаў. На парозе з'явіўся ўсхваляваны гаспадар. Аднак, колькі ён ні глядзеў, у начной цемры нікога не было відаць. Да таго-ж і сабака трохі супакоіўся і толькі сярдзіта бурчэў. Крыкнуўшы на яго, Янушэўскі вярнуўся ў хату. Але толькі ён зачыніў дзверы, як настойлівы брэх на двары пачуўся зноў. Прылося зноў выйсці. Былі агледжаны ўсе куткі саду і дэндрарыя. І зноў нічога падазронага не было знойдзена. Янушэўскі падыйшоў да сабакі, каб заспакоіць яго, і тут толькі звярнуў увагу на тое, што сабака брахаў не ўбок саду, а са злосцю і разам з тым нерашуча заглядваючы ў сваю будку. Запаліўшы ліхтарык, Янушэўскі агледзеў сабачую будку ўнутры і заўважыў там нейкі шэры камяк. Калі ён працягнуў руку, каб узяць гэты камяк, рука пакалолася аб нешта вострае. А праз некалькі секунд высветлілася, што гэта быў вожык. Калючы парушальнік спакою быў загорнуты ў шапку і адиесены ў хату. Сабака, супакоіўшыся, заняў сваю жылплошчу, і парадак, такім чынам, устанавіўся зноў.

Але чаму ў сабачую будку залез вожык? Адкуль ён узяўся?

Справа ў тым, што напярэдадні Е. С. Янушэўскі змяніў свайму сабаку жыллё: замест непрыгоднай будкі быў пастаўлены стары пчаліны вулей. Да гэтага вулей стаяў непадалёку ад будкі. Як высветлілася раніцай, пад ім было зроблена гняздо вожыка. Відаць, застаўшыся без жылля, вожык накіраваўся на пошукі новага месца жыхарства, знайшоў «свой» вулей, які да таго-ж ляжаў цяпер бокам, і палічыў сваім законным правам пасяліцца ў ім. Далейшыя падзеі ўжо вядомы. Кожны з жыхароў старога вулля палічыў другога за незаконнага жыхара, які не мае прапіскі па гэтаму адрасу. Вожык аказаўся больш настойлівым і, выгнаўшы з вулля сабаку, скурчыўся ў камячок і заснуў, не звяртаючы ўвагі на шум.

### ПРЫГАЖУНЯ-ЗЛАДЗЕЙКА

Праз некаторы час, неяк ужо зімою, у маленькім доме на Беларускай вуліцы зноў паднялася трывога. На гэты раз неспакойным месцам аказалася невялікая цяпліца. У зімовы час тут захоўваюцца расліны, а таксама жыве некалькі хатніх качак. Для таго, каб у цяпліцу заходзіла свежае паветра, адна шыба ў даху цяпліцы звычайна бывае вынятай.

У поўноч, калі некаторыя з жыхароў дома ўжо спалі, з вуліцы данёсся трывожны крык качак. Перапалох у качыным сямействе не сціхаў, і гаспадыня выйшла на двор, каб паглядзець, у чым справа.

Ярка свяціў месяц. Тоўсты пласт свежага снегу рабіў крокі нячутнымі. Жанчына дайшла да вугла, паглядзела ў бок цяпліцы і замёрла ад нечаканасці. На даху, пільна ўглядаючыся унутр памяшкання, стаяла ліса! Усё цела яе было выцягнута ў трапяткім напружанні, хвост распушаны. Адну з пярэдніх лапак ліса трымала прыпаднятай, гатовая схапіць здабычу.

Янушэўская стаяла ад лісы на адлегласці трох-чатырох крокаў любуючыся рэдкім відовішчам, а затым хутка пабегла ў хату: нехай і іншыя паглядзяць на гэтую сцэну.

Гаспадар дома і яго сын адразу-ж кінуліся на вуліцу. Забыўшыся аб асцярожнасці, яны хлопнулі за сабою дзвярыма і... У адзін момант яны дабраліся да цяпліцы, але лісы, як кажуць, і след прастыў.

— А можа гэта быў звычайны кот? — сумняваўся потым Янушэўскі.

Але жонка яго сцвярджала, што не памылілася.

— Тады рыжая зладзейка можа прыйсці да нас зноў. Спакуса для яе вельмі вялікая!

І ліса сапраўды прышла зноў. На наступную ноч, таксама прыкладна каля дванаццаці гадзін, качкі зноў спалохана закрычалі. Янушэўскі бясшумна выбраўся з хаты і падкраўся да вугла. Звер быў на сваім месцы. Аблізваючыся і дрыжучы ад узбуджанасці, ліса гатова была скочыць у цяпліцу. Янушэўскі пастаяў некалькі хвілін. У руках у яго была стрэльба.

— Страляць? — спытаў ён сам у сябе.

І замест адказу ціхенька свіснуў. Імгненне, — і звера не стала. Дужыя лапкі, як спружына, адштурхнулі лісу ад даху цяпліцы. Аднаго скачка ёй аказалася дастаткова для таго, каб знікнуць з поля зроку.

«А ў трэці раз прыдзе?» — падумаў Янушэўскі, разраджаючы стрэльбу.

Ліса прышла не толькі і на трэцюю, але і на чацвёртую ноч. Кожны раз, палюбаваўшыся лясной прыгажуняй, Янушэўскі чым-небудзь палохаў яе і ў думках развітваўся да наступнага спаткання.

Дзе-ж яна жыла днём? Чым харчавалася?

У выхадны дзень Янушэўскі абыйшоў усіх суседзяў і нават некалькі дамоў на суседніх вуліцах, усюды пытаючыся пра лісу. Аказалася, што яна больш нікога паблізу не наведвала або рабіла гэта вельмі непрыкметна і без разбою. І толькі ў канцы дня, зайшоўшы ў дзіцячы сад, будынак якога выходзіць на вуліцу Свердлова, яму ўдалося даведацца аб усім, што яго цікавіла.

Аказалася, што лісу яшчэ восенню падаравў дзецям нехта з бацькоў, і яна жыла на ланцужку ў хляве, дзе ляжаць дровы. Ёй часта аддавалі курыныя галовы і лапкі. Адчувала ліса сябе вельмі добра і нават не спрабавала збегчы. Незадоўга да падзей, якія тут апісваюцца, у лісы лопнуў ашыйнік, і яна аказалася свабоднай, але нават і цяпер не рассталася са сваёю норкаю, якую яна выкапала пад дровамі.

— Хочаце паглядзець? — прапанавалі Янушэўскаму. — Яна і зараз, мусіць, дома.

Так, ліса ляжала у нары.

— Чаму-ж вы яе зноў не пасадзіце на ланцуг? Яна-ж можа прапасці.

— Не даецца. Кусаецца!

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Каб захаваць качак ад нападу, Янушэўскаму прышлося ўставіць у дах шыбу і змяніць сістэму вентыляцыі цяпліцы. Але ноччу цяпер паднімалі шум не качкі, а сабакі. Хоць ліса была і вельмі асцярожная, але сабакі пачалі прыкмячаць яе і ганяліся за ёй па садах і агародах. Днём, як ні ў чым не бывала ліса сядзела ў сваёй норцы, пад дровамі.

Кончылася ўся гісторыя, як і трэба было чакаць, тым, што ліса ўсё-ж прапала. Нара ў хляве апусцела. Качкі жывуць спакойна. Стары аматар прыроды пазбавіўся цудоўных наведванняў.

Аднак начамі калі-ні-калі зноў узнікае сабачы візг і брэх.

Каго ганяюць сабакі цяпер?..

**А. Д.**

# ШАХМАТЫ

пад рэдакцыяй майстра спорту
А. СУЭЦІНА

## КОНКУРС НА РАШЭННЕ ЗАДАЧ І ЭЦЮДАЎ

### ЗАДАЧА 1



**Мат у 2 ходы.**
**Белыя:** Крс6, Фg1, Лf2, Ch6, Кс7, пп: d3, g6 (7)
**Чорныя:** Крf6, Се3, пп: f5 (3)

### ЗАДАЧА 2



**Мат у 2 ходы.**
**Белыя:** Крd8, Фа7, Ле7, Лh5, Са8, Cb8, Кd6, Ке4, пп: g4 (9)
**Чорныя:** Кре5, Лd1, Се6, Cg5, Ке3, пп: с4, f3, f4, h6 (9)

### ЗАДАЧА 3



**Мат у 3 ходы.**
Белыя: Крс1, Фf1, Cb2, Ке5, Кf4 (5)
**Чорныя:** Кре3, Фg8, Лh4, Кb6, пп: с7, е4 (6)

### ЗАДАЧА 4



**Мат у 4 ходы.**
**Белыя:** Крd3, Лс6, Лh1, пп: h6 (4)
**Чорныя:** Крf2, пп: а4, h7 (3)

### ЭЦЮД 1



**Нічыя.**
**Белыя:** Крd4, Лg8; пп: е2, е4 (4)
**Чорныя:** Крb2, Ле5, Cf4, пп: е7 (4)

### ЭЦЮД 2



**Выйгрыш.**
**Белыя:** Крg1, пп: а2, b2, с5, d5, f5 (6)
**Чорныя:** Крh4, пп: b4, с7, d7, g7, h7 (6)

Удзельнікам, якія правільна рашаць задачы № 1 і № 2, залічваецца па 2 ачкі за кожную; за правільнае рашэнне задачы № 3—3 ачкі; № 4—4 ачкі, эцюдаў № 1 і № 2 — па 5 ачкоў.

Удзельнікі конкурсу, якія правільна рашаць усе задачы і эцюды, будуць прэміраваны рэдакцыяй часопіса «Маладосць».

Тэрмін прысылкі рашэнняў — два месяцы з дня выхаду нумара з друку.

# КРАСВОРД

**Склаў Ул. Несцяровіч**

**Па гарызанталі:** 1. Вадкасць хваёвых дрэў. 4. Санкі. 6. Герой паэмы Якуба Коласа. 8. Правілы паводзін чалавека. 9. Шкляная пасуда. 13. Напрамак дарогі, канала. 15. Невялікі драпежнік. 17. Сталіца Эстонскай ССР. 19. Балотная трава. 21. Смала для вырабу лакаў. 23. Досыць, даволі. 24. Мера выкананай працы. 25. Імклівы напад. 28. Першае поле ў севазвароце. 31. Дрэва. 35. Адзінка сілы току. 36. Вялікі літаратурны твор. 37. Чалавек у каланіяльных краінах Далёкага Усходу, які возіць багацеяў. 38. Прыток Лены. 39. Піонерскі лагер у Крыму. 40. Спускавы механізм агнястрэльнай зброі. 41. Вялікі кацёл для прыгатавання ежы. 43. Партовы горад у Трансіярданіі. 45. Украінскі народны танец. 46. Атака самалёта або танка. 49. Геаметрычнае цела. 51. Лісцёвае дрэва. 52. Вецер, які дзьме летам з акіяна, а зімой з сухазем'я. 54. Прадстаўнік народнасці адной з дэмакратычных краін. 55. Дзеючая асоба драмы Я. Купалы «Раскіданае гняздо». 57. Насякомае. 58. Спалучэнне аднародных прадметаў. 60. Хвароба. 64. Дзяржава ў Азіі. 65. Самая вялікая рака Балтыйскага басейна. 66. Блізкі чалавек. 67. Руская народная гульня з мячыкам. 68. Дзяржава ў Поўночнай Афрыцы.

**Па вертыкалі:** 2. Сталіца саюзнай рэспублікі. 3. Чалавек, які напісаў кнігу. 4. Горад ва Узбекістане. 5. Нацыянальная аўтаномная вобласць Кітая. 7. Маскараднае ўбранне. 10. Штучнае рэчышча. 11. Корм для жывёлы. 12. Хата кітайскага селяніна. 14. Некалькі гукаў, злучаных у адным гарманічным гучанні. 16. Апавяданне Міхася Лынькова. 17. Каляска. 18. Верхняя частка калоны. 20. Ядавітае дрэва. 21. Галоўка капусты. 22. Прылада для кляпання касы. 26. Сорт яблык. 27. Рака на Каўказе. 29. Трапічная расліна. 30. Ільдзіна, якая стаіць рубам на роўнай ледзяной паверхні. 31. Гародняя расліна, лісце якой ідзе ў ежу ў сырым выглядзе. 32. Буйны тэкстыльны цэнтр з Крэнгольмскай мануфактурай. 33. Пятля з вяроўкі, якую накідваюць на шыю. 34. Плоскасць, на якой дэманструюцца кінофільмы. 40. Горад у Туркменскай ССР. 41. Кавалерыст. 42. Ступень свячэння цела. 44. Сталіца Грэцыі. 45. Маральная або соцыяльная вартасць. 47. Імператар, які правіў Рымам у 54—68 гг. н. э. 48. Адно са старажытных грэчаскіх паселішчаў на ўзбярэжжы Малой Азіі, якое мела некаторае гандлёвае значэнне. 50. Спосаб афарбоўкі сцен. 53. Белы крохкі метал, які ўжываецца для розных сплаваў. 54. Горы ў Сярэдняй Азіі. 56. Мастацкі жанр. 59. Статак авечак. 61. Пладовае дрэва. 62. Спартыўны інвентар. 63. Старажытны народны музычны інструмент.



Рэдакцыя часопіса «Маладосць» аб'яўляе конкурс на лепшы фотаздымак. У конкурсе могуць прыняць удзел усе жадаючыя. Тэматыка здымкаў неабмежаваная. Лепшыя здымкі будуць друкавацца па меры паступлення ў рэдакцыю. У канцы года лепшыя здымкі і фотанарысы будуць прэміраваны.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ У № 1 ЧАСОПІСА

**Па гарызанталі:** 1. Афрыка. 4. Адвага. 7. Неалагізм. 10. Лямант. 11. Сціртa. 12. Орол. 13. Паэт. 15. Антэна. 17. Мат. 18. Рапарт. 23. Касметыка. 25. Аорта. 26. «Маска». 27. Док. 28. Ямб. 29. Расол. 32. Крама. 33. Авіяматка. 34. Караед. 36. Сем. 37. Пясняр. 42. Араб. 43. Гімн. 44. Сектар. 45. Еўфрат. 46. Туркестан. 47. Жырафа. 48. Турнір.

**Па вертыкалі:** 1. Адліга. 2. Рамонт. 3. Антонаўка. 4. Амстэрдам. 5. «Аўрора». 6. Апатыт. 8. «Амок». 9. Іран. 14. Лафет. 16. Намаграма. 19. Рэпарацыя. 20. Эстонія. 21. Дыяметр. 22. Траса. 24. «Астап». 30. Ландкарта. 31. Ампер. 32. Кампанент. 34. Карсаж. 35. Рабкор. 38. Нейрон. 39. Рэктар. 40. Каір. 41. Ліст.

## АДКАЗЫ НА ГАЛАВАЛОМКІ

### РАССТАЎЦЕ ЛІЧБЫ

I рад — 15; II — 8, 11; III — 20, 17, 14; IV — 3, 6, 9, 12; V — 25, 22, 19, 16, 13; VI — 1, 4, 7, 10; VII — 24, 21, 18; VIII — 2, 5; IX — 23.

### КРЫПТАГРАМА

Ні вокан, ні дзвярэй — поўна хата людзей.

(Гарбуз)


Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі, Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.

Фармат паперы 70 × 108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7.
Здадзена ў набор 13.I.56. г. Падпісана да друку 28.I.56 г.

АТ 00921 Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 31.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# Моды





**1. Плацце з шэрай шэрсці. Ліф настрочаны на спадніцу сантыметровай строчкай. Разрэз спераду ліфа. Па абодва бакі разрэза — рамачкі. Каўнерык — стойка. Завязка шнурком з кісцямі. Пояс на шлёўцы. Спадніца з дзесяці клінняў.**

Аўтар мадэлі Ю. Папковіч.
(Мінскі дом мадэлей.)

**2. Плацце з шаўковай тафты ў клетачку. Ліф прылягаючай формы. Да сярэдзіны полачак з кожнага боку прыточаны двайныя бейкі, якія разрэзаны ў трох месцах і адгінаюцца ў розныя бакі. У швах прарэзаны петлі. Ніз плацця — клёш «сонца».**

Аўтар мадэлі Е. Істоміна.
(Маскоўскі універмаг.)

**3. Летні касцюм са светлай тканіны. Безрукаўка з глыбокім разрэзам, аздобленая па краю сіняй цясьмой. Зашпільваецца на 3 гузікі. Ззаду вузкі хлясцік. Апранаць з блузкай з сіняга крэп-жаржэту. Спадніца раскляшоная з чатырох кліноў, закладзеных у таліі мяккімі складкамі.**

Аўтар мадэлі Р. Зінгер.
(Маскоўскі універмаг.)



